ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 23 (2602)
ПЯТНІЦА
9
чэрвеня 1972 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.



Якуб Колас... Волат літаратуры беларусаў... Створаная ім «энцыклапедыя народнага жыцця» стала невычарпальнай крыніцаю, якая вось ужо колькі дзесяцігоддзяў жывіць натхненне мастакоў—графікаў, жывапісцаў, скульптараў.

Але не толькі персанажы твораў Якуба Коласа хвалююць мастакоў. Вобраз самога песняра імкнуцца перадаць яны і ў скульптуры, і ў жывапісе, і ў графіцы.

Галерэя партрэтаў Якуба Коласа ў графіцы папоўнілася. Аўтар гэтай лінагравюры—Васіль Ткачук.

# НАШ ГОНАР, НАША ЗМЕНА



Гэтыя два здымкі, зробленыя ў Мінску і Гродне занатавалі два імгненні вялікага свята беларускай піянерыі, што адбылося ў мінулую суботу і было прысвечана 50-годдзю Усесаюзнай піянерскай арганізацыі імя У. І. Леніна.

Адзін колер панаваў у той дзень на вуліцах гарадоў і вёсак рэспублікі — чырвоны колер піянерскіх гальштукаў. Адзін гук панаваў над усімі гукамі — пошчак піянерскіх барабанаў. Гэта выйшла на вуліцы наша шчаслівая дзятва, наш гонар, наша змена.

На вялікі парад піянерыі ў Мінску з'ехаліся пасланцы піянерскіх арганізацый з усіх куткоў Беларусі — лепшыя з лепшых у вучобе і грамадскай рабоце.

На свята да юных ленінцаў прыйшлі кіраўнікі Камуністычнай партыі і ўрада, камсамола рэспублікі.

Ад імя Цэнтральнага Камітэта КП Беларусі, Прэзідыума Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў БССР юных ленінцаў павіншаваў з выдатным святам Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Ф. А. Сурганаў. «Вы, юныя піянеры, — маладшае пакаленне камуністаў, — сказаў ён, — вы будучыня нашай краіны... І мы ўпэўнены, што дзеці нашы з гонарам панясуць далей эстафету працы і барацьбы савецкага народа».

Бурнай авацыяй сустрэлі прысутныя паведамленне аб тым, што Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР, адзначаючы слаўныя справы беларускай піянерыі, узнагародзіў рэспубліканскую піянерскую арганізацыю Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР.

Потым па плошчы ўрачыстым маршам прайшлі піянерскія калоны.

У той жа дзень на мінскім стадыёне «Дынама» адбылося маляўнічае спартыўна-гімнастычнае свята, у якім прынялі ўдзел юныя фізкультурнікі.

## КАНДЫДАТЫ НАЗВАНЫ

*У цэнтральным друку апублікаваны імёны пісьменнікаў і дзеячоў мастацтваў, вылучаных на атрыманне Дзяржаўных прэмій СССР 1972 года.*

*У галіне літаратуры такім ад Беларусі з'яўляецца драматург А. Макаёнак — аўтар п'ес «Зацюканы апостал» і «Трыбунал». Прадстаўлены Саюзам пісьменнікаў рэспублікі.*

*У галіне тэатральнага мастацтва названы той жа А. Макаёнак, рэжысёр В. Раеўскі і артысты Г. Макарава і Г. Аўсяннікаў за спектакль «Трыбунал» у Беларускім дзяржаўным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы. Яны прадстаўлены Міністэрствам культуры Беларускай ССР і Беларускім тэатральным аб'яднаннем.*

## МАСТАКІ АБМЯРКОЎВАЮЦЬ ПАСТАНОВУ ЦК КПСС

Пашыраны пленум праўлення Саюза мастакоў БССР, прысвечаны абмеркаванню пастановы ЦК КПСС аб літаратурна-мастацкай крытыцы, адбыўся 6-га чэрвеня ў памяшканні Саюза мастакоў БССР.

З дакладам «Пастанова ЦК КПСС аб літаратурна-мастацкай крытыцы і задачы Саюза мастакоў БССР» выступіў старшыня праўлення Саюза мастакоў БССР, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР В. Грамыка.

У зацікаўленай, шчырай размове аб праблемах і задачах беларускай мастацтвазнаўчай крытыкі прынялі ўдзел У. Бойка, Б. Крэпак, В. Шматаў, Л. Дробаў, М. Ганчароў, Ю. Карачун, І. Елатамцава, М. Гуціеў, А. Белавусаў, А. Сурскі.

У рабоце пленума прынялі ўдзел загадчык аддзела культуры ЦК КПБ С. Марцалеў і намеснік міністра культуры БССР А. Ваніцкі.

Справаздача аб рабоце пленума будзе надрукавана.

## ПАЧУЦЦЁ СЯМ'І АДЗІНАЙ

У сувязі з падрыхтоўкай да залатога юбілею СССР, традыцыйная «Брэсцкая вясна» праходзіць у гэтым годзе асабліва радасна і ажыўлена. Не паспелі працаўнікі Брэстчыны ўрачыста адзначыць дні рускай культуры, якую прадстаўляла дэлегацыя працоўных Арлоўшчыны, як трэба было ўжо рыхтавацца да сустрэчы дарагіх гасцей з братняй Украіны.

Пачаліся дні культуры Луцка — і зноў брастчане і валынцы адчулі жыватворную сілу дружбы народаў, вялікага інтэрнацыянальнага «пачуцця сям'і адзінай». У сакавіку дэлегацыя творчай інтэлігенцыі Брэста рапартавала аб сваіх дасягненнях працаўнікам Валыні, а ў маі самім давялося горача вітаць лучан, якія прыехалі з візітам у адказ.

У праграме дзён культуры Луцка вялікае месца адводзіцца прафесійнаму мастацтву, літаратуры і народнай творчасці.

Аб прафесійным майстэрстве, высокай адоранасці і ідэйна-мастацкай накіраванасці выяўленчага мастацтва Валыні ярка і ўражліва расказвае выстаўка іх работ. У яе экспазіцыю, разгорнутую ў залах мастацкага салона, уваходзіць каля 100 твораў жывапісу, графікі і скульптуры. Запамінаюцца такія работы, як «Натхненне», «Ліда» і іншыя тэматычныя палотны Н. Гевялюка, каларытныя, лірычныя пейзажы М. Якубека, А. Байдукова, А. Клімава, графічныя лісты з высокім грамадзянскім гучаннем М. Савіцкага, В. Кірылкава, М. Шамрыла, рэльефы Р. Авагяна, М. Галавань і цудоўны па тонкасці і грацыі «Партрэт дзяўчыны» Б. Федарука.

Зала Дома тэхнікі аддадзена для выстаўкі работ юных мастакоў Луцка — навучэнцаў мастацкай школы.

Цікавую выстаўку прывезлі луцкія філатэлісты М. Мудрык і галоўны ўрач дзіцячай бальніцы Д. Шкаравецкі.

З літаратурна-паэтычнай творчасцю лучан грамадскасць Брэста пазнаёмілі члены Саюза пісьменнікаў УССР паэты Пятро Мах і Восіп Струцюк, якія былі гасцямі фабрык, профтэхвучылішчаў і студэнцкага клуба педінстытута. На прысвечанай ім «літаратурнай серадзе» абласнога літаратурнага аб'яднання пры газеце «Заря» госці пазнаёміліся з літаратарамі Брэстчыны.

Валынскія кампазітары Міраслаў Стэфанішын, Піліп Матуляк і Васіль Чынч пазнаёмілі са сваёй творчасцю студэнтаў Брэсцкага музычнага вучылішча. Аўтарскія выступленні кампазітараў суправаджалі трыо бандурыстак, жаночы вакальны ансамбль і вакальны дуэт Луцкага музычнага вучылішча.

**А. СУРСКІ.**

## ДА КУПАЛАЎСКАГА ЮБІЛЕЮ

6 чэрвеня адбылося чарговае пасяджэнне прэзідыума праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі. На пасяджэнні было разгледжана пытанне аб правядзенні юбілею народнага песняра Беларусі Янкі Купалы. З інфармацыяй аб тым, як пройдзе гэтае вялікае свята ў рэспубліцы і краіне, выступілі старшыня праўлення СП БССР Максім Танк і начальнік Упраўлення культасветустаноў Міністэрства культуры БССР Ж. Сінельнікава. У абмеркаванні плана мерапрыемстваў, прысвечаных юбілею, прынялі ўдзел Іван Шамякін, Васіль Вітка, Пімен Панчанка, Еўдакія Лось, Міхась Калачынскі і іншыя, якія выказалі шэраг заўваг і прапаноў.

На пасяджэнні былі абмеркаваны і іншыя пытанні літаратурнага жыцця рэспублікі і жыцця пісьменніцкай арганізацыі.

У члены Саюза пісьменнікаў былі прыняты паэты Надзея Зверава, Алесь Разанаў і Мікола Чарняўскі, празаікі Уладзімір Федасеенка і Веніямін Рудаў.

## У МІНСКУ І Ў КІЕВЕ

У стварэнні беларускага двухсерыйнага тэлевізійнага фільма «Жыццё і смерць дваранiна Чартапханава» па матывах апавяданняў І. С. Тургенева ўдзельнічалі кінематаграфісты розных рэспублік. На прэм'еру кінакарціны, якая адбылася ў Саюзе кінематаграфістаў БССР, прыехаў выканаўца галоўнай ролі народны артыст Літоўскай ССР, адзін з вядучых акцёраў Панявежскага драматычнага тэатра Бронюс Бабкаўскас. Прысутныя віталі народнага артыста Украінскай ССР Георгія Лысенку, рэжысёра Віктара Турава, кампазітара Алега Янчанку і іншых стваральнікаў фільма.

А ў Кіеве днямі адбыўся вечар беларускага кіно, прысвечаны 50-годдзю ўтварэння СССР. Аб гісторыі стварэння кінакарціны «Бацька» расказаў аўтар сцэнарыя і акцёр Расціслаў Шмыроў. Пра планы творчага аб'яднання «Летапіс» студыі «Беларусьфільм» паведаміў рэдактар І. Белавус. Кіяўлянам былі паказаны беларускія мастацкія і дакументальныя кінакарціны: «Бацька», «Была вайна» і «Дыялог з машынай».

**І. РЭЗНІК.**

## У ГОНАР ВЯЛІКАГА СВЯТА

*Калегія Міністэрства культуры БССР, прэзідыум Беларускага рэспубліканскага савета прафсаюзаў, бюро ЦК камсамола Беларусі пастанавілі правесці ў 1972—1973 гадах рэспубліканскі фестываль мастацкай самадзейнасці, прысвечаны 50-годдзю ўтварэння СССР.*

*Рэспубліканскі фестываль праводзіцца ў два туры: на прадпрыемствах, у калгасах, саўгасах, раёнах і гарадах — з мая па верасень 1972 года; у абласцях і горадзе Мінску — у кастрычніку — лістападзе 1972 года.*

*Народныя тэатры і тэатральныя калектывы, агіттэатры і агітацыйна-мастацкія брыгады, якія ажыццявілі на высокім узроўні новыя пастаноўкі або праграмы, прысвечаныя 50-годдзю ўтварэння СССР, будуць запрошаны для выступлення ў Мінску ў першай палове 1973 года.*

*Для правядзення фестывалю створаны аргкамітэт на чале з намеснікам міністра культуры БССР Р. Мачульным.*

Цэнтральны Камітэт КПБ і ўрад БССР удзяляюць вялікую ўвагу развіццю зон масавага адпачынку і агульнаму паляпшэнню жыццёвага асяроддзя. Пры распрацоўцы генеральных планаў гарадоў рэспублікі плануецца стварэнне цэласных сістэм азелянення і добраўпарадкавання. Распрацавана і зацверджана схема размяшчэння рэспубліканскіх зон масавага адпачынку, лячэння і турызму.

Асаблівая ўвага ўдзяляецца пытанням арганізацыі масавага адпачынку насельніцтва сталіцы. Спецыяльна выдзеленыя сродкі дазволілі ў 1970—1971 гг. правесці грандыёзныя па сваіх маштабах работы па інжынерным добраўпарадкаванні Заслаўскага водасховішча. У выніку гэтых работ у балот і мелкаводдзяў адваявана каля 25 км берагавой паласы. У 1970 г. запоўнена і паспяхова выкарыстоўваецца для адпачынку водасховішча на р. Вяча з сістэмай штучных пясчаных пляжаў. Заканчваецца праектаванне Драздоўскага водасховішча.

Маштабы гэтых работ і поспехі мінчан былі адзначаны на Усесаюзнай нарадзе па паркавым будаўніцтве ў верасні 1971 г.

У сувязі з павелічэннем бюджэта вольнага часу працоўных агульная патрэба ва ўстановах і месцах масавага адпачынку рэзка ўзрастае, а на першы план высоўваецца задача рацыянальнага выкарыстання і паэтапнага асваення найбольш спрыяльных рэкрэацыйных тэрыторый як гарадскіх, так і загарадных.

Арганізацыя штодзённага адпачынку працоўных у горадзе непарыўна звязана з будаўніцтвам паркаў, бульвараў, сквераў, вадаёмаў і водных сістэм. Пры гэтым вядучая роля належыць зялёным насаджэнням, якія з'яўляюцца ў горадзе галоўнай і адзінай крыніцай кіслароду. Яны ачышчаюць паветраны басейн ад газаў і пылу, рэгулююць цеплавы і радыяцыйны рэжым, аздараўляюць гарадское асяроддзе.

Пасля Вялікай Айчыннай вайны адной з галоўных задач пры рэканструкцыі Мінска стала азеляненне і добраўпарадкаванне горада, якое было ажыццёўлена ў кароткія тэрміны і ў шырокіх маштабах. Так, на працягу 10—12 гадоў у Мінску была створана сістэма паркаў, бульвараў і сквераў, якая пераўтварыла аблічча горада і стварыла спрыяльныя ўмовы для адпачынку.

За апошнія гады павялічыўся аб'ём капіталаўкладанняў на добраўпарадкаванне і азеляненне горада і асноўных зон адпачынку. У горадзе будуюцца і рэканструююцца магістралі і вуліцы, масты, пуцеправоды, пешаходныя пераходы. Пачата будаўніцтва паркаў імя 50-годдзя Кастрычніка і 900-годдзя Мінска. Вядзецца рэканструкцыя дзіцячага парку імя Горкага. Завяршаецца добраўпарадкаванне Цэнтральнага сквера і інш. Штодзень у горадзе высаджваецца вялікая колькасць дрэў і кустоў.

## НА ГАСТРОЛЬНЫХ МАРШРУТАХ

*Сёлетнія маршруты нашых тэатраў праходзяць па абласцях Беларусі, пралеглі яны і ў братнія рэспублікі. І кожная такая сустрэча выліваецца ў хвалюючае свята дружбы, братэрства, еднасці народаў СССР.*

*На провадзе Ужгарад — цэнтр Закарпацкай вобласці Украінскай ССР. Там зараз Магілёўскі абласны тэатр драмы і камедыі з Бабруйска.*

— Цудоўны самабытны край, — дзеліцца ўражаннямі галоўны рэжысёр тэатра В. Каралько. — Велічныя горы. Нязвыкла шчодрае сонца і чыстае празрыстае горнае паветра. Словам, патрэбны пэўны час на акліматызацыю... Прыехалі ўпершыню. Незнаёмы глядач. Калі гаварыць шчыра, на пачатку было боязна. Адкрылі гастролі спектаклем «Трыбунал», які мы іграем на беларускай мове. Нас зразумелі, і лёд недаверу, насцярожанасці ў ходзе спектакля таяў на ва-

# ЗЯЛЁНАЕ ХАРАСТВО СТАЛІЦЫ

## З ПЛЕНУМА ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА АРХІТЭКТАРАЎ БССР

**На 16 тысячах гектараў раскінуўся Мінск. 3,5 тысячы з іх займаюць зялёныя насаджэнні. У цэнтр горада арганічна ўпісаўся зялёны дыяметр — стужка садоў і паркаў уздоўж Свіслачы, блакітным кальцом акружылі сталіцу вадасховішчы...**

**Якія перспектывы добраўпарадкавання і азелянення Мінска ў дзявятай пяцігодцы, што трэба зрабіць, каб прыгажэлі старыя і новыя плошчы і вуліцы, як стварыць найбольш спрыяльныя ўмовы для працы і адпачынку мінчан— аб гэтым ішла гаворка на пашыраным пленуме праўлення Саюза архітэктараў БССР, які адбыўся 6-га чэрвеня ў Мінскім доме архітэктараў. У рабоце пленума прынялі ўдзел прадстаўнікі партыйных і савецкіх устаноў сталіцы, міністэрстваў, ведамстваў.**

**Даклад зроблены быў кіраўніком секцыі ландшафтнай архітэктуры Саюза архітэктараў БССР В. Шыльнікоўскай. Скарочаны пераказ даклада мы публікуем.**

Значныя работы па добраўпарадкаванні і азеляненні горада выконваюць выканкомы раённых Саветаў дэпутатаў працоўных і грамадскасць горада.

Генеральным планам Мінска і праектам воднага добраўпарадкавання горада прадугледжваецца стварэнне ў Мінску цэласнай сістэмы азелянення і абваднення, якая будзе арганічна звязана з акаляючым горад лесапаркавым поясам і з зонамі загараднага адпачынку. Аснову гэтай сістэмы ўтварае галоўны зялёны дыяметр горада, які праектуецца ўздоўж Свіслачы, і водна-паркавае кальцо, якое ўздоўж Сляпянскай і Лошыцкай водных сістэм пройдзе праз цэнтры новых жылых раёнаў. Гэтая сістэма дапоўніцца паркамі і бульварамі агульнагарадскога значэння.

Аднак на практыцы гэтыя прагрэсіўныя ідэі ажыццяўляюцца пакуль нездавальняюча, а лепшыя традыцыі пасляваенных гадоў паступова забываюцца. Тэмпы зялёнага будаўніцтва адстаюць ад бурных тэмпаў росту горада і яго жыллёвага будаўніцтва. У выніку ў Мінску складваецца разрыў паміж павелічэннем колькасці гарадскога насельніцтва і колькасцю ўстаноў, неабходных для адпачынку і для аздараўлення гарадскога асяроддзя.

Пры праектаванні не надаецца неабходнай увагі пытанням выкарыстання і фарміравання гарадскога ландшафту (рэльефу, акваторыям, зялёным масівам). Пры гэтым недаацэньваецца ўплыў ландшафту мясцовасці на кампазіцыйна-планіровачную і функцыянальную арганізацыю гарадской забудовы.

У адрозненне ад раду буйных гарадоў краіны, для Мінска да гэтага часу не распрацавана генеральная схема зялёнага будаўніцтва, не вызначаны аб'ёмы першачарговых мерапрыемстваў. Таму вяснова-асеннія кампаніі па пасадцы дрэў і кустоў праводзяцца, як правіла, стыхійна, без неабходных праектных абгрунтаванняў і не даюць належнага эфекту. А сілы грамадскасці ў такіх умовах выкарыстоўваюцца вельмі нерацыянальна.

Таксама нерацыянальна выкарыстоўваюцца і дзяржаўныя сродкі, што выдаткуюцца на азеляненне, якое толькі на 10—15 працэнтаў вядзецца спецыялізаваным трэстам зялёнага будаўніцтва. Астатнія пасадкі выконваюцца будаўнічымі арганізацыямі некваліфікавана, з нізкай якасцю. Догляд за пасадкамі не ажыццяўляецца. У выніку прыжывальнасць насаджэнняў нізкая і яны гінуць больш чым напалавіну.

Нездавальняюча арганізавана і эксплуатацыя зялёных насаджэнняў, з якіх толькі 30 працэнтаў — спецыялізаванага трэста зялёнага будаўніцтва.

Рост плошчы зялёных насаджэнняў у Мінску ідзе ў асноўным за кошт уключэння ў гарадскую рысу прылягаючых лясоў, а не за кошт стварэння новых паркаў.

Лепшыя з існуючых зялёных збудаванняў размешчаны ў цэнтральнай частцы Мінска. Гэта парк імя 30-годдзя БССР, скверы ля опернага тэатра, на плошчах Перамогі і Леніна і некаторыя іншыя. Колькасць гэтых зялёных астравоў вельмі малая і ў агульным балансе горада. У Мінску няма ні аднаго доследна-паказальнага парку, ні аднаго спецыялізаванага парку, адсутнічаюць гарадскія «зоны здароўя», «зоны забаў», «паркі мастацтваў» і да т. п. Дзіцячы парк імя Горкага працуе ў абмежаваных і неспрыяльных умовах. Вельмі нізкая агульная культура малых архітэктурных форм, элементаў добраўпарадкавання, прыёмаў азелянення.

У апошні час намецілася трывожная тэндэнцыя забудовы галоўнага зялёнага дыяметра Мінска буйнымі гарадскімі і камунальнымі збудаваннямі. Так, у пойме Свіслачы, у зялёным дыяметры горада, ля перасячэння ракі з вуліцай Кастрычніцкай замест прадугледжанай праектам кветкавай гаспадаркі з пастаяннай выстаўкай-продажам кветак і бульварам пабудавана база ўборачных машын з вялікім складам пяску, хоць такія базы павінны размяшчацца за межамі гарадской рысы, а не ў цэнтры горада. У зоне адпачынку ля Драздоўскага вадасховішча і Камсамольскага возера развіваюцца аб'екты, не звязаныя з задавальненнем патрэб адпачываючых (керамічны завод, птушкафабрыка імя Крупскай і інш.).

Найбольш адстаючым у Мінску з'яўляецца азеляненне і добраўпарадкаванне тэрыторыі жылых мікрараёнаў. У сувязі з нездавальняючай арганізацыяй работ, прадугледжанае праектамі азеляненне будаўнікамі не выконваецца, сродкі выдаткуюцца нерацыянальна, а існуючыя насаджэнні (асабліва пладовыя сады) у працэсе будаўніцтва знішчаюцца. Такім чынам, насельніцтва пазбаўляецца неабходнай калядамавой зеляніны.

У выніку такой практыкі, азелянёныя тэрыторыі ў Мінску беспакарана скарачаюцца.

У гэтых адносінах паказальны прыклад Масквы, дзе гарвыканком прыняў спецыяльнае рашэнне, якое абавязвае парубшчыка пасадзіць дрэвы ў месцах, указаных гарвыканкомам, у колькасці роўнай або перавышаючай вырубку ў 10-кратным памеры!

Праектам планіроўкі прыгараднай зоны Мінска, які выканаў Інстытут «Мінскпраект» у 1971 годзе, вызначаны агульныя напрамкі ў развіцці сістэмы масавага загараднага адпачынку мінчан. Аднак першачарговыя мерапрыемствы па планамерным развіцці гэтай сістэмы распрацоўваюцца вельмі марудна. З 24 перспектыўных зон адпачынку праекты планіроўкі выпушчаны толькі для дзвюх зон: «Заслаўскае водасховішча» і «Вяча». У стадыі распрацоўкі знаходзіцца праект зоны «Пціч».

Рабочыя праекты агульнага добраўпарадкавання зараз не распрацоўваюцца ні для адной зоны адпачынку.

У выніку Мінск не мае сёння ні адной канчаткова добраўпарадкаванай зоны адпачынку, ні аднаго завершанага комплексу адпачынку, ні аднаго загараднага парку або лесапарку. Так утвараецца дыспрапорцыя паміж патрэбамі і іх задавальненнем.

У ваколіцах Мінска ідзе стыхійнае асваенне найбольш спрыяльных у прыродных адносінах тэрыторый. Канцэнтрацыя адпачываючых тут у 4—6 разоў перавышае максімальныя межы дапушчальных нагрузак на прыродныя ландшафты. У сувязі з гэтым пад пагрозай гібелі знаходзяцца каштоўныя лясныя масівы на ўзбярэжных зонах Заслаўскага водасховішча, вадасховішчаў на рацэ Вяча і на рацэ Пціч. Тут вытаптана надглебавае покрыва, знішчаецца падлесак, лясы церпяць страты ад самавольных пасечак, ад пажараў, выкліканых развядзеннем кастроў, узбярэжныя тэрыторыі знаходзяцца ў антысанітарным стане.

Наспела неабходнасць тэрміновага пераўтварэння гэтых лясоў у лесапаркі са збудаваннем дарожна-сцежкавай сеткі, месц для пікнікоў, кастроў і палатак, з інжынерным абсталяваннем, аднаўленнем раслінных покрываў і строгім рэжымам эксплуатацыі.

Важную ролю ў сістэме масавага адпачынку адыгрываюць прыгарадныя лясы. Аднак у сучасны момант агульная плошча зялёнай зоны Мінска (І-я група лесакарыстання) у пяць разоў ніжэйшая за нарматыўную. Мяжа гэтая была ўстаноўлена ў 1945 годзе і з таго часу ні разу не пераглядалася. Натуральна, што такая зялёная зона ўжо не можа задаволіць патрэб сталічнага горада з моцна развітай прамысловасцю і з насельніцтвам, якое вырасла за мінулыя 26 гадоў больш, чым у шэсць разоў.

На ўсёй астатняй тэрыторыі прыгараднай зоны Мінска і ў перспектыўных зонах масавага адпачынку вядзецца прамысловая высечка драўніны (II група лесакарыстання), што прыводзіць да скарачэння найбольш каштоўнага спелага лесу.

У сувязі з гэтым існуе неабходнасць тэрміновага перагляду межаў зялёнай зоны Мінска ў бок павелічэння, згодна дзейных нарматываў і па аналогіі з буйнымі гарадамі нашай краіны (Масква, Ленінград, Кіеў і інш.).

Установы адпачынку ў прыгараднай зоне Мінска размяшчаюцца «паштучна» і выбарачна, без адзінай сістэмы. Пры гэтым нярэдка парушаюцца дзейныя нормы і рэкамендацыі, участкі устаноў перавышаюць нарматыўныя, парушаецца функцыянальнае заніраванне тэрыторыі зон адпачынку, інжынернае абсталяванне і добраўпарадкаванне ажыццяўляюцца без неабходнай кааперацыі сродкаў і да т. п.

Усё гэта прыводзіць да распылення капіталаўкладанняў, да нерацыянальнага выкарыстання каштоўных тэрыторый і да шкоды для прыроднага асяроддзя.

Агульнае архітэктурнае рашэнне большасці ўстаноў адпачынку і абслугоўвання, узровень добраўпарадкавання, элементаў абсталявання ў якасці будаўніцтва даводзіцца ацэньваць як нездавальняючае. Шматлікія прыклады самавольнага будаўніцтва ў зонах адпачынку суправаджаюцца бескантрольнай вырубкай лесу.

Нездавальняюча арганізавана праектаванне зон, устаноў і збудаванняў масавага адпачынку, паркаў, бульвараў і сквераў, малых архітэктурных форм і элементаў добраўпарадкавання. Адсутнасць спецыялізаванага праектнага падраздзялення прыводзіць да нізкай якасці асобных праектаў, да распылення сродкаў і спецыялістаў, якіх і без таго вельмі мала.

Не ўпарадкавана планаванне работ па праектаванню і будаўніцтву аб'ектаў рэкрэацыйнага профілю.

Настаў час узнавіць у Беларусі ландшафтнае і садова-паркавае мастацтва на якасна новай аснове, у адпаведнасці з сучаснымі патрабаваннямі горадабудаўніцтва.

---

чах. Сустракалі шчыра, па вялікім рахунку, як правамоцных прадстаўнікоў мастацтва братняга беларускага народа.

Паралельна паказваем спектаклі і ў другім закарпацкім горадзе — Мукачаве. За першыя дні работы гледачы ўбачылі ўжо «Прачніся і спявай», «Ветрык, вей», «Даходнае месца».

Хочацца бліжэй пазнаёміцца з новым для нас гледачом. Цікавая творчая сустрэча адбылася на машынабудаўнічым заводзе, у якой прыняла ўдзел група артыстаў тэатра. Будуць сустрэчы і на іншых прадпрыемствах і ў калгасах. Пакажам гледачам яшчэ і такія свае работы: «А зоры тут ціхія...». «Адны, без анёлаў», «Золушка», з рускай класікі — «Ідыёта» Ф. Дастаеўскага. Плануецца перадача па мясцовым тэлебачанні.

Калі мы не надакучым гледачам, то будзем выступаць тут увесь чэрвень, а ў ліпені бяром курс на Драгобыч і Трускавец.

Працаваць даводзіцца многа, бо адначасова з паказам гастрольнай афішы ідуць рэпетыцыі двух новых спектакляў— «Драматычная песня» і «Птушкі нашай маладосці». З прэм'ерай «Драматычнай песні» мяркуем пазнаёміць гледачоў Ужгарада і Мукачава ў другой палове чэрвеня.

*Цікава склалася сёлетняе гастрольнае лета і ў Рэспубліканскім тэатры лялек БССР. У красавіку—маі адна творчая група тэатра выступала ў Кіеве. У гэты ж час Кіеўскі тэатр лялек гастраляваў у Мінску.*

— Наш калектыў у сталіцу братняй Украіны прыехаў другі раз, — расказвае дырэктар тэатра Л С.ольскі. — Парадавалі сардэчнасць і цеплыня прыёму, шчырасць і непасрэднасць нашых галоўных гледачоў — юных аматараў тэатра. Кіяўляне ўбачылі чатыры работы—«Звоны-лебедзі», «Васіліса Прыгожая», «Кот ў ботах», «Чароўная галёша». Два разы выступалі па Кіеўскім тэлебачанні — паказалі «Ката ў ботах» і «Васілісу». 71 спектакль — такія вынікі нашых гастроляў на Украіне.

Другая творчая група калектыву ў гэты ж час паказвала спектакль «Алі-Баба і разбойнікі» ў Магілёўскай вобласці. Зараз тэатр выступае на стацыянары, у палацах і дамах культуры Мінска і вобласці. Выязджаем у калгасы і саўгасы, піянерскія лагеры, дзіцячыя сады.

Адначасова рыхтуем новы спектакль для школьнікаў малодшага ўзросту—«Ты для мяне», прэм'ера якога адбудзецца ў канцы чэрвеня. На парадку дня і новы спектакль для дарослых — балеты І. Стравінскага «Жар-птушка» і Поля Дзюка «Вучань чарадзея».

Гастрольнае лета сёлета ў нас закончыцца ў... кастрычніку. Упершыню наш тэатр будзе выступаць у Валгаградзе, а ў Мінск прыедуць валжане.

*Гродзенскі абласны драматычны тэатр гастролямі юбілейнага года абслужыць працоўных свайго Прынёманскага краю.*

— Учора закончыліся нашы выступленні ў Баранавічах,— гаворыць дырэктар тэатра Ул. Курута. — Глядач цёпла прыняў спектаклі «Блудны сын» Р. Блаўманіса і «Восьмы грэх» Л. Сяргеева. Заўтра зноў пачынаем выступаць у Гродне. У канцы чэрвеня на чатыры дні тэатр выязджае ў Ліду. Увесь ліпень і першую палову жніўня калектыў будзе абслугоўваць аддаленыя раёны і калгасы вобласці. Ствараюцца тры брыгады, якія будуць выступаць у Ашмянскім, Смаргонскім, Дзятлаўскім, Карэліцкім, Навагрудскім, Іўеўскім і іншых раёнах Гродзеншчыны.

Творчая моладзь тэатра на чале з рэжысёрам Віктарам Скарабагатавым да 90-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы рыхтуе спектакль «Прымакі». Упершыню наш тэатр будзе іграць на беларускай мове.

*А ў гэты ж час у Бранску адбылася другая сустрэча з Гомельскім абласным драматычным тэатрам.*

— Першага чэрвеня спектаклем «Грэшнае каханне» пачаліся гастролі нашых суседзяў-гамяльчан, — расказвае інспектар аддзела культуры выканкома Бранскага гарсавета дэпутатаў працоўных Ала Казакова. — Адкрыццё гастроляў нагадала хвалюючае свята дружбы народаў. Глядзельная зала тэатра была перапоўнена. Дарагіх гасцей з Беларусі прадстаўнікі грамадскасці нашага горада сустракалі хлебам-соллю, кветкамі. Наша абласная газета «Брянский рабочий» ужо два разы расказвала пра тэатр. Быў надрукаваны артыкул дырэктара Гомельскага тэатра Т. Карпавай, а другога чэрвеня — паведамленне аб адкрыцці гастроляў, у якім падкрэслівалася думка аб вялікім братэрстве двух народаў-суседзяў — рускага і беларускага.

*А далей інтэрв'ю працягвалася з загадчыкам трупы тэатра А. Рэзнікавым.*

— Мы ўсе ўсхваляваны цёплым, гасцінным прыёмам,— расказвае ён. — Тэатр карыстаецца ўвагай і падтрымкай грамадскасці. Пра гэта сведчыць хаця б і тое, што білеты на спектаклі прададзены да 20 чэрвеня. Паказваем свае спекталі ў Бранску і Бежыцы. Выязджалі ўжо ў бліжэйшыя раённыя цэнтры — Быташ і Івад. Будзем выступаць у калгасах і саўгасах вобласці... Ліпень— месяц гастроляў на Гомельшчыне.

Варлен БЕЧЫК



# З ЧАСАМ

## ДЫЯЛОГ

**СЁННЯ пішацца многа вершаў, многа друкуецца, многа чытаецца. Папулярнасць паэзіі ў нашай рэспубліцы вырасла надзвычай. Такі натуральны інтэнсіўны працэс развіцця савецкай жыццесцвярджальнай паэзіі, як і ўвогуле ўсёй літаратуры, тлумачыцца ўзбагачэннем духоўнага жыцця савецкага чалавека, ростам яго культуры.**

**Узросшая роля літаратуры і мастацтва ў стварэнні духоўнага багацця сацыялістычнага грамадства адзначана на XXIV з'ездзе КПСС. Звернута ўвага на ролю літаратуры як ідэалагічнай зброі ў абвостранай барацьбе дзвюх супрацьлеглых сістэм. У сувязі з гэтым невымерна павышаюцца патрабаванні да самой літаратуры, да кожнага пісьменніка. Быць на пярэднім краі барацьбы за высокаідэйны і мастацкі ўзровень савецкай літаратуры заклікаў усіх мастакоў слова V Усесаюзны з'езд пісьменнікаў СССР.**

**Беларуская савецкая паэзія ўжо мае сваю цікавую гісторыю, значны вопыт, набыткі. З кожным годам яна пашырае свае ідэйна-тэматычныя далягляды, паглыбляе свой філасофскі роздум, умацоўвае свае пазіцыі ў змаганні за новага чалавека, чалавека камуністычнага светапогляду. Яе галоўная рыса — страсная зацікаўленасць у жыцці і справах народных, палымяная грамадзянскасць. У якасці прыкладу можна назваць творы многіх беларускіх паэтаў розных пакаленняў — Петруся Броўкі, Максіма Танка, Аркадзя Куляшова, Пімена Панчанкі, Анатоля Вялюгіна, Кастуся Кірэенкі, Максіма Лужаніна, Аляксея Русецкага, Міколы Аўрамчыка, Сяргея Грахоўскага, Міхася Калачынскага, Аляксея Пысіна, Рыгора Барадуліна, Генадзя Бураўкіна, Янкі Сіпакова, Ніла Гілевіча, Анатоля Вярцінскага, Васіля Зуёнка, Анатоля Грачанікава, Алега Лойкі, Еўдакіі Лось, Петруся Макаля, Уладзіміра Паўлава і іншых. Лепшыя традыцыі беларускай паэзіі сёння набываюць новае жыццё і атрымліваюць далейшае развіццё ў творчасці маладзейшых — Ніны Мацяш, Рыгора Семашкевіча, Жэні Янішчыц, Міколы Федзюковіча, Васіля Жуковіча і многіх іншых. А колькі ў нашай перыёдыцы друкуецца вершаў тых, чые галасы толькі-толькі пачынаюць гучаць у паэзіі! І па-сапраўднаму радасна, калі бачыш, што ў творчую арбіту паэта трапляе не толькі гераічнае мінулае, але і не менш гераічнае сучаснае, калі бачыш, што паэт сэрцам адчувае пульс жыцця, імкнецца зразумець праблемы часу, дастойна ўславіць чалавека ўсепераможнай працы, веліч яго спраў. Напоўненая глыбокім грамадскім зместам, багатая на думкі і пачуцці, такая паэзія хвалюе, натхняе, заклікае да новых здзяйсненняў на шляху будаўніцтва новага грамадства.**

**Аднак у нашым паэтычным цэху не ўсё так добра і гладка, як можа падацца на першы погляд. Не ўсе тыя творы, што выходзяць з-пад пяра паэтаў, адпавядаюць свайму высокаму прызначэнню. Драбнатэм'е, камернасць уласціва шэрагу вершаў не толькі маладых, але часам і некаторых далёка не маладых паэтаў. І справа не ў тым, што ў цэнтр увагі бярэцца каханне і прырода... Бяда ў павярхоўным вырашэнні тэмы, у падмене вялікіх шчырых пачуццяў лёгкім прыватным настроем. Шэрыя, недасканалыя па змесце і форме вершы, якія не нясуць аніякага грамадскага зараду, як гэта ні дзіўна, яшчэ даволі часта трапляюць у друк... Разам з тым ёсць яшчэ ў паэтычных творах і голая публіцыстычнасць, і рытарычная дэкларацыйнасць. Аб усім гэтым вельмі слушна гаварылася на апошнім з'ездзе беларускіх пісьменнікаў, на сумесным пасяджэнні секцый паэзіі і крытыкі і літаратуразнаўства СП БССР, якое абмяркоўвала**

**В. Бечык.** Анатоль, мне хочацца звярнуцца да вас як да паэта, для якога прызначэнне паэзіі, яе служба часу не раз былі прадметам і вершаў, і літаратурна-крытычных выступленняў. Хочацца пагаварыць аб паэзіі...

**А. Вярцінскі.** Шчыра кажучы, цікавей гаварыць пра само жыццё, пра тое, з чаго нараджаецца паэзія.

**В. Бечык.** Ці не хочаце вы сказаць, што нашы літаратурныя дыскусіі не заўсёды ўвязваюцца як след з тым, што адбываецца ў рэальным жыцці, у грамадстве?

**А. Вярцінскі.** Бадай што так.

**В. Бечык.** Вы маеце, безумоўна, рацыю. Але вось я падумаў: магчыма, характар нашых некаторых літаратурных спрэчак абумоўлены самімі творамі. І калі твору не хапае вастрыні, дыхання жывога жыцця, то ён не выкліча патрэбы і ў жывым абмеркаванні яго. Зрэшты, мне і хацелася б пагаварыць менавіта пра гэта—пра тое, наколькі наша сучасная паэзія звязана з жыццём, з жыццёвай, калі хочаце, прозай, з яе будзённасцю, у якой выяўляюцца і фармуюцца чалавечыя пачуцці — крыніца паэзіі.

Справа ў тым, што пры ўсіх бясспрэчных дасягненнях нашай паэзіі, пры яе маральным і грамадзянскім росце, мы чытаем нямала, а то нават і замнога твораў, якія наводзяць на горкі роздум, выклікаюць заклапочанасць.

**А. Вярцінскі.** Я вас разумею. Але павінен сказаць, што літаратурнае жыццё заўсёды давала падставы і для засмучэнняў. Асабліва, калі да яго падыходзіць па вялікім рахунку. Бо заўсёды побач з сапраўднай літаратурай былі падробкі. Але, відаць, вы маеце на ўвазе не так падробкі, як... недаробкі.

**В. Бечык.** Вядома, бо тое, што па-за літаратурай—прадмет для іншай размовы.

**А. Вярцінскі.** Ды стан літаратуры на кожным этапе яе развіцця вызначаецца яе вяршынямі. І тут можа адыгрываць сваю ролю адна выдатная паэма або адзін сапраўдны паэтычны зборнік. Я хачу сказаць, што нам трэба часам не так засмучацца дрэннай колькасцю, як радавацца добрай якасці.

**В. Бечык.** Згодзен, але з той агаворкай, што калі гэта самая якасць сапраўды радуе, а гэта самая колькасць не вельмі ўжо засмучае мяне, чытача, і не вельмі ўжо ўплывае на ўсю паэзію, на яе агульны стан...

**А. Вярцінскі.** Прабачце, што перапыняю, але хачу спытацца: а хіба дрэнныя, сярэднія—ці якія там яшчэ?—вершы могуць уплываць на сапраўднага паэта, размагнічваць яго талент?

**В. Бечык.** Яны ўплываюць на агульны клімат у літаратуры, уплываюць на густы чытачоў і на крытэрыі крытыкі, ад чаго ў сваю чаргу можа залежаць і ідэйна-мастацкі ўзровень дадзенага твора і ўсёй паэзіі ўвогуле.

**А. Вярцінскі.** Магчыма, і так. Не ведаю, як выглядае праблема ў цэлым, зазначу толькі, зыходзячы з уласнага вопыту, што калі прачытаеш добрыя вершы, то заражаешся жаданнем пісаць, атрымоўваеш адчувальны творчы імпульс. Пасля дрэнных вершаў адчуваеш сябе іначай.

**В. Бечык.** Гэта справядліва ў дачыненні і да крытыка, і да чытача наогул. Добрыя творы выклікаюць жаданне гаварыць пра іх, пісаць, калі хочаце, артыкулы, дзяліцца сваімі ўражаннямі, яны актывізуюць душу і думку. Але з гэтага, здаецца, мы і пачыналі размову. Аднак пойдзем далей. Я хачу растлумачыць сваю заклапочанасць. Зрэшты, не толькі маю асабістую. Літаратурная і чытацкая грамадскасць, самі паэты, якія прытым выступаюць і ў ролі крытыкаў, напрыклад, М. Арочка, А. Лойка, А. Грачанікаў, Ф. Яфімаў, у апошні час б'юць трывогу з той прычыны, што наша паэзія ў многіх выпадках здае свае грамадзянскія і творчыя пазіцыі. Рэдка трапляюцца творы, дзе знойдзеш новую тэму, убачыш новы зрэз жыццёвай праблемы, уразішся пранікліваму позірку ва ўнутраны свет сучасніка, адчуеш жывы клопат аўтара за пэўны чалавечы лёс і падзеліш гэты клопат.

**А. Вярцінскі.** Вы маеце на ўвазе, як мне здалося, аб'ектывізаваны паказ. А гутарка ж ідзе і пра лірычную паэзію, пра паэзію асабістага перажывання.

**В. Бечык.** Я не выключаю і гэты від паэзіі. Можа быць, я перш за ўсё і маю на ўвазе лірыку. Але ж паэт, наколькі ні быў бы ён асабістым у сваёй лірыцы, не можа замыкацца толькі ў самім сабе. Ён так ці інакш будзе знаходзіць сябе ў другіх людзях і другіх людзей — у самім сабе. На гэтым — на здольнасці сінтэзаваць сваё з агульна-людскім, асабістае з грамадскім — уласна кажучы, і трымаецца лірычная паэзія.

**А. Вярцінскі.** Мне асабіста імпануе такая пастаноўка пытання, калі жанру лірыкі надаецца шырокі сэнс, калі яна не падзяляецца неадольным бар'ерам на грамадзянскую і інтымную. На жаль, такі падзел часта назіраеш і думаеш пра тое, што ён спрашчае праблему ці, лепш сказаць, перашкаджае нам высвятляць грамадскую сутнасць чалавечага і чалавечую сутнасць грамадскага ў паэзіі.

**В. Бечык.** Уласна кажучы, што такое паэзія? Паколькі яна мае справу з чалавечымі пачуццямі, паколькі яна тыпізуе іх, надаючы ім чалавечую ўсеагульнасць, яна, безумоўна, з'ява грамадская. Нават у тым выпадку, калі мы гаворым пра інтымную лірыку, пра свет самых першасных чалавечых эмоцый, яна ўсё ж паказвае нам, як адчувае сябе чалавек не толькі ў свеце прыроды і інтымных пачуццяў, але і ў грамадстве. Недарэмна ж нехта гаварыў, што па пушкінскіх вершах аб каханні можна меркаваць, як кахалі, якім сэрцам былі надзелены дзекабрысты.

**А. Вярцінскі.** Аб нечым падобным думаў я нядаўна, перачытваючы паэму Янкі Купалы «Яна і я». Праз свае адносіны да каханай, да жанчыны пясняр выказвае і сваю канцэпцыю чалавечага шчасця, свет асабістых пачуццяў ён звязвае з вялікім светам грамадскай барацьбы. Прыгадайце апошнія радкі паэмы. «Крыўды мілай» прадстаюць як сацыяльнае зло, а боль за іх, за гэтыя крыўды, выклікае ў сэрцы паэта пачуццё сацыяльнага пратэсту, імкненне ісці на змаганне. Калі вы мне скажаце, што «Яна і я» — паэма лірычная, то я ўдакладню: але гэта і шырокае мастацка-філасофскае палатно. Калі вы спытаеце, якога характару гэта лірыка, інтымная яна ці грамадзянская, я адкажу: і тая, і другая, адно ад аднаго тут неаддзельна.

Вельмі цікавыя ў гэтым сэнсе назіранні ёсць у кнізе Рыгора Бярозкіна «Чалавек на світанку», прысвечанай творчасці Максіма Багдановіча.

**В. Бечык.** Тут думаеш і вось пра што. Паэзія не можа існаваць толькі ў сваёй калыханцы — у свеце першасных чалавечых эмоцый. Сапраўдны яе змест і яе значэнне мы адчуваем толькі тады, калі яна выводзіць нас на шырокі прастор агульнанароднага жыцця, калі яна перадаецца нам...

**А. Вярцінскі.** Гэта калі гаварыць пра грамадскі рэзананс паэзіі, пра яе, як вынік. Можна падысці і з другога боку. Ужо тое, што яна — якая б яна ні была — не можа выяўляцца інакш як праз слова, праз мову, якія, як вядома, з'яўляюцца і прадуктам і сродкам грамадскіх сувязей, — ужо гаворыць пра яе грамадскае значэнне. Ды нават і той элементарны факт, што паэт чытае свой верш альбо друкуе яго, сведчыць аб тым, што паэзія заўсёды грамадская з'ява.

**В. Бечык.** Цалкам прымаючы гэтае меркаванне, хачу прадоўжыць думку. Паэзія — не толькі з'ява, не толькі пэўны вынік, у сэнсе значэння духоўнай прадукцыі, але і працэс, форма жыцця і дзеяння. Не бяру ўсе аспекты гэтай праблемы, хачу толькі зазначыць, што кожны паэтычны твор нараджаецца ў пэўных канкрэтных жыццёвых, а, значыць, і грамадска-сацыяльных абставінах, на пэўным фоне народнага жыцця і ўспрымаецца потым у сувязі менавіта з гэтымі абставінамі, з гэтым фонам. Памятаючы пра гэта, і выказваеш сваю незадаволенасць шмат якімі творамі нашай сённяшняй паэзіі. Чытаеш такі твор і не можаш адрабіцца ад уражання, што ўзнік ён без асаблівай на тое неабходнасці.

**А. Вярцінскі.** Што тут маецца на ўвазе? Вы толькі што гаварылі пра грамадскую глебу, з якой нараджаецца паэзія. Але ж факт рэальнасці становіцца фактам паэзіі (пра гэта ўжо гаварылася), калі ён прапускаецца праз сэрца аўтара, праз прызму яго паэтычнага светаўспрымання. Значыць, калі ўжо гаварыць пра гэтую самую неабходнасць, то, відаць, трэба мець на ўвазе неабходнасць унутраную, нейкі істотны душэўны пасыл, які ўзнікае раней, чым верш выльецца на паперу.

**В. Бечык.** Тынянаў гаварыў і пра «давершавае адчуванне». Несумненна, што верш можа стаць значнай духоўнай з'явай толькі тады, калі гэтае «давершавае адчуванне» было і дастаткова значным, і мела пэўную праекцыю на грамадскае жыццё. Калі ў паэта ёсць адчуванне, што гэта важна не толькі для яго, што гэта не толькі яго асабістае хваляванне. Пазней, ужо калі верш напішацца, можна ўжо будзе гаварыць пра многае іншае — пра змястоўнасць, пра форму, пра іх адзінства і адпаведнасць, пра мастацкую навізну і значнасць адкрыцця. Але пакуль што гаворка ідзе пра іх прадумову. Я не думаю, што паэт можа стварыць нешта значнае, калі ён не падрыхтаваны для гэтага, калі ён не здольны належным чынам перажыць тую або іншую жыццёвую падзею. Тут дзейнічае той неад'емны закон паэзіі, пра які, як мне памятаецца, вы гаварылі ў свой час у артыкуле «Маральны абавязак паэта» — закон пераходу (паўтару вашы словы) энергіі маральнага руху, руху душы ў адпаведную ідэйна-мастацкую якасць. Вядома, у сувязі з гэтым давядзецца ўжо гаварыць пра многае іншае — і пра асобу паэта, пра яе духоўны багаж, пра светапогляд, яе душэўную чуйнасць і грамадзянскую актыўнасць.

Дык вось, вяртаючыся да нашай сучаснай паэзіі, перачытваючы многія творы як старэйшых, так і маладзейшых паэтаў, часта не знаходзіш у іх дастатковай жыццёвай верагоднасці, эмацыянальнай напоўненасці, належнай аўтарскай перакананасці. Вершы ўспрымаюцца як нешта неістотнае, неабавязковае і, значыць, мне, як чытачу, не вельмі патрэбнае.

**А. Вярцінскі.** Што не ідзе ад сэрца, тое да сэрца не даходзіць?

**В. Бечык.** Так. Але я маю на ўвазе не толькі чыста чытацкае ўспрыманне, хаця і кіруюся ім. Я думаю пры гэтым пра пэўныя праблемы развіцця нашай паэзіі. Некаторыя з іх мне хочацца і закрануць у нашай размове. Тым больш, што нядаўняя пастанова ЦК КПСС аб стане і задачах літаратурна-мастацкай крытыкі нацэльвае нас на пільную ўвагу і прынцыповы, патрабавальны падыход да літаратурных з'яў і праблем. Пад час дыскусіі аб крытыцы, што вялася на старонках газеты «Літаратура і мастацтва», узнімаліся некаторыя пытанні развіцця нашай сённяшняй паэзіі і прозы, у прыватнасці, ішла заклапочаная гаворка аб грамадзянскасці і маральнай забяспечанасці лірычнай паэзіі, аб героі сучаснай лірыкі, аб адказнасці паэта перад чытачом і часам.

**А. Вярцінскі.** Так, прыгадваюцца некаторыя з дыскусійных выступленняў, прысвечаных непасрэдна паэзіі, у тым ліку артыкулы А. Лойкі, М. Арочкі; ваш таксама. І вы, відаць, маеце намер прадоўжыць размову.

**В. Бечык.** Амаль што так. Але я спадзяюся і на вашу дапамогу, на тое, што мы абмяняемся думкамі, што вы выкажаце свой клопат і свае меркаванні. Бо, на жаль, нашы літаратурныя размовы —вусныя, у друку — часта з'яўляюцца выслухваннем саміх сябе.

**А. Вярцінскі.** Я б сказаў — дыялогам глухіх, калі ніхто не слухае нікога, кожны выказваецца сам па сабе, мала зважаючы на тое, што было сказана папярэднім прамоўцам... Ну, дык не буду прыпадабняцца такім апанентам. Я слухаю вас. Вы пачалі гаварыць аб праблемах нашага паэтычнага цэха...

**В. Бечык.** Мне хочацца пагаварыць аб сувязях сённяшняй паэзіі з чытачамі. Справа ў тым, што тое, што з'яўляецца надзённым, жыццёва істотным для нашага сучасніка, не выяўляецца ў тым жа маштабе, з той жа вастрынёй і мерай актуальнасці ў паэзіі. Час ідзе, жыццё мяняецца, мяняецца сам чытач, а паэзія як быццам жыве ў замкнутым коле, знаходзіцца ў палоне адных і тых жа тэм і матываў, вар'іруе адны і тыя ж лірычныя сітуацыі, прытым у адных і тых жа ракурсах, на звыклай, калі не шаблоннай, ноце. Новыя жыццёвыя з'явы і праблемы, новыя пласты рэальнасці застаюцца як-бы па-за яе ўвагай. Яна як быццам баязліва адгароджваецца ад штодзённасці. Цяжка ўспомніць ці назваць сёння вершы, па якіх мы маглі б уявіць сабе, чым жыве, пра што клапоціцца наш сучаснік. Калі зыходзіць з некаторых вершаў і вершаваных зборнікаў, то ён, наш сучаснік, не існуе ў сваім рэальным побыце: не робіць ранішняй зарадкі, не ездзіць у грамадскім транспарце, не гаворыць па тэлефоне, не стаіць у чарзе, не ходзіць на рынак, не мае жыллёвых клопатаў, не хвалюецца за сваю працу, нікога не сустракае і не праводзіць... Я, вядома, не збіраюся зводзіць паэзію да ўтылітарнай прыземле-

## Анатоль ВЯРЦІНСКІ

# І ЛЮДЗЬМІ
# АБ ПАЭЗІІ



**вынікі мінулага паэтычнага года. І тут якраз дарэчы прыгадаць слушныя словы Максіма Танка пра паэзію на VI з'ездзе пісьменнікаў Беларусі:**

**«Паэзію называюць гарачым цэхам, маючы, відаць, на ўвазе такія яе якасці, як вострая ўспрымальнасць, эмацыянальная напоўненасць, высокая экспрэсіўнасць. Так, паэтычны цэх — цэх высокіх тэмператур. У паэзіі не самае галоўнае — лагічна і ў нейкім новым, нечаканым спалучэнні паставіць словы. Важна, каб паміж імі, як паміж электрычнымі батарэямі, прабягаў ток мыслі, ток эмоцый, пачуццяў. Іншымі словамі, верш закліканы чуйна перадаваць пульс жыцця, пульс чалавечага сэрца, несці ў сабе ПРАМЕТЭЕЎСКІ АГОНЬ ГРАМАДЗЯНСКАСЦІ (падкрэслена намі). У гэтым, як мы бачым, і асаблівасць паэзіі і яе прызначэнне».**

**Сапраўды, духоўнасць і інтэлектуальнасць паэзіі праяўляюцца ў адчуванні сучаснасці. Для кожнага сапраўднага паэта грамадзянскасць павінна быць асабіста-маральным абавязкам...**

**На жаль, як ужо неаднаразова падкрэслівалася ў друку, творам некаторых маладых паэтаў пры даволі высокім узроўні тэхнікі вершаскладання нестае грамадзянскасці, а, значыць, і змястоўнасці, бо адно і другое непадзельна. І ніякія спасылкі на незвычайную таленавітасць паэта або на яго творчую маладосць тут не дапамогуць. Урэшце, сапраўдная паэзія не мае ўзросту, а талент толькі тады набывае моц, калі за ім стаіць яркая асоба паэта, які жыве інтарэсамі, думамі свайго грамадства, свайго народа. Пры ўсім шчырым жаданні ўбачыць як мага болей новых імён у друку, пачуць новыя галасы, нельга губляць справядлівасць і строгасць у дачыненні да ацэнак творчасці маладых, праяўляць празмерную лагоднасць. Аб гэтым дастаткова яскрава сказана ў пастанове ЦК КПСС «Аб літаратурна-мастацкай крытыцы». Клапоцячыся аб лёсе пісьменніцкай змены, не трэба закрываць вочы на тое, што побач з цудоўным імкненнем узбагаціць палітру нашай паэзіі свежымі фарбамі, зразумелым імкненнем паэта да лірычнага самавыяўлення, гучанне грамадзянскіх матываў у творчасці многіх маладых яўна прыглушана, што шкодзіць іх творчаму росту. З цыкла ў цыкл пераходзяць гладкія элегічныя вершы, нудныя пейзажныя замалёўкі, інтанацыя абыякавасці. І чаго хаваць, часам надараецца з паэтам якраз тое, пра што так трапна сказаў яшчэ Маякоўскі: «У пошуках самавыяўлення лірычнай сутнасці сваёй уласнай душы літаратар адарваўся ад самага галоўнага: быць актыўным байцом, актыўным работнікам на фронце нашага сацыялістычнага будаўніцтва».**

**Маленькіх задач у сапраўднай паэзіі не ставяць... І справа, урэшце, не ў тым, як, якім памерам напісаны верш. Перш за ўсё паэт павінен глыбока разбірацца ў жыцці, падыходзіць да з'яў рэчаіснасці з акрэсленых ідэйных, партыйных пазіцый. Яго грамадзянскасць — гэта страснае імкненне памагчы сваёй краіне, свайму народу ў вырашэнні паўсядзённых спраў, у змаганні за лепшыя ідэалы чалавецтва.**

**Нам здаецца, наспела неабходнасць шырока пагаварыць па ўсіх аспектах сённяшняй беларускай паэзіі: аб яе высокім прызначэнні, грамадзянскасці, народнасці, інтэлектуальнасці, а таксама і аб трывожных сімптомах — драбнатэм'і, банальнасці, гладкапісе, якія назіраюцца ў апошні час у паэтычных творах. Гаворка на старонках штотыднёвіка бясспрэчна прынясе карысць нашай літаратуры.**

**Друкуючы сёння дыялог паэта А. Вярцінскага і крытыка В. Бечыка, мы спадзяёмся, што закранутыя імі пытанні прыцягнуць увагу іншых паэтаў, крытыкаў, чытачоў і яны прадоўжаць пачатую размову.**

насці, а толькі хачу падкрэсліць, што яна не павінна губляць той грунт, без якога яна не можа мець карэння і ў выніку — сапраўды зацікаўленага чытача.

Наша працоўная штодзённасць, грамадскае жыццё і побыт няспынна нараджаюць безліч абставін і з'яў, што прыводзяць да самых складаных душэўных калізій, вымагаюць адпаведнага сучаснага эстэтычнага рэагавання на іх. Але, на жаль, у нас рэдка паяўляюцца вершы — вазьму для прыкладу творы паэтаў вашага пакалення — такога характару, як «Нянечкі» Рыгора Барадуліна, «Пра дачы і пра зайздрасць» Ніла Гілевіча, «Малодшая сястра» Еўдакіі Лось, «Пустыя п'едэсталы» Генадзя Бураўкіна, «На аўтобусным прыпынку» Міхася Стральцова, як ваш верш «Дынамік». Затое ці не занадта ўжо шмат узнікае апошнім часам вершаў невядома аб чым...

Каб не быць галаслоўным, разгарну адзін з апошніх нумароў часопіса «Полымя», дзе змешчана багата вершаў розных аўтараў. Вось адзін аўтар. Піша ён пра першае паляванне:

> Паўзём па цаліку.
> А снег—як ліст паперы,
> Дзе кожнаму радку
> Слядоў
> шчасліва верыш...

Другі, як бы пераклікаючыся з першым, таксама злёгку расчульваецца на прыродзе:

> Маразяна. Золка. Ветрана.
> Ходзіць зазімак хлопцам служывым,
> Каля Пцічы аерыны петраюць,
> І самам болей не да спажывы...

Верш трэцяга аўтара называецца «У глушы»:

> Брыдзеш сабе далёка
> Ад тлуму, мітусні.
> Захочаш—загалёкай,
> Захочаш—дык засні.

Як ні дзіўна, пра тое ж амаль і вельмі падобна піша і чацвёрты:

> Восень прайшлася ўзлессем—
> Колькі гарыць кастроў!
> Ля кожнага—хочаш—грэйся,
> А хочаш—бяры дамоў.

Звярніце ўвагу, што прыклады спецыяльна не падбіраліся, за імі, што называецца, хадзіць далёка не трэба было. Тым больш наводзяць яны на роздум. Кідаецца перш за ўсё ў вочы лёгкаважкасць, бяздумнасць вершаў, з якіх узяты радкі. Што аўтар хоча сказаць — сабе і людзям? У імя чаго пісаліся вершы? Ці была ў аўтара важкая патрэба для таго, каб брацца ў дадзены момант за пяро? Відаць, гэта той выпадак, калі мы маем справу з тымі самымі «птушынымі песнямі», пра якія здзекліва гаварыў В. Бялінскі, сцвярджаючы грамадскае прызначэнне паэта. Гэта з аднаго боку. З другога боку, з сумам зазначаеш, што вершам не хапае жыццёвай пэўнасці, эмацыянальна-псіхалагічнай канкрэтнасці, адзнак часу. Але адно з адным звязана.

Калі б я браў вершы аднаго аўтара або цытаваў творы, напісаныя і надрукаваныя ў розны час, тады б гэта можна было б палічыць за выпадковасць. А паколькі гэта не так, то даводзіцца гаварыць пра пэўную заканамернасць. Ці вы не знаходзіце?

**А. Вярцінскі.** Што датычыць заканамернасці, то я пакуль што ўстрымаюся . Але я, бадай, магу дапоўніць вас. Я прыгадваю, як сутыкнуўся ў мінулым годзе з падобным фактам, калі пачаў перачытваць ўзапар вершы, змешчаныя за нейкі год ці паўгода ў нашых часопісах. І вось тады мяне, памятаю, уразіла нейкая здзіўляючая аднолькавасць, у тым ліку тэматычная аднастайнасць. Шмат якія паэты, «добрыя і розныя», напісалі, напрыклад, як бы змовіўшыся ўдзельнічаць у конкурсе на пэўную тэму, вершы аб радзіме. «Люблю отчизну я, но странною любовью...» Можна сказаць: люблю па-свойму, люблю любоўю складанай, непаўторнай, любоўю, якую нялёгка выказаць, у якой няпроста прызнацца, бо гутарка ідзе аб нечым запаветным, глыбінным... Але вось атрымалася так, што ў вершах, якія я чытаў, любоў гэтая паўставала зусім не такой, не ўсхвалявана - вынашанай, прачулай, а нейкай умоўна-літаратурнай, безаблічнай, і выказвалася яна неяк вельмі ўжо лёгка, без асаблівых намаганняў, знаёмымі ўжо даўно, як бы ўзятымі напракат словамі: любы край, любая зямля, родная старана, родная песня, роднасць, крэўнасць, маленства, сцежкі... Адны і тыя ж словы, словазлучэнні, рыфмы, нават метафары... Такая аднолькавасць настройвала на сумны лад. Так, ідэі лунаюць у паветры, у той атмасферы, якая агульная для нас, існуюць гэтыя самыя адзнакі часу, але ж я павінен настройвацца на іх асабіста, павінен вызначыць свае асабістыя адносіны да іх. Як сказаў Твардоўскі, «аб тым, што знаю лепш за ўсіх на свеце, сказаць хачу і так, як я хачу». Але вось атрымліваецца часам, што мы гаворым не пра тое, што знаем лепш за ўсіх, што нам больш за ўсё баліць, і ў той жа час гаворым не сваімі, як кажуць школьныя настаўнікі, словамі.

Аднолькавасць, вось такое падабенства ў вершах мне здаюцца заўсёды падазронымі. Думаеш: тут нешта не так, талент павінен праяўляцца своеасабліва. Пасрэднасць дапушчальная ў розных другіх справах, але толькі не ў паэзіі. Яшчэ антычнаму аўтару было вядома, што паэту пасрэдных радкоў «век не даруюць ні людзі, ні багі, ні кнігарні».

**В. Бечык.** Талент сам па сабе — адметнасць, своеасаблівасць.

**А. Вярцінскі.** Пра гэта думаеш, і ўсё гэта наглядна ўяўляеш, у прыватнасці, калі маеш справу з творамі маладых, з іх першымі кнігамі, калі чакаеш свежага голасу. І вось у тым, наколькі апраўдаецца тваё чаканне, ключ да так званай «праблемы» першай кнігі.

**В. Бечык.** Хоць вы сказалі «так званай», але такая праблема ўсё ж ёсць? Што гэта за праблема?

**А. Вярцінскі.** А хіба мы не чуем размовы пра тое, пара ці не пара маладому аўтару выдаваць свой першы зборнік вершаў, мае ён права на асобную кнігу ці не мае такога права? І калі заходзіць такая размова, то гавораць звычайна пра нейкую прапорцыю, пра нейкі мінімум добрых вершаў, неабходных для кнігі, пра нейкую ледзь не працэнтную адносіну добрых і дрэнных твораў — маўляў, калі ў рукапісе ёсць столькі вось добрых вершаў на столькі вось дрэнных, то ўсё ў парадку, зборнік мае права на выданне.

**В. Бечык.** Гэта праўда. Але дзе ўсё ж ваш ключ да праблемы?

**А Вярцінскі.** Дзе ключ? Дык вось я і хачу сказаць, што ніякай асаблівай праблемы не існуе. Куфэрчык проста адчыняецца. І ключык да яго вельмі просты.

**В. Бечык.** Але ж вы толькі што самі вызначылі праблему...

**А. Вярцінскі.** Я бяру яе ў двукоссе. Ніякай асаблівай праблемы, па сутнасці, не існуе. І ўсе нашы размовы вакол, як кажуць, «от лукавого». Дальбог! Ёсць адна добрая мерка, адзін просты і ў той жа час дзейсны крытэрый у такой справе.

**В. Бечык.** Талент?

**А. Вярцінскі.** Вось іменна! Не трэба мудрагеліць, не трэба суадносіць і шукаць нейкую таямнічую «плепорцыю». Трэба глядзець—таленавіта ці не? Ёсць талент ці няма таленту? У першым зборніку могуць быць больш ці менш удалыя вершы, але і ў тых і ў іншых павінен ужо адчувацца талент. Першая кніга можа быць недастаткова спелай, не зусім сталай, не ва ўсім самастойнай. На тое яна і першая. Яна можа быць няроўнай, нават стракатай і нават у чымсьці супярэчлівай. Словам, першая кніга можа мець і, як правіла, мае недахопы. Але калі ў ёй адчуваецца жывое дыханне таленту, яна мае права быць кнігай, атрымаць жыццё, выйсці да чытача. І, наадварот, калі ў ёй няма яўных прыкмет таленту...

**В. Бечык.** Так, вядома, але не заўсёды проста адрозніць, распазнаць—таленавіта ці не.

**А. Вярцінскі.** Не проста, але і не так складана. Штучныя кветкі ад жывых адрозніць заўсёды можна. Ёсць адна, я б сказаў, відавочная прыкмета таленту.

**В. Бечык.** Цікава, як вы яе вызначаеце.

**А. Вярцінскі.** Арганічнасць. Талент—з'ява арганічная. І, як усякая арганічная з'ява, ён непаўторна своеасаблівы, мае свой голас і сваё аблічча. Ніводная жывая былінка непадобная абсалютна на іншую былінку.

**В. Бечык.** Буду ўдзячны, калі даскажаце сваю думку да канца.

**А. Вярцінскі.** Няўжо незразумела? Паэт павінен мець «лица необщее выраженье», адрознівацца сваім светам. Магчыма, у першай кнізе гэты свет будзе яшчэ толькі праглядвацца, толькі акрэслівацца, але ён абавязкова будзе. Паэт без свайго свету—гэта пасол без сваёй дзяржавы.

**В. Бечык.** Усё гэта цікава і слушна... Але ж, відаць, бываюць падставы гаварыць і пра тое, як талент сабой распараджаецца, як ён адказвае сам за сябе. Ён можа разменьвацца на дробязі, ён можа даваць сабе палёгку, не змабілізоўвацца да канца...

**А. Вярцінскі.** У такім разе, мабыць, трэба ўжо гаварыць пра асобу аўтара, пра яе значэнне для таленту.

**В. Бечык.** Так. Справа менавіта, мне думаецца, у гэтым—у асобе паэта, у яе жыццёвай і творчай адказнасці. Калі аўтар не змабілізаваў цалкам свой вопыт і свае душэўныя сілы, не зведаў ці не меў сапраўднага натхнення, то адкуль жа быць і сапраўднай, непаўторнай паэзіі?

**А. Вярцінскі.** Дарэчы, пра натхненне... Не ведаю, чаму, па чыёй віне—саміх паэтаў ці крытыкаў, але з нашых размоў аб паэзіі, з артыкулаў і рэцэнзій неяк непрыкметна амаль выпала гэтае слова. І тут я думаю: у чым справа? У тым, што змяніўся лексікон? У тым, што інакшымі сталі крытэрыі? Ці можа—крый божа!—натхненне перастала быць абавязковым для саміх вершаў? Можа мы іх пішам «без любви, без вдохновенья»?..

**В. Бечык.** Прызнанне шматзначнае. Тым больш, калі чуеш яго з вуснаў практыка, а не крытыка ці чытача.

**А. Вярцінскі.** Так ці інакш, а калі справа абыходзіцца без гэтага самага натхнення, то з некаторым сумам успамінаеш аднаго з герояў Дастаеўскага, якому чужым было ўсё высокае, і таму ён мог заявіць: «Это чтобы стих-с, то это существенный вздор-с... И если бы мы стали все в рифму говорить, хотя бы даже по приказанию начальства, то много ли бы мы насказали-с? Стихи не дело, Марья Кондратьевна...» Успамінаеш і думаеш, што калі мы ў сваіх вершах, зноў-такі, абыходзімся без гэтага самага натхнення, то тады сапраўды «стихи не дело»...

**В. Бечык.** Так, без натхнення, без спадарожных з ім пошукаў і хваляванняў, без гранічнай адказнасці за сваё вершаванае слова як за справу, як за дзеянне, калі хочаце—як за грамадскае дзеянне, асоба паэта драбнее, абязлічваецца, здае свае пазіцыі сама паэзія. Перажыванні ўжо трымаюцца на дробных стымулах, на ўсялякіх неістотных «лірычных» выпадковасцях. І ў выніку вершы не выклікаюць суперажывання, не аказваюць належнага ўздзеяння на свядомасць чытача. Мне здаецца паказальным і вельмі сімптаматычным тое, што некаторыя паэты ідэалізуюць свайго лірычнага героя, арыентуюцца на сітуацыі, якія паказваюць яго ў станоўчым святле. Ці не сведчыць гэта аб тым, што аўтары шукаюць палёгкі для сябе, клапоцяцца пра свой душэўны камфорт (я добры, я чулы, я шчодры... Я... Я... Я... Але толькі на словах). Куды цяжэй і небяспечней прызнацца ў сваіх недахопах, памылках, слабасцях, сумненнях. Затое апошняе—куды больш маральна і ў сваёй чалавечай сутнасці, і ў сваім паэтычным выяўленні. Прывяду два палярныя прыклады. «Я перад вамі вечна вінаваты, усе, каму нялёгка ў жыцці...»—піша адзін паэт. Ён пачынае са сваёй віны, са свайго доўгу, гэта—гучыць адказна, гэта—як «дазвол сумленню рухацца далей». А вось ужо зусім інакшая душэўная, чалавечая пазіцыя:

> Сустракаюцца сэрцы бяздонныя:
> Што ні кінеш—ні гуку адтуль.
> І тады не ахвота быць донарам,
> Аддаваць ім сваю дабрату.

У першым выпадку паэт не спяшаецца выстаўляць напаказ сваю дабрадзейнасць, свае станоўчыя якасці, але затое ён безагаворачна прымае ў сваё сэрца «ўвесь боль чалавечы і плач». Другі ж паэт абвяшчае сябе добрым, нават донарам дабраты, але не вельмі ахвотна дзеліцца з іншымі гэтай сваёй дабратой.

**А. Вярцінскі.** Вы гаворыце пра адзін з вершаў новай кнігі Рамана Тармолы? У кнізе ёсць і цікавыя вершы...

(Заканчэнне на 6-й і 7-й стар.)

# БЕЗ СКІДАК НА МАЛАДОСЦЬ

...КРОЧЫЦЬ па жыцці малады мастак. Што ён бачыць у свеце? Што прыцягвае яго, што прымушае яго радавацца, захапляцца, абурацца? Гэта пытанні не марныя, бо свае думкі, пачуцці мастак нясе нам, каб прымусіць перажыць ім перажытае, каб мы змаглі ўбачыць жыццё шырэй і разнастайней.

Аб гэтым я думаў пры аглядзе экспазіцыі трэцяй рэспубліканскай выстаўкі работ маладых мастакоў Беларусі, якая адкрылася ў Дзяржаўным мастацкім музеі БССР.

Большасць жывапісных твораў на выстаўцы носіць камерны характар. Часцей, чым хацелася б, сустракаем мы ў экспазіцыі інтэр'еры вясковай хаты, дзе сялянка прадзе пражу («Інтэр'ер» Ул. Сяўкоўскага), інтэр'еры канюшні з коньмі і конюхам («Канюшня» В. Тоўсціка), ціхамірныя сузіральна-прыгожыя пейзажы («Пейзаж з коньмі» Д. Сарокі, «Куток Маладзечна» Э. Асановіча, «Стары дворык» В. Цюрына, «Матыў старога Віцебска» Ант. Ясюкайтэ, «Каўнас. Дворык» Г. Говара і іншыя).

Слоў няма, ёсць сярод гэтых эцюдаў пейзажнага і інтэр'ернага характару прыгожыя па колеру, удалыя па кампазіцыі. Але хочацца, каб маладыя мастакі часцей падымаліся вышэй за адлюстраванне толькі ўласнага свету, уласных інтымных перажыванняў.

Ёсць на выстаўцы творы, у якіх усё нібыта правільна, але ў сэрца яны не западаюць, моцнага пачуцця не выклікаюць. Такія палотны, як «Дыпломнік» М. Клімава і «У аўтобусе» У. Яўсеева, даволі-такі бясстрасныя, быццам агромністы свет чалавечых пачуццяў і перажыванняў саступіў месца немудрагелістай, просценькай мелодыі, пазбаўленай шырокага патоку думак і асацыяцый.

Не патрабуючы таго, каб мастакі плакатна ілюстравалі падзеі сённяшняга дня, мы маем права чакаць ад іх публіцыстычна завостраных твораў, якія адлюстроўвалі б актуальныя праблемы сучаснасці. У пейзажы, у нацюрморце, у партрэце мастак палітычна страсны заўсёды здолее паказаць сапраўдныя прыкметы часу — дынаміку нашага жыцця, новыя рысы ў характары людзей, здолее востра адгукнуцца на злобу дня.

Няпроста патрабаваць такіх значных твораў ад маладых: многім з іх, відаць, не хапае жыццёвага вопыту і майстэрства. Але ж сярод маладых у рэспубліцы ёсць такія мастакі, як У. Пашчасцьеў, А. Шатэрнік, І. Капялян, А. Веліксонаў, П. Свентахоўскі, Б. Казакоў, В. Шаранговіч, Г. Шутаў і іншыя, вядомыя як аўтары цікавых графічных серый, скульптурных і жывапісных кампазіцый. Чаму іх работ няма сёння на маладзёжнай выстаўцы?



Ю. ПАЛЯКОЎ. «П'ючы красу зямную».

Асабліва пільная ўвага да такіх выставак (успомнім два маладзёжныя агляды 1960 года) заканамерная і зразумелая. Ад каго, як не ад мастацкай моладзі, мы маем права ў першую чаргу чакаць пошукаў новага ў сучасным беларускім мастацтве? Справа, як відаць, не ў тым, што на маладзёжных выстаўках мы абавязкова павінны сустрэць шэдэўры або творы этапнага значэння. Галоўнае ў іншым — у натуральным жаданні ўбачыць і асэнсаваць тое новае, свежае, з чым прыходзіць у мастацтва моладзь. Між тым, чаго не хапае сённяшняй экспазіцыі, дык гэта перш за ўсё яркага адчування пульса сучаснасці.

Трапляючы на галерэю музея, быццам прычыняеш за сабой дзверы ў рэальнае жыццё з яго напружанай стваральнай дзейнасцю і апынаешся (за выключэннем лічаных работ) у амаль ідылічным свеце суцішаных пейзажаў і нацюрмортаў.

Дзеля справядлівасці скажам, што на выстаўцы ёсць і ў гэтых жанрах цікавыя работы. Гэта тонкія па настроі акварэлі «Вячэрняя цішыня» А. Ясюкайтэ, «Грузія» Ф. Гумена, «Пейзаж» М. Селяшчука, «Жамчужны бераг» Н. Пілюзінай, «Зімой» Р. Ландарскага, «Вясенні вечар» Ул. Кароткага, «Зімовыя карункі» В. Нікалаева, «Старая арка» Л. Налівайкі, нацюрморты В. Дзенісенкі, Ю. Зайцава, С. Марціненкі і інш. Вядома, усе жанры добрыя, акрамя сумнага. І пейзаж, і нацюрморт узбагацяць сэрца і розум чалавека, калі мастак глядзіць на жыццё вачыма сучасніка, калі сэрца б'ецца ў рытме эпохі.

Але скараспелых работ, змест якіх глыбока не перажыты, на выстаўцы таксама дастаткова. Некаторыя з іх маюць пэўныя жывапісныя вартасці, як, скажам, «Партрэт» П. Лазоўскага, «Партрэт бацькі» Ул. Матросава, дыпломная карціна «Беларуская нафта» В. Марковіча. Некаторыя ж проста слабыя. Узяць хаця б дыпломную работу «Лыжны поезд» А. Родзіна, карціну мала эмацыянальную, не выверануо да канца сэнсава і кампазіцыйна. А праца ў гэта велізарнае палатно ўкладзена немалая.

У некаторых работах здзіўляюць пасіўныя адносіны аўтараў да таго, што яны паказваюць. Крамской, паводле яго ўласных слоў, садзіўся пісаць «толькі тады, калі ў галаве сядзіць якая-небудзь ідэя, якая хвалюе і не дае спакою». «Працуйце заўзята», — заклікаў Радэн маладых. І так заўсёды было ў сапраўдным мастацтве, дзе ўсё — споведзь, усё — гарэнне душы.

У гэтай «пейзажна-нацюрмортнай стыхіі» неяк нават патанулі карціны, якія па ідэі павінны былі б вызначыць аблічча выстаўкі. Я маю на ўвазе работы В. Сумарава, С. Гарачава, В. Новака і некаторых іншых. «Нацюрморт з Ласкай» В. Сумарава гэта і не нацюрморт нават, а цалкам сюжэтная карціна пра чалавека, пра яго штодзённыя жыццёвыя будні тут, у інтэр'еры з «кухонным» нацюрмортам, і там, у суседнім доме, за акном, і там, у двары, дзе гуляюць дзяўчаты... І ў другой рабоце — карціне «Дзень абуджаецца» В. Сумараў застаецца верным сабе. І тут — пошук арыгінальных выяўленчых сродкаў. І тут мастак ставіць перад сабой пэўныя жывапісныя і кампазіцыйныя задачы, імкнучыся праз іх паказаць светлую гармонію жыцця, непасрэднасць пачуццяў, своеасаблівую паэзію штодзённасці. Сама манера пісьма глыбока складаная.

Зусім іншая, але таксама цікавая кампазіцыя «Дзяцінства» С. Гарачава. Яна, магчыма, рэзкавата напісана, але мастаку ўдалося адчуць і перадаць праз своеасаблівую рытмічную музычнасць ясныя, чыстыя, амаль казачныя ўспаміны аб дзяцінстве, якое назаўсёды адышло, праскакала «на ружовым кані». Паэтычны, музычна-песенны лад жывапісу і ў другой карціне С. Гарачава — «Камчатка».

Ёсць на выстаўцы і некалькі адносна цікавых партрэтаў, такіх, як жывапісны «Партрэт калгасніка Кісялёва» В. Тоўсціка, акварэльны «Партрэт маладога рабочага» А. Лебядзенка-Ерамеевай, «Партрэт М. Данскога» С. Абрамава,



В. ЯЎСЕЕЎ. У аўтобусе.



Н. ЛІХАНЕНКА. Лаўсан будуецца.

# З ЧАСАМ І ЛЮДЗЬМІ

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 4—5.)

**В. Бечык.** Згодзен. Але таму і звяртаеш асаблівую ўвагу на тое, як развіваецца талент паэта, як акрэсліваецца яго маральнае і грамадзянскае крэда. Ды і справа не ў асобным вершы і не ў адным паэце. Справа, я паўтараю, у нейкай больш агульнай з'яве. Я ўжо гаварыў пра «душэўны камфорт», пра самасупакоенасць і нават самазадаволенасць, якія відавочна шкодзяць паэзіі, перашкаджаюць ёй паварочвацца тварам да жыцця ва ўсёй яго складанасці. Паэзія ўвогуле не можа, не павінна быць сродкам для выгод і камфорту. Паэту, паэзіі наканаваны трывогі, неспакой, напружанне—нават тады, калі сэрца поўніцца радасцю і пранікаецца светлымі настроямі. Паэзія павінна быць заўсёды гатовай да самай суровай выпрабоўкі і загартоўкі пачуццяў, інакш яна мае небяспеку ператварыцца, можа, і ў прыемную для каго, але па сутнасці сваёй няплённую і танную інтэлектуальную забаўку. І гэта ўжо — праблема грамадзянская і маральная.

**А. Вярцінскі.** Так, самазадаволенасць супрацьпаказана паэту. Яна амаральная наогул, а ў паэзіі асабліва. Паэзія такая птушка, што можа ўзлятаць і лятаць толькі тады, калі яна ў стане чуйна адгукацца на покліч прасторы, калі ў ёй настаянна жыве неспакойная прага вышыні. Тлушчык задаволенасці згубны для крылаў гэтай птушкі.

**В. Бечык.** Гэта так. Дарэчы, хачу нагадаць, як пра гэта, пра неспакойную службу паэзіі, пра партыйную скіраванасць і рэвалюцыйную сутнасць паэзіі сацыялістычнага рэалізму, гаварыў у сваім дакладзе на апошнім, трэцім з'ездзе пісьменнікаў РСФСР, паэт Васілій Фёдараў. Паэты і рэвалюцыянеры, слушна зазначаў ён, нараджаюцца па адных і тых жа законах. Іх нараджае прага ісціны, сацыяльнай і маральнай дасканаласці, пачуццё справядлівасці і прыгажосці. Паэту, які адказвае толькі за сябе, гаварыў ён далей, у выпадку няўдачы лёгка суцешыцца, а ў выпадку поспеху—супакоіцца. Агульны ж стан свету і наша становішча ў ім такія, што ні суцяшацца, ні заспакойвацца паэт сёння не мае права.

Так што ў дачыненні да паэзіі паняцці абавязку, адказнасці маюць асаблівае значэнне і ў сэнсе паходжання твора, і ў сэнсе яго грамадскага рэзанансу, хоць, зрэшты, яны адно ад аднаго неаддзельныя. Кажучы словамі Талстога, мастацкая, духоўная дзейнасць толькі тады плённая, калі яна ведае не так правы, як абавязкі, і калі мастак будзе выконваць гэтыя абавязкі з намаганнем і самаахвярнасцю.

**А. Вярцінскі.** Талстой ішоў далей. Ён нават лічыў, што гэтая самаахвярнасць, унутраная неабходнасць спагадаць людзям і служыць ім ёсць адзіная і самая несумненная прыкмета прысутнасці прызвання.

**В. Бечык.** З поўнай адданасці паэта жыццю і самой паэзіі і вынікае, уласна кажучы, усё тое галоўнае, што вызначае яе змястоўнасць, сілу яе ўздзеяння. У гэтым пераконвае нас і штодзённая практыка паэзіі з яе, так сказаць, станоўчымі і адмоўнымі вынікамі. І крытыка паэзіі мае рацыю, калі засяроджвае сваю ўвагу на такіх вызначальных катэгорыях, як грамадзянскасць, сацыяльнасць, праўдзівасць паэтычнага слова. У тым жа сакавіцкім нумары «Полымя», адкуль я браў раней нагаданыя вершы, змешчаны, напрыклад, аглядны артыкул Міколы Арочкі пад назвай «Пазначана часам». Артыкул цікавы, ці

скульптурны партрэт Міцкевіча работы Валянціны Галубкінай, кампазіцыя ў чыгуне «Удыхаючы прыгажосць зямную» Ю. Палякова, прысвечаная А. С. Пушкіну. Пэўныя грані светаадчування сучаснікаў раскрываюцца сродкамі выяўленчай мовы ў карціне «Восень» В. Ціханавец, у індустрыяльных пейзажах А. Бараноўскага і В. Цюрына, у афортах «На пірсе», «Кар'ер» Ул. Савіча, серыі «Радасць» М. Рыжыкава, у літаграфіі «Маладыя мастакі на Сенежы» Ю. Зайцава, у афорце «Горад. Рух» С. Бродскага, у кампазіцыі «Пяшчота» Л. Давідзенкі (граніт).

Ёсць цікавыя работы ў галіне дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Мяне, напрыклад, вельмі ўзрадавала сустрэча з новымі керамічнымі работамі А. Зіменкі.

І ўсё-такі нават пры ўліку ўсіх экспазіцыйных агрэхаў ад такога



М. РЫЖЫКАЎ. Жнівеньскі дождж.

буйнага атрада маладых мастакоў можна было б чакаць большага. І справа тут, вядома, не ў недахопе фармальных рашэнняў. Галоўнае, чаго не хапае выстаўцы,—гэта яркага адчування сучаснасці.

Натуральна, што ў першую чаргу мы мелі права папракнуць удзельнікаў выстаўкі. Але, робячы высновы, нельга не сказаць і аб пpaлiкax арганізатараў. Так выстаўком, створаны да гэтай выстаўкі летам мінулага года, пачаў сваю работу толькі ў гэтым годзе, калі да выстаўкі застаўся літаральна месяц—другі.

Натуральна, такую выстаўку трэба было б рыхтаваць загадзя, а не ў штурмавым парадку.

Галоўны ж з вывадаў — недастаткова высокі ўзровень ідэйна-выхаваўчай работы, якая праводзіцца сярод маладых мастакоў. Іх прафесійная падрыхтоўка — гэта не толькі навучанне фармальна-тэхнічным навыкам. Гэта, у першую чаргу, выхаванне мастака-грамадзяніна. Аб сапраўдным мастаку заўсёды гавораць: «Ён думае з пэндзлем у руках». Важна не толькі бачанне мастака, яго жывапісная або графічная манера, але і яго філасофская, маральная і грамадзянская пазіцыі.

Таленавітая, удумлівая і неспакойная моладзь у нас ёсць. І выстаўкі-агляды іх твораў трэба, відаць, рабіць часцей.

**Б. КРЭПАК.**

ІДУЦЬ ПУШКІНСКІЯ ДНІ

Д. СІМАНОВІЧ

# ПАДАРОЖНАЯ Аляксандра ПУШКІНА

ЭСЭ

У ЯГО КАЛЯСЦЫ, падобнай на цыганскую вандроўную кібітку, ляжала падарожная—ліст, які даваў права на змену коней і дакладна ўказваў гарады, праз якія ён павінен быў праехаць. Нікалаеў, Елізаветград, Чарнігаў, Беліца, Чачэрск, Магілёў, Орша, Віцебск, Полацк, Апочка, Пскоў. Усяго 1621 вярста.

Прыпякала паўднёвае сонца. Пыл асядаў на траву і лісце. І рэдка, толькі ў пунктах, пазначаных у падарожнай, спынялася каляска.

Ён выконваў прадпісанне. І падарожная была дакументам на праезд і геаграфічнай картай адначасова.

У Чарнігаве на станцыі яго выпадкова сустрэў малады паэт Андрэй Падалінскі:

«Раніцай, увайшоўшы ў залу, я ўбачыў у суседнім, буфетным пакоі маладога чалавека, які хадзіў уздоўж стойкі і якога я прыняў па месцы прагулкі і па касцюме за слугу. Адзенне яго было непрывабнае: жоўтыя нанкавыя, неахайна апранутыя, шаравары і руская каляровая пакамечаная сарочка, падпяразаная выцертай чорнай шыйнай хусткай; кучаравыя, даволі доўгія і густыя валасы ў непарадку».

Такім, напэўна, бачылі яго і на іншых станцыях.

Шэрымі змрочнымі фарбамі глядзела на паэта беларуская зямля. Кудысьці далёка за гарызонт цягнулася аднастайная дарога.

«Беларускі тракт страшэнна сумны»,—запісаў у сваім дзённіку яго сябра Іван Пушчын, які праязджаў гэтай жа дарогай.

Ды і сам ён праязджаў тут чатыры гады назад. Тады ў ссылку да Царскага Сяла праводзіў яго Дэльвіг.

Пеністым віном «замачылі» ад'езд. І не такой пыльнай здавалася дарога. А потым ехаў, скінуўшы сурдут, у чырвонай сарочцы, падпяразаны хусткай і ў высокіх ботах. Але гэта было даўно...

А цяпер яго зусім нечакана ўрачыста і радасна прынялі ў Магілёве. Спявалі пад гітару «Чорны шаль». І пад рокат навальніцы, што бушавала над Дняпром, чытаў вершы, якія вандравалі ў рукапісах па Расіі і якія пры жыцці яго так і не былі надрукаваныя.

**Гречанка верная! Не плачь,—он пал героем,**
**Свинец врага в его вонзился грудь.**
**Не плачь—не ты ль ему сама пред первым боем**
**Назначила кровавый чести путь?..**

Можа, і яму прызначаны лёсам такі ж шлях?..

Шыпела шампанскае і, перакрываючы шум сяброўскага застолля, ён чытаў:

**Я люблю вечерний пир,**
**Где веселье председатель,**
**А свобода мой кумир,**
**За столом законодатель;**
**Где до утра слово пей**
**Заглушает крики песен,**
**Где просторен круг гостей,**
**А кружок бутылок тесен.**

На наступны дзень ён праехаў Оршу і вёрст праз 70 спыніўся над невялікай рачулкай.

Быў душны поўдзень. І верны яго дзядзька і целаахоўнік Мікіта Цімафеевіч Казлоў улёгся ў цені на траве.

— Што за рэчка пад вербамі?—спытаў Пушкін.

— А хто яе ведае. Тут месцы такія—усё рачулкі ды азёры.

Ён ведаў, што дзесьці побач—старажытны горад Віцебск. Ведаў, што стаіць горад на Заходняй Дзвіне. Але нешта мала была падобная гэта рачулка на знатную раку.

— Вам лепей ведаць!—сказаў Мікіта.—Будзеце адпачываць, Аляксандр Сяргеевіч?

Замест адказу Пушкін нараспеў прачытаў:

**Дай, Никита, мне одеться,**
**В митрополии звонят...**

— Жартуеце? Якая ж тут мітраполія?—скасавурыўся дзядзька.

Але Пушкін весела і паспешліва пачаў тлумачыць:

— А вось і памыляешся ты, Мікітачка! Мітраполія і ёсць! Мітраполія лясоў і палёў... Паглядзі, а вунь стаіць з кветкамі сам... мітрапаліт!—нечакана закончыў ён.

Ля дарогі стаяла дзяўчынка. Яна збірала кветкі і, пачуўшы галасы, паднялася сярод рамонкаў. Яна і сама, падобная на дзікую кветку, спачатку спалохалася пана. Але калі ён загаварыў з ёй, расказала, хоць і неахвотна, што завуць яе Аленай, а раку—«мы завём Лучоса». Так і сказала: «мы завём». І гэта вельмі спадабалася Пушкіну.

Ён тройчы на розныя лады паўтарыў гэта слова, падзяліў яго на часткі і ўжо гучала светла і празрыста ў яго вуснах:

— Луч-о-са!

Мікіта толькі паціскаў плячамі: і што так спадабалася пану?

А Пушкін думаў аб тым, што кожны народ, які б ён ні быў забіты, прыгнечаны, непісьменны,—у душы сваёй паэт. І паэт вялікі. І быў удзячны ён гэтай маленькай прадстаўніцы Белай Русі за такое адкрыццё...

— Ці не пара ехаць, Аляксандр Сяргеевіч?—гледзячы на неба, запытаўся Мікіта.—А то, глядзіш, да Колпіна і заўтра не даедзем.

— А ці далёка яшчэ?

— Здаецца, далекавата.

Але ў Колпіна, хоць было яно ў той жа Віцебскай губерні, дабіраліся яшчэ доўга. Гаспадара маёнтка, якога хацеў наведаць Пушкін, дома не засталі.

Давялося пакінуць запіску, кароткую і крыху сумнаватую: «Аляксандр Пушкін сардэчна дзякуе Ігнату Сямёнавічу Зяновічу за яго завочную гасціннасць. Ён пакідае яго дом, шчыра шкадуючы, што не меў шчасця пазнаёміцца з шаноўным гаспадаром. 8 жніўня 1824 года».

Каляска затрэслася па выбоінах. І хутка беларуская зямля засталася за ўзгоркам.

Але яна нагадала аб сабе вельмі хутка. Недзе там, у самым цэнтры азёрнага краю, у Віцебску, гасцяваў у сваіх родных яго стары друг Антон Дэльвіг. І, сумуючы ў адзіноце сваёй паўночнай ссылкі, Пушкін чакаў яго да сябе ў Міхайлаўскае. Нават у сне бачыў разумную добрую ўсмешку друга, чуў яго голас: «Чым бліжэй да неба, тым халадней».

Ён прачынаўся і на палях рукапісу невялікімі штрыхамі маляваў партрэт: высокі лоб, акуляры, ледзь выцягнуты наперад падбародак, пад ім—бант. І пісаў брату, і пісаў Вяземскаму, што чакае-недачакаецца да сябе Дэльвіга.

У два адрасы—Віцебск і Пецярбург—паляцелі трывожныя словы: «Дэльвіг, ці жывы ты?»

Дэльвіг тым часам пакідаў ужо Віцебск...

У ранняй смузе праступалі белыя сцены Успенскага сабора. І амаль на вачах спаўзала начная заслона з шырокай, пасля разліву, Дзвіны.

Вясна на рэдкасць была ранняя. Усюды ўпарта выглядвала зеляніна. І нейкія першыя птушачкі пасвіствалі ў кустах.

У вазку было цёпла і хіліла на сон.

Але раптам—што гэта?—ён пачуў першую нясмелую, нібы птушка спрабавала голас, а потым усё больш звонкую трэль.

Няўжо салавей?

І, нібы дзякуючы свайму першаму слухачу, зноў адгукнулася добрая птушка.

І на гэты раз у яе пералівах ён пачуў голас друга: «Дэльвіг, ці жывы ты?» Гэтае пытанне паўтаралася ва ўсіх руладах...

Слёзы выступілі на твары Дэльвіга.

Са сваёй адзіноты, з Міхаўлаўскай ссылкі трывожыўся аб ім і клікаў да сябе бясцэнны друг.

Дэльвіг успомніў кароткае пісьмо Пушкіна і свой адказ.

Гэта было яшчэ ў канцы сакавіка. Ён адправіў з Віцебска ў Міхайлаўскае пісьмо-тлумачэнне і памятаў амаль кожнае слова:

«Мілы Пушкін,—пісаў ён,—уяві сабе, як мяне лёс аддаляе ад Міхайлаўскага. Я ўжо быў гатовы адправіцца да цябе, раптам прыязджае да мяне бацька і бярэ з сабой у Віцебск. Адкладваю наша спатканне да 11 сакавіка, і тут выйшла не па-мойму. На чацвёрты дзень прыезду майго да сваіх трапляю ў рукі да добра знаёмай тваёй, у рукі Гарачкі... Цяпер папраўляюся і збіраюся выехаць з Віцебска ў чацвер.., значыць у суботу ў цябе буду».

Прайшла яшчэ не адна субота, перш чым удалося ім сустрэцца:

— Галасісты!—з адабрэннем сказаў пра салаўя фурман. І ад голасу яго Дэльвіг ачнуўся.

Вазок зноў каціў па беларускай дарозе. Ківалі галінкамі бярозы, то справа, то злева ззялі на вясновым сонцы азёры.

А дзесьці ў канцы дарогі чакаў друга Дэльвіга друг Пушкін.

Ён стаяў пад бярозай і ўзіраўся ў далеч. І радкі, народжаныя пасля іх сустрэчы, у дзень ліцэйскай гадавіны, тады яшчэ не былі напісаны. Але, можа, менавіта гэтыя радкі зараз паўтараў Пушкін, таму што яны былі і раней, яны былі заўсёды:

**И ты пришел, сын лени вдохновенный,**
**О, Дельвиг мой: твой голос пробудил**
**Сердечный жар, так долго усыпленный,**
**И бодро я судьбу благословил.**

не праўда? Мне, у прыватнасці, імпануе ўвага аўтара да праблемы грамадзянскасці ў нашай сённяшняй паэзіі. Хаця ў той жа час не ўсё ў артыкуле дастаткова абгрунтавана, не з усім пагаджаешся. Вы ў сваіх крытычных выступленнях таксама спыняліся на гэтай праблеме, па ўсім відаць, яна блізкая вам. І таму хацелася б пачуць вашы меркаванні.

**А. Вярцінскі.** Некаторыя з іх, здаецца, я ўжо толькі што выказаў. Дадам толькі, што грамадзянскасць—гэта не нейкая фармальна-вонкавая адзнака паэзіі, а нешта арганічна-ўласцівае, звязанае з маральным пачуццём. Яна, гэтая грамадзянскасць, непарыўна звязана з асобай паэта, з яго чалавечай сутнасцю і грамадскай прыродай, з тым жа жывым натхненнем. Само найменне грамадзянін, як мы ведаем, мае рэвалюцыйнае паходжанне, у тым жа значэнні яно прыйшло ў паэзію, увайшло ў літаратурна-крытычны ўжытак.

**В. Бечык.** Добра, як мне здаецца, было сказана пра гэта ў вашым артыкуле «Маральны абавязак паэта». Вы слушна канстатавалі, што ў нашых размовах пра паэзію часта з-пад увагі ўпускаецца галоўнае, што ў гаворцы, напрыклад, пра грамадзянскасць нярэдка не бачым сутнасці праблемы, блытаем сапраўдную грамадзянскасць з падробкай пад яе. Гэта, я лічу, шкодная блытаніна, і варта вітаць кожны крок, скіраваны супраць яе. Тады, у артыкуле, вы акрэслілі прынцыповую мяжу паміж грамадзянскасцю і кан'юнктуршчынай...

Грамадзянскасць, справядліва гаварылі вы, гэта жывое натхненне, жывая страсць, жывая думка, жывы боль. Паэт-грамадзянін змагаецца «за убежденья, за любовь», піша крывёй сэрца. А кан'юнктуршчык ад паэзіі ні за што не змагаецца, піша, па сутнасці, нечым вадзяністым, толькі падфарбаваным пад колер крыві. Грамадзянскасць — барацьба, а кан'юнктура—прыстасавальніцтва...

Цяпер вы, такім чынам, як бы давялі гэтую думку артыкула да завяршэння, падкрэсліўшы значэнне асобы паэта, яго чалавечай сутнасці і грамадскай прыроды, у грамадзянскай жыццядзейнасці паэта.

Я таксама мяркую, што гаварыць аб грамадзянскасці можна толькі тады, калі ў паэтычным творы ёсць і важны сацыяльны змест, і мастацкая навізна, народжаная і глыбокім унутраным перакананнем, і натхненнем паэта. Паэтычны, лірычны маналог тады будзе «делом», калі размова ідзе па сутнасці—без дамешкаў дзяжурнай рыторыкі, пустой неабавязковай балбатні, саматных «вобразных» упрыгожванняў. Калі мы маем справу з сапраўднай адказнасцю, а не заяўленай у якасці таннай самапахвальбы, з сапраўднай смеласцю, а не асцярожненькай гульнёй у смеласць. Калі на самай справе ў паэта існуе жывы, прамы і балючы кантакт з рэчаіснасцю і той самастойны жыццёва-творчы падыход да яе, што не дазваляе яму задавольвацца гатовымі, звыклымі словамі, а змушае выкарыстоўваць слова, паэтычнае слова як свой актыўны спосаб і сродак у барацьбе за вышэйшы чалавечы ідэал—камунізм.

Так атрымалася—а інакш, мабыць, і не магло атрымацца,—што наша размова ўвесь час вярталася да самых неадменных якасцей паэзіі — таленту, натхнення, маральнай забяспечанасці паэзіі. За ўсім жа гэтым стаіць як дзейнік, як удзельнік жыцця і стваральнік паэзіі—паэт, яго асоба. І паколькі гэта так, толькі так, то размова пра адказнасць, абавязак паэта перад партыяй і народам заўсёды будзе надзённай і неабходнай. Было б, канечне, больш прыемна гаварыць пра тое, што сёння ёсць у грамадзянскім і маральным актыве нашай паэзіі. Мы, вядома, гэта добра памятаем і не раз на гэтым спыняліся. Але заклапочаная размова аб пэўных пpaлiкax, адмоўных, так сказаць, тэндэнцыях таксама, мабыць, патрэбна. Будзем спадзявацца, што нас падтрымаюць і чытачы, і крытыкі, і самі паэты, для якіх паэзія—прызванне і высокі грамадскі абавязак.

Ё СЦЬ У ГРОДНЕ такая навуковая ўстанова: аддзел рэгуляцыі абмену рэчываў Інстытута біяхіміі Акадэміі навук БССР. І хоць сам аддзел фармальна належыць да інстытута, на практыцы гэта самастойная навуковая адзінка з шырокім полем дзейнасці, са сваёй адметнай праблематыкай.

Займаецца аддзел вітамінамі. Нашымі старымі знаёмымі—вітамінамі, без якіх, як вядома, немагчыма нармальная жыццядзейнасць арганізму, абмен рэчываў. Многія цяжкія захворванні звязаны з вітамінамі, дакладней, з іх адсутнасцю альбо недастатковай колькасцю ў арганізме. Гэта—вядома. Аднак свет вітамінаў далёка яшчэ не пазнаны да канца. Не будзе перабольшаннем сказаць, што ў ім нямала загадкавага, нямала такога, што патрабуе дасціпнай навуковай думкі, смелага эксперыменту.

## БЕЛАРУСЬ НАВУКОВАЯ

# «СТАРЫ ЗНАЁМЫ»— ВІТАМІН...

Вось, напрыклад, такі шырокавядомы цяпер вітамінны прэпарат, як кокарбаксілаза, яшчэ некалькі гадоў таму не ўжываўся ў клініках краіны. Перш чым ён увайшоў у арсенал лекаў, накіраваных супраць сардэчна-сасудзістых хвароб, тром навуковым установам краіны, у тым ліку аддзелу рэгуляцыі абмену рэчываў, пра які ідзе гаворка, было даручана правесці выпрабаванні кокарбаксілазы. Менавіта дзякуючы гэтым выпрабаванням, многім эксперыментам, праведзеным у аддзеле і ў іншых навуковых установах, кокарбаксілаза сёння дапамагае тысячам людзей вярнуцца ў строй, пазбаўляе іх ад пакут.

Вывучэнне вітамінаў вядзецца тут у самым шырокім аспекце. Навуковыя супрацоўнікі займаюцца вывучэннем міжвітамінных адносін у працэсе абмену рэчываў, шукаюць найбольш аптымальныя варыянты спалучэння розных вітамінаў, каб лячэнне было найбольш эфектыўным. І перш за ўсё пры лячэнні такіх захворванняў, як рэўматызм, дыябет, сасудзістыя.

Вітаміны лечаць. Але як? Мы ведаем, што яны стымулююць, актывізуюць усе працэсы ў арганізме. Калі вітамінаў не хапае, гэтыя працэсы тармозяцца, замаруджваюцца, што прыгнятае ўвесь арганізм. Аднак, чаму? Толькі таму, што не хапае вітамінаў? А можа, тармазное ўздзеянне аказваюць і нейкія антыподы вітамінаў? Так сказаць, антывітаміны?

Так, антыподы вітамінаў існуюць. Гэта антывітаміны. Яны атрыманы ў навуковых лабараторыях краін свету.

Над гэтымі рэчывамі працуюць і ў Гродне. Тут іх сінтэзуюць, прычым па сваім уласным метадзе. Група навуковых супрацоўнікаў пад кіраўніцтвам кандыдата біялагічных навук А. Майсіёнка вывучае, у прыватнасці, уздзеянне антывітаміну вітаміну В, так званага аксіцыяміну, на вугляводны абмен. Было ўстаноўлена, што пры ўвядзенні аксіцыяміну ў арганізм у два разы затармажваецца распад глюкозы, удвая павольней ідзе накапленне тлушчу.

На аснове сваіх доследаў у Гродне вучоныя задумаліся над тым, якое ўздзеянне зробіць антывітамін на нервовую клетку? Бадай, таксама тармазное, а ў такім разе з цягам часу можна будзе спадзявацца вылечваць такія цяжкія нервовыя захворванні, як эпілепсія, з'явы паркінсанізму і г. д.

Больш таго. Кожнае новае адкрыццё вучоныя імкнуцца выкарыстаць у барацьбе з ворагам нумар адзін—ракам. Што, калі тармазное ўздзеянне антывітамінаў накіраваць на ракавую клетку і «паламаць» абмен рэчываў у злаякаснай пухліне?

У гэтым напрамку намечаны сумесныя даследаванні гродзенскіх вучоных з вучонымі Маскоўскага інстытута эксперыментальнай і клінічнай анкалогіі.

Акрамя таго, у аддзеле рэгенерацыі абмену рэчываў вывучаюць пабочныя ўздзеянні вітамінаў і антывітамінаў на арганізм і з'явы гіпервітамінізацыі.

Калі названыя праблемы мала вывучаныя, дык такая праблема, як узаемадзеянне вітамінаў з гармонамі, амаль не кранутая. Ёй прысвечаны ўсяго некалькі навуковых прац ва ўсім свеце. Якраз гэтай праблемай і займаецца група супрацоўнікаў аддзела пад кіраўніцтвам кандыдата біялагічных навук В. Вінаградава.

Работа гэтая патрабуе надзвычай дакладнага, ювелірнага эксперыменту, вялікай цярплівасці—эксперымент цягнецца гадамі...

Вітаміны, антывітаміны... Але ж установа называецца аддзелам рэгуляцыі абмену рэчываў, і ўсё, што тут гаварылася пра вітаміны і іх антыподы, з'яўляецца толькі некаторымі напрамкамі творчага пошуку гродзенскіх вучоных. У больш шырокім, абагульняючым плане дзейнасць аддзела паўстае перад намі ў работах, звязаных з вывучэннем малекулярных механізмаў рэгуляцыі абмену рэчываў. Узначальвае гэтыя работы кіраўнік аддзела прафесар Ю. Астроўскі, чые навуковыя працы шырока вядомы за межамі нашай краіны. Ён удзельнік многіх міжнародных сімпозіумаў і кангрэсаў, яго навуковыя даклады былі прадстаўлены ў Вюртсбургу, у Берліне. з работай аддзела знаёміліся вучоныя Японіі, ФРГ, ГДР і іншых краін.

Аддзел працуе ўсяго два гады. Аднак дзякуючы энергіі, энтузіязму, самаадданасці кіраўніка аддзела прафесара Ю. Астроўскага, усіх яго навуковых супрацоўнікаў, большасць з якіх — моладзь, навуковая ўстанова нашай рэспублікі залічана ў лік навуковых ўстаноў першай катэгорыі.

На дзейнасць аддзела ўскладаюцца вялікія спадзяванні. Ужо ёсць праект стварэння цэлага навуковага комплексу, які павінен быць створаны на базе аддзела.

Галоўнае, зразумела, не ў праектах новых будынкаў, а ў людзях. А людзі аддзела, яго калектыў, паказваюць ужо сёння імкненне да творчага росту. Сярод сарака супрацоўнікаў працуюць чатыры кандыдаты навук, сем чалавек займаюцца ў аспірантуры.

І ці адна яшчэ навуковая дысертацыя, звязаная з перадавымі напрамкамі, з жыццём, з практыкай, будзе абаронена тут, на гродзенскай зямлі!..

Так «старыя знаёмыя», вітаміны, прывялі нас да знаёмства з новым у навуцы, з новымі цікавымі людзьмі. Поспеху ім.

Р. БАКУНОВІЧ.

# МАНДАРЫНАВЫ СНЕГ



Мал. К. ЦІХАНОВІЧА.



Я ў г е н ПУШКІН

*ІМПРЭСІЯ*

ПРА ЗЯЛЁНЫ прамень ён упершыню пачуў на развітанні з морам. Перад гэтым мора штарміла. Некалькі дзён запар яно таранiла хвалямі закуты бетонам бераг, ускідвала тугія жгуты пены і салёныя пырскі шротам сцябалі па парапету і прыбярэжных пабудовах. Не сунімалася мора і па начах. Нават праз зачыненыя вокны было чуваць, як ярылася яно ў сваёй марской адзіноце.

Ля мора ён быў упершыню. І палюбіў яго. Тут прыйшла да яго думка, што мора не ўмее спачываць. У гэтым вечная яго і прыгажосць, і сіла, і вабнасць, і маладосць. Мора, нават калі яно і застаецца знешне спакойным, ніколі не адпачывае.

Яму больш спадабалася бываць на беразе ў ясныя і ціхія дні, калі люстэркавая паверхня блішчыць расплаўленым срэбрам і нагадвае заснежанае, залітае сонцам бяскрайняе поле. І развітацца з морам ён хацеў у такое надвор'е Ён не стане кідаць на развітанне манеты ў ваду, а праплыве шпарка, размашыста, быццам па снезе прабяжыць, па сонечнай дарожцы пойдзе ціхім берагам далёка-далёка па ўзбярэжжу, ловячы няспешны рытм глыбіннай працы мора.

Яму пашчасціла. На развітанне мора было гэткім жа ціхмяным, як і ён сам. З прыступак набярэжнай ён доўга жмурыўся на жывое срэбра вады, затым купаўся ў сонцы і тым срэбры, адплыўшы далей ад берагу і людзей. Пасля падаўся берагам туды, дзе канчаўся пляж і віднеўся ля падножжа гор кручасты абрыў. Там, ля абрыва, таксама спакоілася мора, а высока над ім, на невялікай пляцоўцы, што тулілася паміж морам і гарамі, быў стары парк. Адзінокі, паўзабыты і мілы адзіным сваім даглядчыкам — прыродай. Буяла белымі свечкамі мушмула; велічна трымалі на стройнай паставе свае зялёныя, мяккія парасоны піній. Зялёныя і здалёк нібыта бляшаныя, зубчатыя лісты падуба рэзка вызначаліся на барвовых косах крыптамерыі, той, якую завуць элегантнай, бо яна некалькі разоў на год мяняе колер хвоі. Гэткая модніца! Ён пастаяў колькі часу ля кустоў індыйскага бэзу, што бессаромна растуць без кары-адзення, дзівіўся на начную прыгажуню, шкадуючы, што яна цвіце толькі калі сцямнее.

Ён быў сціплы, маўклівы, як усё тут.

«Маўклівы». Упершыню яго назвалі так, калі ён вучыўся ў першым-другім класе. Памятаецца, тады ў вёску толькі-толькі пачалі завітваць «кіншчыкі». Яны прыязджалі да іх быццам не з суседняй вёскі, а з заморскага краю. У іх Лясным у той дзень, калі чакалі кіно, толькі і было размоў, што пра яго. Расказвалі, як на нарадзе ламаў старшыня галаву, мяркуючы, дзе б узяць падводу, каб прывезці «дзвіжок», думаў, каго б з мужыкоў паслаць за перасоўкай. А мужыкоў у той пасляваенны час дзе было ўзяць у вёсцы. Жанчынам чамусьці такую важную справу не давяралі. Араць давяралі, а гэта — не. Спачувалі старшыні, калі ён, схапіўшыся за галаву і моцна вылаяўшыся,ківаў на каго з мужчын.

— Давай ты пабі лынды сёння — з'ездзі за кіном.

І прывозілі аднекуль здалёку-здалёку ў іх вёску тое кіно. Вечарам ля будынка сельсавета — казалі, што гэта будыніна пастаўлена ў той час, калі не было яшчэ пілы, і зрублена толькі сякерай — збіралася вёска. Механік заўсёды доўга корпаўся ля «дзвіжка», нарэшце заводзіў яго і хуценька бег прадаваць білеты. Браў з чалавека задужа многа. А можа ім, хлапчукам, толькі так здавалася. Грошай, што збіралі яны тыдзень, так і не хапала на білеты. Хутка запаўнялася памяшканне, а яны так і таўкліся перад уваходам, пакуль не зачыняліся дзверы. Увесь час, як ішло кіно, яны так і не адыходзілі ад сельсавета — кружылі вакол траскучага «дзвіжка», заглядвалі ў вокны і зайздросцілі тым, што сядзелі на падлозе ў цесным памяшканні пад самай сцяной, на якой паказвалі «чалавечкаў».

Аднойчы гэтыя «чалавечкі» заскакалі па сцяне ў нейкай шалёнай спешцы і прапалі.

— Дзвіжок заглух.

— Зараз наладзім,— механік, каб не наступіць на людзей, прабіраўся да выхаду. Аказалася, нехта з падшыванцаў запхнуў у нейкую трубу бульбіну.

— Вядома ж, хто да такога мог даўмецца — Праскоўін маўчун. Вось табе і маўклівы!..

«Маўклівы». Гэта мянушка прыставала да яго ўсюды: у школе, затым — у арміі і інстытуце, у СКБ, калі ён прыйшоў туды працаваць. Яго маўклівасць заўважалі адразу. І прыліпала да чалавека — маўклівы.

І ён не тое каб звыкся, ён проста не заўважаў гэтага — абы не чапляліся, абы не лезлі ў душу, не перашкаджалі думаць. З дзяцінства ён заўсёды аб нечым думаў.

Ледзь прыкметнай сцяжынкай ён выйшаў да кіпарысаў, да кручы, што абрывалася ля самага краю. Перад ім над морам вісеў вялізны шар барвовага сонца. Яшчэ колькі хвілін, і яно кранецца марской паверхні, пазалоціць яе і ахіне мора рухомай рознакаляровай наміткай. Ён прыглядаўся, дзе б гэта можна прымасціцца, каб дачакацца поўнага заходу сонца, і ўбачыў непадалёк садовую лаўку. Няспешна падышоў да яе...

Пачуліся нечыя крокі. Ён азірнуўся — да лаўкі ішла жанчына гадоў трыццаці. Гнуткая і стройная пастава, лёгкая хада і, як паспеў адзначыць, была яна вабная і прыемная тварам. Дык ён жа сустракаў яе ўвесь гэты час амаль штодзень. То на кручастай лесвіцы, што вяла ад іх санаторыя да мора, то на бліжэйшым аўтобусным прыпынку, то ў санаторным паштовым аддзяленні. І ні разу яны не загаварылі, ні разу не павіталіся: ці мала людзей ходзяць аднымі і тымі ж сцежкамі. І вось, на табе!

Ён быццам чакаў яе на спатканне, пайшоў насустрач. Прыкмеціў на яе твары здзіўленне і тут жа растлумачыў яго: не думалася ёй напаткаць у гэтым месцы чалавека.

— Дзень добры,— нечакана для сябе самога, упершыню за ўсе гэтыя дні павітаўся ён.

— Хутчэй вечар.

— Няхай вечар.

— Няхай і... вечар.

І раптам яна ціхенька і сарамліва засмяялася, а ён збянтэжыўся, бо смяяліся відочна з яго, а ён не ведаў, чаму.

— Што-та вам... весела?

— Прабачце, калі ласка. Я проста прайграла.

— Што?

— Мы пабіліся аб заклад, з кім, у які дзень вы прывітаецеся. Ну, з афіцыянткай у першы —

гэта ясна. З касірам у кіно вы паздароўкаліся на трэцім кінасеансе... А я,— яна зноў пырснула,— была ўпэўнена, што вы так і паедзеце... І вось... у апошні вечар.

— Гм... А чаму? Чаму я...

— Бог мой, ды я ж сястра-гаспадыня вашага санаторыя.

Ён пакутліва, аж да вушэй і шыі, пачырванеў.

— Прабачце... але.

— Няма за што выбачацца. Сур'ёзны чалавек, паглыблены ў сябе. Не люблю пустамель.

— Я... таксама.

Яму раптам страшэнна захацелася, каб працягвалася гэтая размова ці нават проста маўчанне. Убачыўшы, што яна ідзе да лаўкі, ён выціснуў:

— Я гляджу .. ледзь не заняў вашу яхту.

— Якую? — здзівілася яна.

— Вось — палуба. А спінка — ветразь. Мора. Сонца. Сядзеш, задумаешся. Нібы плывеш.

Яна глянула на яго. І ён не ўбачыў у яе вачах смеху, а, ледзь не ўпершыню ў жыцці, убачыў зацікаўленасць.

— Ну вось. Умееце, значыць, не толькі думаць. Хм, і сапраўды яхта. На кручы.

Яна сядзела на краі лаўкі, углядаючыся ў бок далёкага, аранжавага, як чырвонагаловік, сонца.

— Адсюль можна ўбачыць зялёны прамень. Ён успыхвае, калі сонца толькі-толькі кранаецца вады. Не зловіце — не ўбачыце. І не будзеце шчаслівым.

— Хто так сказаў?

— Прыгожа...

— Аднойчы мне давялося ўбачыць зялёны прамень. З гэтага месца, з гэтай самай, як вы кажаце, яхты. А можа мне толькі падалося.

— Вы... не жартуеце?

— А хіба дрэнна верыць у нешта сваё?

Ён не адказаў. Здавалася, што вымаві ён слова, і знікне ўсё хараство.

Тады ён і сам не ведаў, ці сапраўды паверыў у зялёны прамень. Углядаўся ў далячынь, чакаў і хваляваўся. І адчуваў, што патрэба чакаць, якая так раптоўна адолела, доўга не пакіне яго і восьвось ён спасцігне «нешта сваё». Яго ён будзе затым шукаць і абавязкова павінен знайсці.

Сонца амаль што патанула ў моры. Толькі невялікі яго акрайчык румяніўся на марской паверхні, выпраменьваючы мандарынавае святло.

— А вы — маўклівы! Дык што ўбачыў капітан?

— Я? Мандарынавы... мандарынавы снег.

— Я не памылілася, назваўшы вас капітанам. За морам, у далёкай Беларусі,— па гаворцы пазнала беларуса,— у нейкім яе куточку выпадзе хутка мандарынавы снег. Капітан адправіцца туды на нашай яхце і знойдзе той куточак.

Яна жартавала, а ён намагаўся ўспомніць, адкуль гэтае ўяўленне пра незвычайны снег, перабіраў у памяці ўсё звязанае з зімой, але нічога не мог прыгадаць. І ўжо сам сабе задаваў пытанне:

— А, сапраўды, ці бывае мандарынавы снег?

Так ён і паехаў тады з поўдня, не зразумеўшы, ці пакінуў ён там нешта, ці не.

...З надыходам зімы ён давёў да ладу занядбаныя летась лыжы і амаль штодзень знаходзіў час, каб прабегчы па парку ці па скверы ў двары. Такія прагулкі надараліся раніцай і ўвечары, супадалі з сонечным і пахмурным надвор'ем. Па выхадных днях ён выязджаў цяпер на паляванне. Абступала снежная маўклівасць, ён блукаў па пералесках і цаліку і верыў, што аднойчы ўбачыць мандарынавы снег.

І дзіўна, пасля кожнай сустрэчы са снегам мацнела ў ім гэта вера, і ён з нецярплівасцю чакаў, калі можна зноў выбрацца ў поле, у лес.

Наваголдзем, упершыню за гэту зіму, выдаўся чысты, марозны ранак. Ён нібы прадракаў людзям гожы, замілаваны, таямнічы сонечны дзень. Мінуўшы лес, выйшаў на поле. Ужо добра развіднела. З-за далёкага пералеску ўзыходзіла сонца. Яго промні яшчэ не кранулся снежнай бяскрайняй роўнядзі, і снег здаваўся сіняватым. Пройдзе колькі хвілін і промні сыпануць па полі, а яно заблішчыць расплаўленым срэбрам. Заблішчыць, як мора ў ціхае сонечнае надвор'е, як блішчэла яно ў той дзень, калі яны выглядалі зялёны прамень.

Ён стаяў у маўклівай цішыні і слухаў гэту цішыню. І раптам да яго даляцела сабачае скавытанне. Гэта быў не залівісты брэх, з якім сабакі імчаць за зверам, а жаласны плач ганчака. Кінуўся да лесу, ускрайкам, правальваючыся ў снег, пабег у той бок, адкуль чулася скавытанне. Бег доўга, абсоўваючыся на нябачных пад снегам купінах, і спатыкаючыся.

...Ганчак енчыў у пастцы, якую нехта паставіў, мабыць, на ліса.

Ён рыўком расціснуў жалезную пашчу і, знясілены, узмакрэлы, апусціўся на снег.

— Чый жа ты такі, дурненькі? Балюча, га? Ці костка хоць цэлая? Ну, пакажы. А, нічога. Палізаць хочаш лапку? Ну, давай, брат, давай. А потым будзем гаспадара шукаць. Згода?

Ён доўга сядзеў у мяккім, як пухавік, снезе, і задышка ўсё не пакідала яго. Ён не адчуваў холаду, не думаў аб тым, што можа застудзіцца. Часта і моцна бухала ў грудзях сэрца, і яму ніяк не ўдавалася засяродзіцца. У тахт ударам сэрца падскоквалі і гойдаліся дрэвы, галінкі, на якіх ён мерыўся засяродзіць погляд. Заплюшчыў вочы, са спадзеўкай хутчэй пазбавіцца ад наслання, пакруціў галавой і прытуліўся да ствала дрэва, ля якога сядзеў. Ствол пахаладзіў узмакрэлую спіну. Ён прыціснуўся мацней да дрэва і нават праз тоўстую ватоўку адчуў шурпатасць кары.

— Цікава, што за старэча падпірае мяне? Асіна, рабіна? Не, тыя гладкія. І не сасна. Не бачыў на ўскрайку. Вольха? Вядома ж, вольха. Старая, нізкарослая, з парэпанай, бы зямля ў засуху, карой. Ды, хопіць гадаць! Расплюшчы вочы ды і паглядзі, ці ўгадаў.

Ён убачыў старую грушу-дзічку. Усё — ствол вышэй галавы, вялікія расохі, кволыя парасткі-першагодкі шарэлася серабрыстым інеем. А сярод гэтай серабрыстасці залаціўся невялікі шарык— груша-зазімак. Як і ўся дзічка злёгку заінелы, ён крамяніўся на сонцы, бы ладна выспелы мандарын. І іней на ім адбіваў колерам мандарына. Мандарынавы снег.

Яму здавалася, што смачнейшага ён нічога не еў у жыцці, доўга смактаў, бы ледзянец, замёрзлую жоўтую мякаць. Прыемна халадзіла ў роце. Падумаў, што не мінуць яму пасля гэтага ангіны. Але пра гэта падумалася, як пра нешта нязначнае.

— Ангіна, дык ангіна! Сцерагчыся? Чаго? Засцярога заўсёды патрабуе ад людзей нейкай ахвяры.

І ён смакаваў грушу-зазімак, доўга абсмоктваў кожнае зернятка, адчуваючы ледзь улоўную гаркавасць незвычайнага нектара.

І думаў пра дзічку, як пра нешта жывое:

— Малайчына, калі дагэтуль пратрымалася.

Ноччу ён сніў мора і прыгожую стройную яхту на той кручы. Мора штарміла і людзям ніяк не ўдавалася спусціць яхту на ваду — хвалі зноў выкідвалі яе на бераг. І яхта губляла то ветразь, то мачту. На яе балюча было глядзець, як на цвітучае, раскошнае дрэва, калі яно губляе ў навальніцу сваю прыгажосць. Цяпер яхта стаяла на кручы. Абшарпаная, з адной галаўной мачтай. Мачта была без ветразя і нагадвала ствол знявечанага дрэва...

А потым яхта ляцела лёгка, як парушынка, далёка ў мора, у самы вэрхал хваляў. Яшчэ імгненне—яна разляціцца ушчэнт. Ён зажмурыўся і напружыў слых, чакаючы страшнага трэску.

Але манатонна, грозна гудзела толькі мора. Яхту кідала з грэбеня на грэбень, адзіная мачта яе, увесь час уздрыгваючы і згінаючыся, матлялася вялізнай стрэлкай вагаў. Часам гэта стрэлка ледзь не дакраналася да самой вады. І раптам на мачце нешта мірганула, як жоўтае вочка ліхтарыка. Ён угледзеўся ў жоўтую плямку і ўскрыкнуў: на самай вярхушцы мачты дрыготка матлялася груша-зазімак.

Ён спружыніста адштурхнуўся ад скалістага берагу, лёгка ўзляцеў над хвалямі. Даімчаў да яхты, учапіўся за мачту і пакарабкаўся ўверх — за мандарынавым снегам. Яхту кідала на грэбень хваль і мачта — стрэлка вагаў, па якой ён упарта лез ўгару, шалёна скакала то ўлева, то ўправа. Здавалася, што ён карабкаецца не па слізкай ад пырскаў мачце, а лезе на вершаліну стромкай і гнуткай пад ударамі навальніцы сасны. І недаўцям яму, адкуль на ёй ігруша — крамяная, жоўтая, як мандарын, абсыпаная снегам. Мандарынавы снег на поўдні. Ён бачыць празрыстыя снежныя карункі, адчувае іх прахалоду і свежасць. Робіцца боязна ад думкі, што не дастане зазімак. Ад мандарынавага пякельнага колеру яго кідае ў жар, снег тут жа студзіць разгарачаны твар, закляклі ад напружання рукі. Жар і холад.

— Тэмпература ўсхадзілася,— голас гучыць, як бы наяве. Ён не ведае, прачнуўся ці не, пачуўшы яго, але, здаецца, было нейкае імгненне, калі ён падумаў: гэта сон.

І зноў цягнуўся гэты сон. І ў сне ўжо ён намагаўся ўспомніць, каму ж з яго знаёмых належыць той голас. Маці так гаварыла ў дзяцінстве, калі яго звальвала хвароба. І маці, каб пазнаць, ці ёсць у яго тэмпература, датыкалася да ілба сваімі вуснамі.

Зараз, у сне, ён таксама адчуваў супакойную пяшчоту нечых вуснаў. Але гэта не маці нахілілася над ім — яе вусны ён добра памятае. Хто ж гэта хоча, каб не абарваўся ў бездань зазімак? Хто?

— Хто? — прачнуўшыся, ён пачуў гэты свой крык.

Знямоглы, успацелы, ён ляжаў колькі хвілін, бяздумна гледзячы ў столь, перабіраючы зноўку ў памяці толькі што бачанае ў сне. Здавалася, быццам ён забыў нешта з таго сна, забыў нешта дужа важнае, і трэба яшчэ раз напружыць памяць, каб успомніць — што. Але гэта яму не ўдавалася.

— Магчыма, пагадзя ўспомніцца? Павінна ўсплыць у памяці, калі было ў сне.

Перавёў позірк на акно — на настылай парэнчы балкона скакаў снягір. Раздзьмутым вуголлем палымнела грудка птушкі.

— І я гару. Здаецца, затэмпературыў. А добра было б напісаць на Поўдзень,— падумалася раптам і нечакана.— Напішу, раскажу пра мандарынавы снег. Як шкада, што яна гэтага снегу не бачыла.



«Галоп» выконваюць навучэнцы чацвёртага і пятага класаў.

# «ХАЧУ БЫЦЬ БАЛЕРЫНАЙ...»

*З КАНЦЭРТА ВУЧНЯЎ ХАРЭАГРАФІЧНАГА ВУЧЫЛІШЧА*

Свята гэтае было для ўсіх: і для тых, хто ўпершыню будзе танцаваць, і для тых, хто прывёў іх да гэтага дня. І, вядома, асабліва для тых, хто заканчвае вучылішча і заўтра ўжо будзе называцца артыстам балета.

...Восем гадоў назад яны прыйшлі ў сцены харэаграфічнага вучылішча з марай танцаваць, не падазраючы, колькі цяжкасцей іх чакае. Аказваецца, быць здольным—гэтага вельмі мала. Нават таленавітым — мала. Балетнае мастацтва патрабуе жалезнай дысцыпліны. І не ўсе вытрымліваюць. Перамагаюць моцныя і патрабавальныя.

На сцэне, за апушчанай яшчэ заслонай — цудоўная дысгармонія фарбаў. Апошнія пробы рухаў, настаўленні, роздум... І ва ўсім, над усім—«Я хачу быць балерынай, я буду балерынай...»

Ці здолеюць дзеці прынесці радасць гледачам, не паказваючы той упартай, карпатлівай работы, якая была зроблена да сённяшняга справаздачнага канцэрта?

Гучыць трэці званок! Усё сціхае. Наступае трывожнае хваляванне. Праз імгненне адкрываецца заслона і голас дыктара аб'яўляе:

— Пачынаем канцэрт Беларускага харэаграфічнага вучылішча. Дырэктар вучылішча — заслужаны дзеяч культуры БССР Клаўдзія Фёдараўна Калітоўская, мастацкі кіраўнік — народная артыстка БССР Ірына Савельева.

У праграме канцэрта 26 нумароў. Першай выступае маленькая дзяўчынка, вучаніца 3-га класа Іна Душкевіч. Чайкоўскі. «Падснежнік». Юная балерына ўсёй сваёй істотай імкнецца пранікнуць у музыку геніяльнага кампазітара... Яе змяняюць Наташа Грышчанка, Люда Пасюкевіч і Галя Шынкевіч (вучаніцы 4-га класа), якія з запалам выконваюць «Танец гарэзлівых дзяўчат» з балета Гліера «Медны коннік».

Упершыню на сцэне ў класічнай варыяцыі з балета «Капелія» Дэліба — вучаніцы 5-га класа Ала Талпека і Вольга Чудайкіна. Яны выступаюць усхвалявана.

Выразна, пранікнёна вядзе свой расказ «аб дзяўчыне з валасамі колеру ільну» на музыку Дэбюсі адухоўленая, лёгкая Наташа Катоміна—вучаніца 6-га класа.

Адзін за адным выходзяць на сцэну будучыя артысты, дэманструючы сваё майстэрства. Назваць усіх немагчыма, хоць кожнаму можна сказаць цёплыя, добрыя словы.

І, нарэшце, апошні нумар. Выпускнікі Валя Палушкіна і Юзэф Раўкуць заканчваюць канцэрт. Яны выконваюць па-дэ-дэ з балета «Полымя Парыжа» Асаф'ева. Невыпадкова ім даручылі гэтае па-дэ-дэ. На працягу ўсёй вучобы яны сур'ёзна, удумліва працавалі, авалодваючы праграмай, паспяхова ішлі да намечанай мэты. І заслужылі права сёння танцаваць у складаным дуэце...

Канцэрт закончаны. На сцэне танцавалі дзеці, маладосць! Яны надоўга запомняць перапоўненую глядзельную залу і воплескі.

Не будзем падводзіць вынікі—хто быў лепшы. Адзначым толькі, што ў падрыхтоўцы канцэрта прымалі ўдзел усе педагогі і канцэртмайстры вучылішча, дырыжоры і балетмайстры опернага тэатра.

Заўтра навучэнцы зноў прыйдуць у свае балетныя залы і прааналізуюць з педагогамі выступленні, зноў пачнецца работа, якая будзе працягвацца ўсё жыццё.

Э. СІНЕВА.



Навучэнцы выпускнога класа. Алена Жорава выконвае іспанскі танец. Аляксей Талочка—у па-дэ-труа з балета «Лебядзінае возера».

Фота Ул. КРУКА.

# ДА ПРЫРОДЫ З ПАВАГАЙ

Тэматычны вечар «Ахова прыроды», які нядаўна адбыўся ў клубе Саюза пісьменнікаў БССР, быў яскравай ілюстрацыяй вялікіх намаганняў, што прымае Савецкі ўрад, каб захаваць нашчадкам незлічоныя скарбы прыроды, каб добра жылося і лёгка дыхалася на роднай зямлі кожнаму чалавеку.

Старшыня Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па ахове прыроды А. Варанцоў расказаў пра вялікую работу, якая праводзіцца ў рэспубліцы па рацыянальным і ашчадным выкарыстанні прыродных багаццяў, ахове флоры і фауны Беларусі, пра тыя захады, якія прымаюцца зараз, каб усе мы дыхалі чыстым паветрам, любаваліся люстранай роўняддзю рэк і азёраў, адпачывалі ў засені зялёных паркаў, лясоў і дуброў. Ён заклікаў пісьменнікаў мастацкім словам памагаць народу ў гэтай высакароднай справе. А. І. Варанцоў адказаў на шматлікія пытанні ўдзельнікаў вечара.

На вечары выступіў Уладзімір Караткевіч, які расказаў, як працаваў над фільмам, прысвечаным багаццю і непаўторнай прыгажосці прыроды роднага краю. Вечар закончыўся паказам каляровага дакументальнага фільма «Родная зямля» (сцэнарыст Ул. Караткевіч, рэжысёр С. Сплашноў) студыі «Беларусьфільм».

# ПАЭЗІЯ МАЛАДЫХ

Міхась БАШЛАКОЎ

## БЯРОЗАВАЯ РУНЬ

У дзяцінстве маім падрастала
Рунь бярозавая за акном.
Мяне маці дамоў гукала
На развілцы дарог за сялом.

Праз гады — сумны позірк
на вёску,
Маці з хусткай ля тых дарог...
Можа ўспомніць маленства
бярозкі,
Ценем гладзячы родны парог?

А калі іх зрубалі сягоння
За акном адзінокім маім,
Хай мне буйныя ветры
прыгоняць
Той самотны бярозавы дым.

## БУСЕЛ

Цярушскім буслом
называюць,
(З мянушкамі ўсе мы раслі).
У вёску вясной прыязджаю,
Калі прылятаюць буслы.

Калісьці насіў я са студні
Паўнюткія вёдры дамоў
І выраслі рукі нячутна
Як дужыя крылы буслоў.

Бацькоўскую хату пакінуў,
А клічка мая ўсё жыве.
Здаецца, што клёкат бусліны
Мяне, нібы брата заве.

## ДАРОГА

Дарога, доўгая дарога
Мяне дадому зноў вядзе,
Дзе вечарамі каля стога
Туман на поплаў упадзе.

За браму маці выйдзе з хаты,
Угледзіцца у далячынь.
І разальецца па-над садам
Вачэй засмучаных цяплынь.

Васіль ГАБЕЕЎ

## ДЗЕ Б Я НІ БЫЎ

Дзе б я ні быў, хай поўнач гэта
ці ўсходу золкі небакрай —
мне ўсюды час ад часу нешта
нагадвае пра родны край:

тайга — палескі лес зычлівы,
стэп — шыр буйных палескіх
ніў,
хурма — смак белага наліва,
марошка — тонкі пах суніц,

пяскі пустыняў векавечных —
сумёты студзеньскіх снягоў,
прыветлівасць сяброў
сустрэчных —
лагоднасць сэрцаў землякоў...

Калі на небе заўважаю —
Венера-зорка зіхаціць,
яна мне песню нагадае,
на роднай мове што гучыць.

Ніна ГАРАГЛЯД

●

Мне не сорам, што з вёскі,
казаці,
Песні тыя пяю, што і маці,
Што хаджу басанож па зямлі
Увесну, цёпла раллі калі.
Мне не сорам, што сею зерне,
Што з кабетамі сена вернем,
Пад стажкі бяжым
у навальніцу
Выкруціць прамоклыя
спадніцы...
Што жыву за зялёным борам,
Што я з вёскі —
Ніколі не сорам.

●

Ранак гляне ў аконца
ледзь-ледзь...
Я чакаю — прыедзь...
Хоць пад сонцам пякучым-
пякучым,
Ці на дождыку першым
гаючым.

Пасварыся, пакрыўдзі крышку,
Дарагі будзеш госць і такі...
Я талерку пастаўлю. Дам
лыжку.
Дакрануся цішком да рукі.

●

Дзе ты, дзе, казача,
Конік твой не скача.
Ночы лёгкі крок —
Дрэмле хутарок.

Распляту я косы,
Плачце, вочы-росы.
Конік, пі ваду.
А казак — бяду.

Уладзімір ДУБОВІК

●

Вілейскія помняць лясы
Аб героях сваіх — партызанах,
І дымяцца ў жніво верасы,
Як ад кулі гарачая рана.

І на хвалях празрысты блакіт,
Летуценням прастор тут
шырокі.
...У здзіўленні над срэбрам
ракі
Назаўсёды хлапчук шэравокі.

●

Чалавеку кепска стала,
Пахіснуўся на хаду...
Ты адразу падтрымала,
Каб не трапіў у бяду.

Адчыніла насцеж дзверы
Ты спагадлівай душы,
Каб у добрае паверыў,
Боль у сэрцы заглушыў.

За яго ты у трывозе,
У тваіх вачах адчай...
І стаіць ён на дарозе,
Шапку зняўшы: «Выбачай...»

Іван МАРКЕВІЧ

## БАРАВІКІ

Зноў прабудзілі сонныя цямкі
Птушыны посвіст і людскія
словы.
У верасе густым баравікі
Схавалі свае рыжыя галовы.
Дзікі лычамі пакапалі бор,
І я шкадую — прападзе
грыбніца.
Хаджу — і не знаходжу больш
грыбоў,
Дзе некалі за іх мог зачапіцца.
Бяруся леваруч: там больш
цішэй,
Людскія замаўкаюць
пераховы.
Прамяк ад самых пят і да
вушэй,
А кошык не паўнее мой
лазовы.
І раптам у нізінцы сярод
хвой —
Баравікі крамяныя, як цацкі.
Нарэшце адшукаў я неруш
свой,
Куды сцяжынка прывяла
знянацку.

## СПІЦЬ ЖАНЧЫНА

Спіць спакойна рупная
жанчына,
Рукі адпачылі, сціхнуў боль.
Быццам для яе няма прычыны
Ні за кога хвалявацца больш.
А калі ўздыхне яна спрасоння,
Набягае ў думкі мае цень,
Знаю, што на сэрцы
неспакойна
У яе адбіўся гэты дзень.
Яшчэ ў свеце не заціхлі войны,
Колькі чутна слёзных галасоў?!
І калі жанчына спіць спакойна,
Не трывожце, людзі, яе сон!

●

Без прычыны не кукуй,
зязюля,
На мяне нуду не наганяй,
Як прыходжу я ў зялёны гай,
Дзе хадзіў тут некалі
з матуляй.
Закукуеш, мне гады лічы,
А налічыш мала—не крыўдую:
Знаю варажбітку я скупую,
Ты зманіла маці—лепш маўчы!

## ХІРУРГ

І. ДАВЫДОЎСКАМУ

Ён штодзень на працы,
як на варце,
Бо людскі яму ўручылі лёс.
Ён таксама верце, ці не верце,
Цяжка пераносіць горыч слёз.
Хоць гавораць хворыя,
што здолелі
Дактары людскі адужаць
страх,
Сэрцы іх сціскаюцца ад болю
І цямнее часам у вачах.

Міхась СТРЫГАЛЁЎ

## СТАНЦЫЯ ВАРОНЕЖ НОЧЧУ

Варонеж,
Ты птушкай начной
Аб нечым варожыш.
Варонеж,
ты помніш, ты помніш —
салдат сваіх помніш, Варонеж?
Варонак ад бомб не злічыць,
сталоў варанёных
І варання
над палямі...
На карту ваенную глянеш
І ўспомніш
агні перагонаў
з Растова на Ліскі,
дарог — на Варонеж...

●

З табой развітаюся, лес,
З табой, пара трывог, удачы.
Вясновай знічкі ціхі ўсплеск,
Пяшчотны, нібы позірк матчын.

Пайду у пошуках надзей
Між вёсак, ціхі, па узлесках
Дадому — да сваіх людзей,
Дзе пралягла маленства
сцежка.

## ЧАСІНА ЦВІЦЕННЯ ВЕРАСУ

Сонца ў руху... Цвіценне
верасу...
Дай мне рукі свае, дарагая, —
Шмат яшчэ здзейсніцца...
Верыш?..
Пойдзем.
Хай шамоча пранізлівы
верасень
Пад тваімі нагамі.
Храбусціць
І крывёю разлятаецца на імхі
касцяніца.
Міг захаплення — за намі...
А наперадзе — кліч,
Сумны кліч
Вечных птушак станіцы...

●

Трапяталі асінкі
Ласінага Лога.
Поўдзень лета стаяў
над лясным астраўком.

Па дрыгве ў леснічоўку
напрасткі я спяшаўся —
да рачулкі зарослай
ледзь толькі дайшоў.

Прабягалі аблокі
зыбкім ценем па твары.
Прыцішалі свой бег,
леснічоўкі прыкмецілі дах...

Поўдзень лета стаяў
над забытай імшарай.
Пух ліпнёвы ляцеў
І на скронях маіх асядаў.

Нэла ТУЛУПАВА

## ТАТАВА ХАТА

Татава хата
Усім багата —
Сынамі і
ўнукамі,
Хлебам і
соллю,
Песняй застольнай.
Татава хата
Усім багата —
Працай і
клопатам,
Праўдай, сябрамі, —
Тым, што за грошы
Не купіш у краме.
Татава хата
Дабратой багата,
Чыстым сумленнем,
Светлым памкненнем.

## КАДРЫЛЯ

Ціха ў вёсцы. Ой, як ціха!
Нават сон мяне бярэ...
Памінае бабка ліхам
Нечых збродлівых курэй.
Недзе дзынькнула даёнка,
Бухнуў бубен: «Бу-бу-бу».
Маладзік сярпочкам тонкім
Зачапіўся за вярбу.
І дзяўчаты, і дзяўчаты
Выбягаюць з кожнай хаты.
Пазіраюць хлопцы коса:
«Не дзяўчаты, а стракозы».
А насмешніцы знячэўку
Хлопцам кінулі прыпеўку:
«Мой мілёначак даяр,
Як не ганарыцца!
Ён на ферму апранае
Бабчыну спадніцу».
А хлапцам гэта не «ў нос»,
Узвіліся да нябёс:
— Выручай ты, бубен-братка,
Сыпані агню пад пяткі!
Бубен чортам, бубен макам,
Ды па-нашаму, са смакам!
Аж душа мая гарыць —
Пачынаецца кадрыля.
А кален у ёй, кален —
З непрывычкі б не самлець!
Пераходак і праходак,
Венцялёў і круцялёў,
Не кадрыля — самалёт!
А дзяўчатам хоць бы хны,
Не спыняюцца яны.
Нібы заўтра не ўставаць ім,
Раным-рана, на зары...
Ходзіць з сэрца ў сэрца
Сваццяй —
беларуская
кадрыля!

## ПАДРУБА

Падруба новага верша —
Слова найпершае.

Маўклівая стомленасць рук —
Дабра на зямлі падруба.

І першы наш крык,
І першы наш крок,
І першы салёны вецер —
Падруба жыцця на свеце.

# ГУЧЫЦЬ СІМФОНІЯ АБ'ЁМАЎ

ЗА АПОШНІЯ дзесяць год у Беларусі створаны вельмі буйныя, шматпланавыя мемарыяльныя комплексы, якія атрымалі ўсенароднае прызнанне, сталі сімвалам неўміручай памяці пра подзвіг савецкага народа ў барацьбе з фашысцкай навалай.

Распрацоўваючы праекты гэтых мемарыялаў, беларускія архітэктары і скульптары назапасілі багаты вопыт сінтэзу мастацтваў, вопыт, які заслугоўвае пільнай увагі і асэнсавання.

Сінтэз скульптуры і архітэктуры — паняцце складанае і шматграннае. Яно не вычэрпваецца банальным — «пяцьдзесят працэнтаў скульптуры плюс пяцьдзесят працэнтаў архітэктуры». Яно ўключае ў сябе комплекс пытанняў узаемасувязі, узаемазалежнасці, ўзаемнага ўплыву архітэктуры, скульптуры і прасторы.

Ведучы гаворку аб сінтэзе ў беларускай манументальнай пластыцы, відаць, дарэчы прыгадаць амаль класічную фармулёўку вялікага Бурдэля: «скульптура павінна быць прышчэплена архітэктуры, як прышчапляюць дрэвы».

Не думаю, што Бурдэля варта разумець так, быццам ён аддае прыярытэт архітэктуры, зводзячы скульптуру да ўзроўню нейкага чужароднага парастка, які шляхам хірургічнай аперацыі прышчапляюць да ўжо сфарміраванага дрэва. Кожны ж садоўнік ведае: не прышчэпленае дрэва — нікчэмнае, як і чаранок сам па сабе. Толькі з'яднаныя ў адзін арганізм пераўтвараюцца яны ў квітнеючае, здольнае пладаносіць дрэва.

Відаць, у сімбіёзе «архітэктар—скульптар» галоўнае — не тое, хто карыстаецца «правам прыма», а тое, **наколькі** яны **аднадумцы**, наколькі дакладна разумеюць свае задачы, наколькі (з улікам асаблівасцей свайго мастацтва) намагаюцца дасягнуць адзіна магчымага, аптымальнага выніку.

У сваёй рабоце аўтарам манументальных ансабляў часта даводзіцца на практыцы шукаць адказы на пытанні: ад якіх фактараў залежыць у манументальным комплексе адзінства скульптуры і архітэктуры, скульптуры і прасторы, ці будзе «гучаць» у ансамблі нават самая выдатная скульптура, калі яна дысаніруе з ландшафтам; ці будзе апраўданым самае вытанчанае архітэктурнае рашэнне, калі яго не вянчае роўная па эмацыянальным уздзеянні скульптура; ці будзе выконваць свае функцыі пластычны элемент, калі ён робіцца гегемонам, падаўляючы і архітэктуру і прастору?..

У БЕЛАРУСКАЙ манументальнай пластыцы яшчэ на пачатку трыццатых гадоў былі створаны ансаблі, якія можна лічыць прыкладам гарманічнай еднасці архітэктуры і скульптуры. Прыгадаем хаця б комплекс Дома ўрада ў Мінску. Яго проста нельга ўявіць сабе без помніка У. І. Леніну, які стаў галоўным акцэнтам кампазіцыі (архітэктар І. Лангбард, скульптар М. Манізер). Прыгадаем рэльефы, арганічна ўпісаныя ў інтэр'ер залы пасяджэнняў, якія выканалі А. Бембель, Г. Ізмайлаў, У. Рытар. Нельга не лічыцца і з вопытам супрацоўніцтва архітэктараў і скульптараў у пасляваенныя гады, калі ў Беларусі было ўзведзена шмат помнікаў, калі скульптура вельмі актыўна выкарыстоўвалася пры стварэнні значных грамадскіх будынкаў. У гэтай рабоце прымалі актыўны ўдзел як скульптары старэйшага пакалення — З. Азгур, А. Бембель, А. Глебаў, С. Селіханаў, так і маладзейшыя — П. Белавусаў, А. Заспіцкі, В. Палійчук, М. і Л. Робермапы.

Таму, калі ў пачатку шасцідзесятых група маладых архітэктараў і скульптараў рэспублікі вельмі актыўна ўключылася ў работу па стварэнні шэрагу помнікаў героям, якія загінулі ў гады вайны, — гэтым архітэктарам і скульптарам не прыйшлося «пачынаць на пустым месцы».

Работа над помнікамі была сапраўднай школай майстэрства, у якой сфарміраваліся творчыя індывідуальнасці архітэктараў В. Занковіча, Ю. Градава, Л. Левіна, Ю. Казакова, скульптараў А. Анікейчыка, Г. Мурамцава, У. Ананькі, М. Рыжанкова.

Вопыт, назапашаны імі пры стварэнні помнікаў героям, дазволіў развіць і паглыбіць традыцыі супрацоўніцтва беларускіх архітэктараў і скульптараў старэйшага пакалення.

МЕМАРЫЯЛЬНЫ комплекс «Хатынь» (архітэктары В. Занковіч, Ю. Градаў, Л. Левін, скульптар С. Селіханаў) па праве лічыцца адным з лепшых твораў беларускай манументальнай пластыкі. У ім вельмі ўдала расстаўлены сэнсавыя акцэнты, дэталі «працуюць» на агульнае ўражанне.

Аўтары здолелі стварыць адзіны сілуэт ансамбля, які «чытаецца» з любога пункту. Яны здолелі (і гэта, на маю думку, галоўная вартасць мемарыяла) не парушыць на дзіва жывапісны ландшафт, а арганічна ўпісаць у яго ўсе збудаванні ансамбля. Стварылі выдатны па вобразнай напоўненасці элемент, які стаў сімвалам усяго комплексу, — стылізаваную стэлу на месцы кожнай спаленай хаты. Яны таленавіта вырашылі гукавое афармленне помніка.

Акрамя чыста пластычных і planіровачных задач, аўтары паставілі перад сабой і ўдала вырашылі задачы псіхалагічныя. Яны здолелі пабудаваць дакладную мадэль гледачоўскага ўспрыняцця як усяго ансамбля, так і кожнай яго дэталі, задумаць і таленавіта зрэжысіраваць грандыёзнае відовішча, якім з'яўляецца комплекс у Хатыні, як, між іншым, і любы манументальны ансамбль. Тры «ўдарныя» кропкі прадугледзелі яны ў сваім ансамблі. Першая — стэла-ўказальнік на павароце з шашы, якая прымушае спыніцца, павярнуць на дарогу да помніка. Слова ХАТЫНЬ, складзенае з вялікіх блокаў чорнага бетону, літаральна ўрываецца ў нашу свядомасць, гучыць першаю нотай высокага рэквіема.

Кіламетровыя слупкі-адзнакі, якія вядуць зваротны адлік, сама дарога, якая, бы спружына, упісваецца ў схілы невысокіх пагоркаў, векавы лес, які падступае проста да асфальту, — таксама «рыхтуюць» нас да сустрэчы з помнікам.

Другая «кропка» — уваход на тэрыторыю мемарыяла, уваход, ля якога сустракаюць нас фігура старога з целам сына на руках, стэла чорнага граніту на месцы спаленай адрыны і сімвалічны вянец з блокаў белага мармуру, на якім цудоўныя словы-зварот да тых, хто прыйшоў аддаць даніну пашаны подзвігу беларускага народа.

Адсюль сцяжынка павольна вядзе ўздоўж стэл, якія стаяць на месцы спаленых хат, да галоўнага акцэнту мемарыяла — Сцяны жалобы і Вечнага полымя.

У чорны маналіт гранітнага плінта ўрэзаны зялёны квадрат газона. На ім тры бярозы. Замест чацвёртай — Вечнае полымя!

У другой сусветнай вайне загінуў кожны чацвёрты беларус!

Кожны чацвёрты!

Аўтары стварылі выдатны вобраз, які стаў лагічным завяршэннем ансамбля.

Найбольш эмацыяльна напружаны «вузел» комплексу — уваход. На яго рашэнні (менавіта ў плане сінтэзу скульптуры і архітэктуры) хочацца спыніцца больш падрабязна.

Працуючы над праектам мемарыяла, аўтары намагаліся скрупулёзна аднавіць планіровачную структуру спаленай вёскі. Менавіта таму, відаць, яны размясцілі чорную стэлу на месцы трагедыі фасадам да сцяжынкі. Ідучы за логікай падзей, фігура старога, які толькі што вырваўся з вогненнай пасткі, стаяла спіной да стэлы, бокам да ўваходу.

Аднак такое рашэнне не задаволіла, бо не стварала неабходнага эмацыянальнага зараду. Скульптура не чыталася ні здалёк, ні зблізку — сцяжынка, заціснутая паміж мармуровай стэлай і плінтам, на якім стаіць стары, не забяспечвала нават мінімуму адыходу, каб разгледзець скульптуру.

Таму было вырашана павярнуць скульптуру фронтам да ўваходу. Ад гэтага скульптура выйграла, «запрацавала» на ансамбль.

Але пры гэтым фігура страціла прамую вобразную сувязь са стэлай, якая стаіць на месцы спаленай адрыны. Стэла аказалася збоку ад фігуры і — раптам ператварылася ў элемент, які нясе ў асноўным толькі інфармацыйную нагрузку.

Намагаючыся захаваць структуру спаленай вёскі, скрупулёзна аднаўляючы ўсе элементы яе планіроўкі, аўтары, відаць, недаацанілі значэння пластычнага элемента ў агульнай кампазіцыі, не ўлічылі таго, што скульптура, як правіла, з'яўляецца найбольш эмацыянальным элементам манументальнага ансамбля.

Некаторай недаацэнкай ролі скульптуры, яе другараднасцю, неабавязковасцю ў агульным ансамблі адзначаны і мемарыяльны комплекс у Любані (архітэктары В. Занковіч, Л. Левін, скульптары В. Грос, У. Ананька), помнікі і мемарыяльныя знакі — партызанцы А. Колесавай у гарадскім пасёлку Крупкі (архітэктары В. Занковіч, Л. Левін, скульптар В. Палійчук), віцэ-адміралу М. Дразду ў Буда-Кашалёве (архітэктары В. Занковіч, Л. Левін, скульптар С. Вакар), Канстанціну Заслонаву пад Оршай (архітэктары В. Занковіч, Л. Левін, скульптар Г. Мурамцаў).

Дзеля справядлівасці, аднак, трэба заўважыць, што скульптура ў вышэй названых работах не ўзнялася вышэй пасрэднага ўзроўню і таму проста не здолела арганічна ўвайсці ў ансамбль.

«СТРЫМАНЫЯ» адносіны да скульптуры праявілі і аўтары Кургана славы (архітэктар А. Стаховіч, скульптар А. Бембель).

Складанае інжынернае збудаванне з чатырох гранёных штыхоў, якія апаясаны шырокім сімвалічным кальцом, крыху пасунутым уперад, узнесена на высокі курган, насыпаны на месцы, дзе чатыры франты замкнулі Мінскі кацёл.

Штыхі з белага металу лагічна вянчаюць правільны конус кургана, які арганічна ўпісваецца ў шырокі разлог палёў. Вакол кургана дастаткова свабоднай прасторы.

Гарманічныя аб'ёмы гэтага помніка. Яны чытаюцца як адзінае цэлае і здалёк і зблізку. Ажурныя прыступкі, быццам лісты ўрачыстага дубовага вянка, ляжаць па схілах кургана. Падымаючыся па іх, мы абходзім вакол усяго збудавання, набліжаючыся да комплексу, які вянчае курган. Перад намі ўсё шырэй і шырэй адкрываецца далёкая перспектыва, на якой, бы на карце, сінеюць лясы, жаўцеюць палі.

Тут, на гэтых палях, адбывалася адна з галоўных бітваў за вызваленне Беларусі.

Набліжаючыся да кургана па шашы, падымаючыся па ступенях на яго вяршыню, мы ўнутрана рыхтуемся да таго, што менавіта там, на вяршыні, знаходзіцца «ўдарная» кропка мемарыяла, яго галоўны элемент.

Усім ладам помніка, логікай яго канструкцыі і планіроўкі аўтар пераконвае нас у гэтым.

Але ні мазаіка, ні назвы часцей і падраздзяленняў, якія ўдзельнічалі ў акружэнні ворага, ні адлюстраванне ордэна Перамогі, якімі аздоблена ўнутраная паверхня сімвалічнай стэлы, не здолелі зрабіцца вобразным завяршэннем комплексу, адэкватным таму эмацыянальнаму ўздзеянню, якое стварае сам курган.

Сімвалічны рэльеф на вонкавым баку кальца, які складаецца з твараў воінаў, партызан і партызанак, здалёк глядзіцца даволі дэкаратыўна, ажыўляе некаторую лапідарнасць гладкіх плоскасцей і прамых. Але, калі мы падымаемся да яго бліжэй, гэты эфект губляецца.

ГАВОРАЧЫ пра сінтэз архітэктуры і скульптуры ў беларускай манументальнай пластыцы, мы пакуль што мелі справу з творамі, у якіх у большай альбо меншай ступені адчуваўся прымат архітэктуры. А ў мемарыяльным комплексе ў Брэсцкай крэпасці, менавіта скульптура, «суперманументальная» па характары, выходзіць на першы план, дыктуе свае «ўмовы» і архітэктуры і прасторы.

Мемарыял размешчаны на тэрыторыі крэпасці, дзе кожны камень — сведка подзвігу, дзе кожны сантыметр зямлі паліты крывёю савецкіх людзей. Таму, відаць, натуральным было б рашэнне, якое б падкрэсліла ролю нямых сведак абароны — руінаў крэпасці.

Аднак аўтары прапанавалі іншае.

Галоўны манумент ансамбля — галава воіна — высока ўзвышаецца над руінамі. Яна такая вялікая, што казематы крэпасці побач з ёй выглядаюць нават другараднымі.

Пра твар воіна цяжка сказаць, што ў ім сабрана ўсё характэрнае, тыповае, што звязана ў нашым уяўленні з вобразам воіна-героя.

Паварот галавы хутчэй выражае ўпартасць, чым рашучасць. Вялікі аб'ём, які размешчаны ззаду, павінен надаць кампазіцыі дынамічнасць, робіць сілуэт больш разнастайным, але ў той жа час «прыціскае» яго да зямлі.

Дзевяностаметровы штых — вышынная дамінанта ансамбля — нават пры сваіх каласальных памерах глядзіцца маленькім і занадта лёгкім побач з амаль трыццаціметровым манументам.

Ніяк не звязаны з галоўным манументам і яшчэ адзін пластычны элемент комплексу — «Смага». Ён існуе сам па сабе, з'яўляецца зусім самастойным творам, які «на жывую нітку» прывязаны да агульнай кампазіцыі.

НАПЭЎНА толькі ўваход у крэпасць можна лічыць сапраўдным, без усялякіх агаворак, поспехам аўтараў (над стварэннем мемарыяла ў Брэсцкай крэпасці працаваў творчы калектыў пад кіраўніцтвам архітэктара У. Караля, скульптараў А. Кібальнікава і А. Бембеля).

Бетонны маналіт быццам раскалоўся ад удару снарада, які прабіў яго навылёт, стварыўшы пяцікутную праломіну, праз якую праглядваюцца і цэнтральны манумент і штых-абеліск.

Тут, у калідоры ўваходу, нас сустракае мелодыя песні, якая стала гімнам савецкага народа ў яго барацьбе з фашысцкай навалай — мелодыяй «Свяшчэннай вайны».

Пластычнае рашэнне ўваходу прыцягвае ўвагу сваёй арыгінальнасцю, трапнасцю. Музыка, якая рэхам адбіваецца ад плоскасцей калідора, дае вельмі моцны эмацыянальны зарад, настройвае нас на хвалю, на якую былі настроены ўсе абаронцы геранчнай крэпасці, на хвалю беззапаветнай любві да Радзімы.

ІНШЫ РАЗ, гледзячы на чарцяжы, на макет помніка, які будзе ўзведзены, цяжка бывае ўявіць сабе яго аб'ёмы ўпісанымі ў прастору, цяжка ўявіць усе яго элементы ва ўзаемасувязі. Патрэбна назапасіць вялікі вопыт, каб загадзя прадбачыць, як помнік будзе выглядаць «у натуры». Вельмі часта нейкае рашэнне, знаходка, якая падаецца пераканаўчай і трапнай на чарцяжы, у макеце, пераведзеная «ў памер» губляе свае якасці, выглядае зусім інакш. Зразумела, гэтыя «метамарфозы» трэба ўмець прадугледзець. Але ж на памылках людзі вучацца. І калі сёння мы шчыра і адкрыта гаворым пра тыя недахопы ў галіне сінтэзу скульптуры і архітэктуры, якія сустракаюцца ў створаных беларускімі майстрамі мемарыяльных комплексах, — гэта верная зарука таго, што ў наступным іх можна будзе пазбегнуць.

БЕЛАРУСКАЯ манументальная пластыка — вельмі маладая. Але, нягледзячы на гэта, нашы архітэктары і скульптары стварылі цэлы шэраг ансамбляў, якія ўвайшлі ў плоць і кроў народнага ўспрыняцця. Яны атрымалі самыя высокія адзнакі, якімі ўзнагароджваюцца лепшыя з лепшых твораў мастацтва. Мы ганарымся гэтымі помнікамі, мы любім іх. І можа якраз таму ставімся да іх найбольш патрабавальна.

Бо заўсёды хочацца, каб тое, што па-сапраўднаму любіш, было яшчэ лепшым, было бездакорным.

**Алег БЕЛАВУСАЎ.**



# МАСКОЎСКІ МАЛЫ — У МІНСКУ

Білетаў на спектаклі сёлетніх сталічных гасцей набыць ужо немагчыма. Тых, хто мае месца на «Уладу цемры» або на «Вяселле Крачынскага», называюць шчасліўцамі. Акадэмічны Малы тэатр СССР яшчэ раз пераканаўся, што мінчане ведаюць і шануюць яго мастацтва, па-грамадзянску актыўнае, прасякнутае яснай ідэяй, жыццёвае і выразнае ва ўсіх кампанентах рэжысуры і акцёрскага выканання.

Урачыстым было адкрыццё гастроляў. Дакладней кажучы, урачыстым быў той рытуал сустрэчы, што адбыўся за якіх дзесяць хвілін да пачатку спектакля «Самы апошні дзень» паводле аповесці Б. Васільева (дарэчы, гэты аўтар пасля шырокага поспеху інсцэніроўкі аповесці «А зоры тут ціхія...» набыў рэпутацыю надзвычай тэатральнага, нават «рэжысёрскага» празаіка).

Вітаючы масквічоў, народная артыстка СССР Ларыса Александроўская падзякавала трупе Малога за тую радасць, якую нясуць артысты лепшымі спектаклямі гледачам краіны, адзначыла асаблівае значэнне сёлетняй сустрэчы мінчан з праслаўленым калектывам, сустрэчы юбілейнага года, калі святкуецца 50-годдзе ўтварэння Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. Ад імя тэатра гаварыла народная артыстка СССР Алена Гогалева.

— Нізкі паклон вам, мінчане, за цудоўны горад, які вы ўзнялі на месцы папялішчаў і руін. Артысты Малога помняць па сваіх першых пасля вайны выступленнях, што засталося тут пасля нашэсця гітлераўцаў. Вашы рукі, ваш розум і вашы сэрцы стварылі хараство сапраўднае. Пра Мінск можна сказаць, што гэта горад, узняты да сонца любоўю савецкіх людзей. Прыміце ж рускае, маскоўскае дзякуй за вашу гераічную працу! — сказала пад дружныя апладысменты перапоўненай залы А. Гогалева.

Артысты мінскай сцэны падарылі гасцям букеты кветак. І...

І пачалося свята высокага мастацтва глыбока праўдзівай і па-мастацку яркай акцёрскай ігры. Хоць да п'есы, напісанай Б. Васільевым паводле аповесці «Самы апошні дзень», можна прад'явіць прэтэнзіі (яна часам успрымаецца як ілюстрацыі да празаічных старонак), рэжысёр Б. Равенскіх, выканаўцы ролей М. Жараў, П. Канстанцінаў, І. Лінсо, Т. Тарчынская, Э. Марцэвіч, Я. Веснік, Т. Панкова, В. Хахракоў прадэманстравалі адточанае майстэрства і стварылі атмасферу напружанай па ўнутраным напале дзеі, акрэслілі змястоўныя чалавечыя характары галоўных персанажаў і далі таленавітыя эскізы да партрэтаў эпізадычных дзейных асоб. Наогул спектакль прывабіў культурай пастановачнай работы. Калі імя аўтара музычнага афармлення А. Фляркоўскага не мае патрэбы ў рэкамендацыях, то ўмельства тых, хто даносіць да залы гукавую партытуру (Г. Ліханскі, А. Бекер, Ю. Голішаў, С. Гельвасер), стаіць таксама на высокім узроўні. Як і мастакоў па асвятленні — заслужанага работніка культуры РСФСР І. Бізэ, В. Ізотавай і А. Цюрыкава. Пераходы ад сцэны да сцэны выконваюцца ў лепшым сэнсе слова па-кінематаграфічнаму: іх не заўважаеш, яны не замінаюць акцёрам раскрываць эмацыянальны стан герояў.

Пры ўсёй стракатасці драматычных, часамі афарбаваных лірыкай, а іншы раз і вострым сатырычным сарказмам, эпізодаў спектакля «Самы апошні дзень» тэатр захапляе залу і прымушае адчуць хараство і веліч «чалавека для людзей», якім прадстае маладшы лейтэнант міліцыі Кавалёў у выкананні М. Жарава. Да гэтага вобраза, як кажуць, працягнуты ўсе ніткі сюжэта. І выдатны артыст дэманструе на дзіва дакладнае адчуванне ансамбля, ён не дазваляе сабе адкрыта «саліраваць», хоць такога павароту спектакля чакаеш, а ўступае ва ўнутраны кантакт з кожным акцёрам, які, бывае, з'яўляецца на сцэне літаральна на пяць і нават менш мінут.

Пасля «Самага апошняга дня» Малы тэатр паказаў даўно пастаўлены спектакль «Укралі консула». Камедыя Г. Мдзівані цяпер, праз дзесяць гадоў пасля напісання, выглядае часам даволі спрошчаным па мастацкай распрацоўцы вобразаў памфлетам на норавы буржуазнага грамадства. Але і ў ёй ёсць нешта такое, што прыцягвае ўвагу гледачоў: народны сакавіты гумар, займальная інтрыга, жанравыя фігуры сярод дзейных асоб... Цікава, што мінчане, якія добра ведаюць па кінематаграфічных стужках і па блакітным экране, скажам, Ю. Саломіна, у гэтым спектаклі адкрывалі для сябе тэатральныя якасці таленту: непасрэднасць у перадачы духоўнага настрою і валявога імпэту шаўца Пэпіна. Прывабнай атрымалася Лола ў артысткі Л. Юдзінай...

Аднак, даруйце, гэта — не рэцэнзія на спектаклі гасцей. Нам хацелася ў рэпартажы адзначыць атмасферу радаснай сустрэчы з прадстаўнікамі славутай рускай сцэны. Цяпер многа гавораць пра так званы прыярытэт рэжысуры ў тэатральным мастацтве, ёсць тэарэтыкі, якія адстойваюць пяршынства драматургічнага слова. Гастрольныя выступленні артыстаў Малога тэатра, якія мы паспелі паглядзець, яшчэ раз сведчаць, што акцёр — першы і паўнамоцны прадстаўнік калектыўнага па сутнасці мастацтва сцэны. Праз яго зала «чытае» і «чуе» задуму аўтара, трактоўку рэжысёра. Тыя артысты Малога, з якімі за гэтыя дні пазнаёміліся мінчане, абуджаюць удзячныя пачуцці за тое, што яны свядома падначальваюць сябе генеральнай ідэі твора, які сёння імі іграецца, дзеля раскрыцця яе мабілізуюць культуру сцэнічнай мовы, вызначаюць выразныя абрысы знешняга малюнку, паглыбляюцца ў падтэкст. І робяць усё прыёмамі надзвычай яркай тэатральнасці. Жыццё прадстае ў святле рампы захапляючым, шматгранным, складаным, супярэчлівым. І паказаныя на сцэне вобразы і падзеі маюць мудрую і па-грамадзянску сталую мараль.

У часе першых знаёмстваў на вуліцах горада і на сцэне, за кулісамі тэатра і ў фае адбываюцца імправізаваныя сустрэчы. Гутаркі. Спрэчкі. Наш фотакарэспандэнт Ул. Крук занатаваў на стужцы момант адкрыцця гастроляў, калі ў сяброўскай цеплыні сустрэліся далоні А. Гогалевай і Л. Александроўскай. На здымку ўнізе — Ю. Саломін і Л. Юдзіна ля Вечнага агню...

Гастролі набіраюць разгон. Пашыраюцца рэпертуарныя даляглядзы — на сцэну выходзіць класіка: на гэтых днях Малы тэатр іграе «Уладу цемры», і сотні мінчан на далёкіх рубяжах тэатра на плошчы імя Парыжскай Камуны пытаюць, ці няма «лішняга білеціка».

Не, няма! А ў зале няма куды яблыку зваліцца....

В. ІВІН.



# БОЛЬШ ЖАРТАМ, МЕНШ УСУР'ЁЗ

*«САСЛУЖЫЎЦЫ» Э. БРАГІНСКАГА І Э. РАЗАНАВА Ў РУСКІМ ДРАМАТЫЧНЫМ ТЭАТРЫ БССР ІМЯ М. ГОРКАГА І БЕЛАРУСКІМ ДРАМАТЫЧНЫМ ТЭАТРЫ ІМЯ ЯКУБА КОЛАСА*

«Саслужыўцы» — папулярныя. Дзе іх ні іграюць — у Мінску або Віцебску — глядзельная зала амаль заўсёды поўная. Мабыць, ужо ў самай назве п'есы ёсць нешта прывабнае і ўсім зразумелае: саслужыўцы — гэта кожны з нас, усе мы дзесьці служым і, здараецца, уступаем менавіта ў такія канфлікты—мучымся сваёй нясмеласцю пры размове з начальнікам, губляемся або, наадварот, бываем празмерна ўпартымі. Здараецца з намі і нешта такое, што было з героем п'есы Навасельцавым.

Няхай звальняюць!.. Але ён скажа дырэктару Калугінай, які яна чэрствы, бяздушны кіраўнік, як цяжка з ёй людзям! Бывае, і самому начальніку такі ўрок ідзе на карысць, як, напрыклад, Калугінай. Ёй трэба было пачуць усе горкія словы, каб навучыцца паважаць нават самага сціплага саслужыўца, адкрыць і ў самой сабе дабрату... Праўда, не абышлося тут без кахання. Яно і завяршыла працэс «ачалавечвання» Калугінай.

Рускі драматычны тэатр БССР ставіцца да гэтай жыццёвай гісторыі іранічна (пастаноўшчык А. Кузняцоў). Пад гарэзлівую музыку на авансцэну выходзяць героі спектакля і, прытанцоўваючы, гавораць, хто яны такія. Пралог з куплетамі і танцамі — умовы ігры, якія тэатр прапануе гледачам на гэты вечар. Не прымайце ўсё гэта ўсур'ёз, нібы папярэджвае ён, давайце ўявім, што так магло б быць, і — пасмяёмся. А калі «магло б», а не ёсць, дык і мера сцэнічнай умоўнасці адразу ўзрастае.

**Некаторыя персанажы губляюць глыбіню, робяцца аднамернымі. Намеснік дырэктара Самахвалаў (арт. І. Камароў) выглядае толькі кар'ерыстам, сакратар-машыністка Верачка (арт. І. Гаркуша) — толькі ўвасабленнем глупства і мітусні, член мясцкома Шура (арт. Г. Значкоўская) — пародыяй на прафсаюзную актывістку, якой такія персанажы даўно малююць на сцэне.**

**Праўда, і драматургі, ствараючы гэтыя партрэты, не імкнуліся, мабыць, адкрыць новыя тыпы. Фігуры, накшталт Самахвалава, Верачкі, Шуры, сустракаліся ў розных п'есах раней, і міграцыі іх не відаць канца. Іграць такія ролі на сцэне і лёгка, і цяжка. Лёгка, бо персанаж нагадвае маску, устойлівы тып, а зрабіць такі тып жывым і псіхалагічна індывідуальным — цяжка.**

**У Рускім тэатры БССР і дзейнічаюць людзі-маскі, якія добрасумленна выконваюць свае функцыі, каб у фінале спектакля выказаць няхітрую жыццёвую выснову: «Людзі, стаўцеся адзін да аднаго па-чалавечы!»**

Толькі актрыса І. Лакштанава адкрывае ў сваёй Калугінай не зусім звычайны характар. Бог ведае, чаму ачарсцвела душа гэтай жанчыны — ці ад ранняга горкага вопыту, вераломства блізкіх людзей, ці ад празмерна афіцыйна зразуметага «службовага абавязку», які прымушае яе адмовіцца ад асабістага жыцця. Знешне даволі прывабная — высокая, ладная, з густам апранутая, — яна ўнутрана халодная, замкнёная. Адчуваецца, што Калугіна даўно прывыкла загадваць, прывыкла да свайго дырэктарскага крэсла, да званкоў міністра. І, відаць, даўно яна дзеліць людзей на «маленькіх» і «вялікіх». Навасельцаў (арт. А. Бялоў) для яе — «маленькі».

Гаворыць яна з ім холадна, не ўзнімаючы вачэй. Ёй і ў галаву не прыходзіць, што пра чалавека трэба меркаваць не толькі па якасці складзенай ім на паперы службовай справаздачы. Калі гэты ціхі Навасельцаў на вечарынцы ў Самахвалава, крыху выпіўшы і асмялеўшы, спрабуе адкрыць сваю душу Калугінай і, сустрэўшы ў адказ халодную абыякавасць, у гневе ўзрываецца — у гэты момант нешта ўзрываецца і ў яе душы. Напэўна, многія гады Калугінай ніхто не гаварыў такіх горкіх слоў, якія вырваліся ў запале ў сціплага падначаленага, — гэта прасветленае здзіўленне якраз і іграе І. Лакштанава. Яна роўным голасам дзякуе Самахвалаву за «прыемны вечар», але ў яе позірку, кіну-

# КАГО ПАКАХАЛА ЗЯЛЁНАЯ ПТУШКА?

АРТЫСТКА РЭСПУБЛІКАНСКАГА ТЭАТРА ЮНАГА ГЛЕДАЧА КАЦЯРЫНА ДОЎНАР У РОЛІ БАРБАРЫНЫ Ў КАЗЦЫ ГОЦЫ

Радасная, маляўнічая і незвычайна адзетая група людзей з гучным гіканнем, песнямі і танцамі нечакана ўзнікае перад нашымі вачамі. Яны нясуць на выцягнутых руках гратэскава прыбранага «важака». У імя чаго — яшчэ незразумела: бо проста пакуль што нас захапляе незвычайнае шэсце незвычайных людзей, якія прапануюць і нам удзельнічаць у іхняй вясёлай гульні. Але вы яшчэ не давяраеце заклікам гэтых людзей. Нарэшце, лёд недавер'я зламаны, і вы, забыўшыся аб усім, кідаецеся ў самую гушчыню вясёлай кампаніі. І тады вам раптам робіцца зразумелым сэнс таго, што адбываецца на сцэне, лёгка і свабодна разгадваеце вы таямніцу гратэскавай фігуры «важака» і самі ўздымаецеся над «злом» на крылах зялёнай птушкі. Такім успрымаецца спектакль «Зялёная птушка» ў пастаноўцы Мікалая Шыйко большасцю гледачоў.

Спынюся на адным яго персанажы — Барбарыне. У сюжэце п'есы прызначэнне гэтай дзеючай асобы, здаецца, надзвычай простае. Выратаваць цудоўнага прынца можа толькі дзяўчына з чыстым сэрцам, здольная пайсці на ахвяру дзеля перамогі дабра. Такую дзяўчыну прынц угадвае ў Барбарыне, прыёмнай дачцы каўбасніка Труфальдзіна. Аднак Барбарына пад уплывам свайго брата Рэнца захапляецца філасофскай тэорыяй «разумнага эгаізму». У гэтым захапленні яна заходзіць так далёка, што непрыкметна губляе свае добрыя прыродныя якасці і ператвараецца ў капрызную какетку, гатовую для ажыццяўлення сваіх капрызаў нават на злачынства. Выконваючы яе жаданні, Рэнца ператвараецца ў каменную статую. І тады Барбарына становіцца зноў сама сабой, гатовай ахвяраваць сабой, каб выратаваць брата...

Выканаўцы ролі Барбарыны — маладой актрысе Кацярыне Доўнар, несумненна, давялося сутыкнуцца з немалымі цяжкасцямі. Рытмы спектакля надзвычай імклівыя, і ёй трэба быць вынаходлівай і натрэніраванай, каб свабодна дзейнічаць, быць дынамічнай у рухах, ярка эмацыянальнай у пачуццях. І гэта ёй у асноўным удаецца.

У пачатку спектакля Доўнар — Барбарына абаяльная: у самім абліччы яе—і непасрэд-

# КОЛАС І БЕЛАРУСКАЯ СЦЭНА

**Навукова-метадычны савет па прапагандзе пытанняў літаратуры і мастацтва праўлення таварыства «Веды» Беларускай ССР выпусціў брашуру кандыдата мастацтвазнаўства С. Пятровіча «Якуб Колас і беларускі тэатр». Яна прысвечана 90-годдзю з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Якуба Коласа і складаецца з трох частак: «Ля калыскі беларускага тэатра», «Тэатр народнага песняра» і «Беларуская мастацкая Каласіяна».**

**У кнізе ідзе гаворка пра раннія п'есы паэта «Чарка ўсё на свеце робіць» («Антось Лата»), «Забастоўшчыкі» і «На дарозе жыцця», пра яго дружбу з калектывам Першага беларускага дзяржаўнага тэатра (БДТ-1), а таксама з тэатрам імя Якуба Коласа, для якога ён стварыў п'есу «Вайна—вайне». У гэтым жа тэатры была ажыццёўлена пастаноўка «У пушчах Палесся»—аднаго з лепшых драматычных твораў паэта.**

**Аўтар расказвае пра вялікую спадчыну, якую пакінуў народны пясняр беларускаму тэатру.**

**М. ЖЫГОЦКІ.**

тым на Навасельцава, чытаецца збянтэжанасць. Камень зрушаны з месца, цяпер ён пакаціўся ўніз, разрываючы путы, якія аблыталі гэту адзінокую душу...

**Скажам, актрыса паказвае, як лютуе ў апошняй сцэне Калугіна, калі падазрае свайго падначаленага і ўжо каханага ў тым, што Навасельцаў заляцаецца да яе з карыслівымі намерамі. Мы, гледзячы, адчуваем у гэты момант радасць за чалавека, які абакраў сябе, а цяпер духоўна ўваскрасае, раскрываючы лепшыя рысы сваёй натуры.**

Выкананне галоўнай ролі ў мінскім спектаклі робіць яго не толькі вясёлым, а і змястоўным, дакладным па думцы.

У БЕЛАРУСКІМ дзяржаўным драматычным тэатры імя Я. Коласа ў Віцебску рэжысёры С. Казіміроўскі і Л. Кавалёў разам з мастаком А. Салаўёвым паказваюць людзей на фоне атрыбутаў вялікай вылічальнай машыны. «Няўжо такая малая і нязначная роля чалавека ў свеце камп'ютэраў?» — міжволі закрадваецца думка. Але раптам бачыш усмешлівыя мордачкі ў некаторых адтулінах перфастужкі. Яны нібы падміргваюць: пачакай, маўляў, з вывадамі, паглядзі, што тут будзе...

**І мы глядзім. На круглую пляцоўку, на цяжкі канцылярскі стол і хмурую жанчыну за ім. Яна ўткнулася ў паперы, шамаціць імі, потым устае, ідзе, цяжка ступаючы, «нібы ўбіваючы сваі». На твары яе ні гневу, ні радасці, у хрыплаватым голасе — нейкія цьмяныя інтанацыі, нібы з усіх фарбаў свету гэтай жанчыне дасталася толькі адна — шэрая. Шэры бясколерны твар, шэры непрыкметны касцюм і, напэўна, шэрае, беднае на радасці, жыццё. Людзі побач з ёй спяваюць, танцуюць, вершы чытаюць, а яна сядзіць, маўклівая, абыякавая, як каменная баба. Як жа тут не ўзарвацца? Як не ўгнявіць жанчыну?**

**— Вы сухар! Вы не чалавек! — крычыць ёй мужчына з тонкім нервовым тварам.**

Так мы знаёмімся з галоўнымі героямі спектакля коласаўцаў — Калугінай (арт. Г. Маркіна) і Навасельцавым (арт. М. Цішачкін). За маўклівасцю, стрыманасцю і нежаданнем гаварыць аб сваіх бедах угадваецца рэдкая душэўная стойкасць Навасельцава. Яму сапраўды нялёгка даводзіцца: жонка пакінула з двума дзецьмі, на рабоце не ўсё ладзіцца. А ён — усміхаецца! Нават жартуе з саслужыўцамі! Уласны боль прыкрывае ірoніяй, а таварыша ў цяжкую мінуту падтрымае, падбадзёрыць. Сутыкнецца з подласцю — не раздумваючы, кінецца ў бойку. Арыгінальны атрымаўся «саслужывец» у артыста М. Цішачкіна!

Толькі з начальніцай сваёй стараецца не сустракацца Навасельцаў. «Баішся яе?» — кпяць з яго сябры. «Баюся», — жартуе Навасельцаў. На самай жа справе не баіцца ён Калугінай, проста не знаходзіць душэўных кантактаў з гэтай жанчынай-аўтаматам.

Затое з якой высакароднасцю герой М. Цішачкіна кідаецца суцяшаць тую ж Калугіну, застаўшы яе ў слязах, як радуецца абуджэнню ў ёй чалавечнасці, жаноцкасці! Цяпер ён ужо не пакіне яе, не дасць пагаснуць нечаканаму ў яе душы агеньчыку. Ён горды і шчаслівы, як скульптар, які ўдыхнуў жыццё ў халодны мармур.

Многае здолеў сказаць пра Навасельцава артыст у Віцебску.

А Калугіна? У выкананні Г. Маркінай — гэта наогул прастадушны чалавек, не фанабэрлівы, не высакамерны. Яна ўся ў справах, у клопатах аб зводках, дакладах, нарадах, так што і аб сабе няма калі падумаць ды і ў іншых угледзецца. Калугіна Маркінай не заўважае, як цямнеюць фарбы, як бяднее яе душа. Толькі канфлікт з Навасельцавым адкрывае ёй вочы — бо ледзь не прагледзела яна жывое жыццё, жывых людзей. Цяпер ёй хочацца «дагнаць» былыя гады. Энергія проста рвецца з яе.

**Трэба бачыць, як старанна вучыцца Калугіна ў сваёй сакратаркі Верачкі «грацыёзнай хадзе». Уся напружылася, спадніцу падняла над каленямі, каб не прапусціць ні аднаго руху, і, рэзка выкідваючы ногі, пячатае крок, як салдат на плацы.**

Метамарфоза ў гэтай жанчыне адбываецца хутка і безбалесна. У фінале яна — раскаваны, натуральны, шчаслівы чалавек...

Не, не выпадкова падміргвалі нам з перфастужкі хітрыя фізіяноміі віцебскіх артыстаў. Можна выратаваць душу жывую, калі гэтага вельмі захацець!..

ДВА СПЕКТАКЛІ, дзве спробы пранікнуць у глыбіню праз знешні пласт жыцця, паказаны ў п'есе. Больш багаты ўраджай мог бы быць, калі б акцёры мелі глыбейшы драматургічны матэрыял. Тады на спектаклях панаваў бы не толькі вясёлы, бестурботны смех. А былі б і хвіліны засяроджанага маўчання, калі гледачы супастаўляюць асабісты жыццёвы вопыт з тым, што ім адкрывае сцэна.

**Д. МАНАЕВА.**

насць, і сціпласць, і нейкая няўпэўненасць. Такой пакахаў яе прынц — зялёная птушка. Але гэта яшчэ не тая Барбарына, якая дзеля добрай справы гатова свядома ахвяраваць сабой. Як паказвае актрыса, у Барбарыны яшчэ наперадзе захапленне філасофскімі канцэпцыямі брата, якія здаюцца ёй вельмі прывабнымі і і могуць «перарабіць» характар чалавека да непазнавальнасці.



**І вось пачынаецца небяспечная гульня ў «выключную асобу», якая не прызнае ніякіх абмежаванняў у сваіх жаданнях. Пластыка актрысы рэзка змяняецца, змяняецца знешняе аблічча, змяняецца моўная характарыстыка. Капрыз, які мяжуе з жорсткасцю, — вось што дыктуе паводзіны Барбарыны — Доўнар да моманту ўсведамлення сваёй віны, да моманту раскаяння. Цяпер яна нібы схамянулася, цяпер яна ранейшая добрая і чулая Барбарына, якая набыла яшчэ адну важную якасць, неабходную для здзяйснення подзвігу, — рашучасць.**

Такім чынам, актрыса, на мой погляд, па-акцёрску ўпэўнена і пераканаўча паказвае два, умоўна кажучы, абліччы сваёй гераіні — нясмелай дзяўчыны і той Барбарыны, якая пасля ўсіх прыгод і памылак усвядоміла, у чым сапраўднае прызванне чалавека. Тут прэтэнзій да выканання ролі амаль не ўзнікае. Затое тады, калі К. Доўнар іграе Барбарыну знатнай дамай, прагнай да бляску і славы, часамі адчуваеш, што яшчэ не знойдзены тыя адзіна правільныя акцёрскія прыстасаванні, якія не перашкаджалі б нам паверыць у «знатную даму», якая толькі што, зусім нядаўна была натурай зусім іншай і неўзабаве зноў ператворыцца ў добрага чалавека. Ці не празмерна імкнецца К. Доўнар «выкрыць» Барбарыну, якая толькі на пэўны час трацiць у сабе нешта прывабнае і высакароднае?

**Магчыма, гэта спрэчна — якая мера акцёрскага «сур'ёзу» ў такіх выпадках патрэбна, асабліва, калі роля трактуецца з камедыйным акцэнтам. У свой час Гоцы скардзіўся на «...недахоп акцёраў, якія маглі б іграць з належным уменнем, стрыманасцю і пачуццём сур'ёзныя ролі, а апошнія, пры непраўдападобным змесце, займаюць намнога больш адказнае становішча, чым у праўдападобных сюжэтах, і патрабуюць ад акцёра выключнага таленту пры паказе ПРАЎДЫ, якой на самай справе не існуе». Відаць, у момант, калі актрыса пачынае здзекавацца са сваёй гераіні, знікае момант ПРАЎДЫ, момант ДАВЕРУ гледачоў.**

Мне здаецца, у вырашэнні Барбарыны — знатнай дамы актрысе трэба кіравацца жаданнем Барбарыны прыкінуцца, пагуляць у знатную даму, адчуць, што гэта такое ў сапраўднасці. Ад такога гучання камедыйнасць вобраза не зменшыцца. У канчатковым выніку Барбарына — натура таленавітая і ўсё, што яна робіць, робіць з захапленнем. Таленавітасць яе трэба выканаўцы прыносіць і ў абліччы гераіні, калі тая «непрыемная». Гэтага пакуль што няма... Пакуль што, бо сцэнічны партрэт удакладняецца.

У заключэнне мне хочацца сказаць, што зялёная птушка мае рацыю, калі любіць Барбарыну Кацярыны Доўнар.

**М. СМІРНОЎ.**

# У АПЕРЭЦЕ АБАВЯЗКОВА ТАНЦУЮЦЬ

АФІША паведамляе — А. Эшпай. «Увага, здымка!» Музычны спектакль з пралогам, эпілогам, танцавальнымі дывертысментамі і толькі адным антрактам. Лібрэта Б. Рацэра і В. Канстанцінава. Рэжысёр-пастаноўшчык А. Даўгаполаў...

Варта было б, напэўна, паведаміць далей, што асістэнт рэжысёра — В. Бажэнаў. (У дадзеным выпадку асоба немалаважная, паколькі запрошаны з Масквы рэжысёр, паставіўшы спектакль, паехаў і рыхтаваць яго да здачы, па сутнасці, давялося асістэнту; а пры адсутнасці яшчэ і галоўнага рэжысёра ў тэатры — гэта задача не з лёгкіх).

Варта было б назваць і іншых стваральнікаў гэтага і спрэчнага, і па-свойму цікавага спектакля — і мастака, і пастаноўшчыкаў танцаў, і хормайстра. Але афіша чамусьці іх не называе... Чаму — сказаць цяжка.

**Зразумела, як і кожны цяпер сцэнічны твор пра сучасную моладзь, тым больш — аперэта, музычная камедыя «Увага, здымка!» выклікае нараканні за даволі схематычны паказ таго, што ёсць у сапраўдным жыцці, за аднaзначнасць характараў, за спрошчаную схему сюжэтнай пабудовы. Што ж, многія такія нараканні, мабыць, справядлівыя. Ды толькі ж наогул пэўная лёгкадумнасць, уласцівая жанру аперэты, без яе лібрэтысты, а потым і кампазітары пакуль што не могуць абысціся. Давайце станем на пазіцыю тых, хто лічыць гэтую лёгкадумнасць заканамернай, і тады новы спектакль Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі БССР будзе ўспрымацца даволі звычайнай з'явай, творам, дзе штосьці ўдалося больш, штосьці, наадварот, не ўдалося ні аўтарам, ні выканаўцам.**

Спектакль пра моладзь. Такую, якой гэта сучасная моладзь здаецца збоку. І як знешняя лёгкасць, бесклапотнасць, практыцызм, схільнасць да іроніі, здольнасць пусціць пыл у вочы, разыграць друга — не засланяе прынцыповасці, сумленнасці, імкненняў да вялікага і глыбокага кахання, адказнасці за ўсё, што адбываецца вакол. Спектакль аб сумленнасці і ў жыцці, і ў мастацтве. Моладзь марыць аб будучыні і ў той жа час адчувае сваю цесную сувязь з мінулым, якое не проста гісторыя, а — жывыя падзеі, чалавечыя долі. Яны хвалююць, а часам заклікаюць да адказнасці. І калі трэба прымаць прынцыповае рашэнне, то становіцца ясна, што ў галоўным сённяшнія Валодзі і Веры не вельмі адрозніваюцца ад людзей старэйшага пакалення, калі яны былі маладыя.

**Спектакль пра моладзь. І таму ён немагчымы без танца.** Тым больш, што наогул аперэты без танцаў не бывае. Менавіта на іх я і спынюся.

...Падымаецца заслона, гучыць музыка, маладыя, прыгожыя дзяўчаты і хлопцы да самазабыцця аддаюцца бадзёраму, жыццярадаснаму і імклівaму рытму сучаснага танца. Запланаваны рэжысёрам нумар-застаўка, дзякуючы свайму малюнку і агульнаму настрою, уплятаецца ў структуру спектакля, стварае эмацыянальную атмасферу імклівасці, напружанасці сённяшняга дня. Рытмічнасць, дакладнасць, зладжанасць рухаў — усё гэта робіць танец энергічным, спартыўным, сучасным. Гэтая ж музыка паўтараецца потым у сцэне на пляжы ў пачатку другога дзеяння. Пластычна ж яна вырашаецца інакш. Шум, маляўнічасць, сонечнасць паўднёвага пляжа, радасць свабоды, адпачынку патрабавалі лёгкіх, дынамічных і разняволеных рухаў.

Балетмайстры І. і Л. Травініны вырашылі гэты дывертысмент ярка і выразна. Але ж хацелася б крыху большай сабранасці ад выканаўцаў, чысціні рухаў, дакладнасці, вызвалення ад некаторых не вельмі сцэнічных элементаў бытавога сучаснага танца. А то момантамі ствараецца ўражанне, што маладыя і жыццярадасныя артысты настолькі захапляюцца танцам, яго рытмам, што танцуюць ужо для ўласнага задавальнення, забываючы аб тым, як гэта выглядае.

Блізкія па настроі гэтаму танцу бугі-вугі і шэйк у сцэне адпачынку моладзі ў перапынку на здымках. Калі прывычна ўспрымаеш вальс лірычным, танга млявым, то новы сучасны танец нясе ў сабе самасцвярджэнне, гордасць і ў той жа час гарэзлівую насмешку, лёгкую іронію. Выканаўцы падкрэсліваюць гэта. Артысты балета выконваюць танец зграбна, крышку жартаўліва і прыгожа. Сярод сучасных харэаграфічных нумароў ёсць і «рускі». Зроблены на класічнай аснове, ён увесь — як ажыўшая цацка. Яго ўспрымаеш як танец-сувенір, бліскуча выкананы Л. Калечыц і кардэбалетам.

**Ёсць у балеце і танцы-ілюстрацыі, якія дапамагаюць раскрыць стан героя, выявіць яго думкі, пачуцці. Расказ Веры аб сваім захапленні кіно, аб дзіцячым успрыманні яго суправаджае дыксіленд, які выконвае канкан. Апраўданы музыкай і ўпамінаннем аб канкане ў песні гераіні, нядрэнна пастаўлены і выкананы, ён, на маю думку, увогуле не зусім стасуецца з драматургіяй спектакля і нічым не ўзбагачае яго.**

Вакальны дуэт Сені і Марыны суправаджаецца балетным дуэтам «Карыда», які выконвалі Г. Шылянкова з В. Карулісам і В. Стаднік з А. Казінцом. Танец ідзе як бы другім планам. Ён заснаван на матывах іспанскага народнага танца, і кожны рух дэманструе гордасць, смеласць. Гэта паэма аб каханні адкрытым, максімальна выразным у сваіх праяўленнях. Аб'яднаны з дуэтам, танец становіцца сімвалам моцных і прыгожых узаемаадносін.

Удалы і чыста класічны, мяккі, блакітны (і па каляровым афармленні, і па настроі) дуэт «Неба», які суправаджае арыю Валодзі. У ім апраўдана і асэнсавана кожная поза і падтрымка. Усё пранізана далікатнасцю, чуласцю, узаемаразуменнем і чысцінёй пачуццяў. Дуэт, зліваючыся з марамі героя, дапаўняе, паглыбляе і пластычна выяўляе іх. Тэхнічна выкананы на добрым прафесійным узроўні, танец узбагачаны яркай эмацыянальнасцю выканаўцы Л. Калечыц. Хацелася б пажадаць толькі В. Карулісу большай пранікнёнасці, выразнасці ў раскрыцці ўнутранага стану яго героя.

**У харэаграфічных нумарах спектакля занята амаль уся танцавальная група. Пераважна — артыстычная моладзь. Яна яшчэ ў станаўленні, яшчэ шукае, як кажуць, сябе, выпрацоўвае стыль і манеру выканання, замацоўвае ўзаемаразуменне паміж салістамі і масоўкай. Трэба сказаць, што робіцца гэта старанна, з пачуццём адказнасці за кожны выхад на сцэну.**

ПРЭМ'ЕРА адбылася, але работа працягваецца. Ідзе яна не толькі ў плане ўдасканалення тэхнікі, але і ў напрамку большага выяўлення акцёрскага майстэрства, большай вобразнасці выканання. Таму, калі гледачы першых спектакляў адчувалі напружанне, хваляванне, радасць выканаўцаў, то ў далейшым, трэба меркаваць, мы ўбачым адточанасць і завершанасць кожнага нумара.

Праўда, ніякая адточанасць асобных нумароў не вызваляе рэжысуру ад абавязку дакладна «манціраваць» харэаграфію з драматычнымі момантамі і вакальнымі эпізодамі. Пакуль што арганічнасці ў «мантажы» спектакля «Увага, здымка!» няма. Мабыць, таму многія з нас успрымаюць балетную частку як ілюстрацыйны дадатак да дзеі, апладзіруюць танцоўшчыкам за іх умельства і натхненне «наогул», без трывалай сувязі з драматургіяй твора.

**Э. МАРОЗ.**

# ПРЫНЯТЫ Ў САЮЗ АРХІТЭКТАРАЎ



**МАЛЕВІЧ Юрый Мікалаевіч.** Нарадзіўся ў 1937 годзе ў Мінску. У 1961 г. скончыў Беларускі політэхнічны інстытут. Працуе галоўным архітэктарам праектаў у Барысаўскай майстэрні Мінскага абласнога філіяла Белдзяржпраекта. Аўтар праектаў жылых дамоў, бібліятэкі на 500 тысяч тамоў, індустрыяльнага тэхнікума ў Барысаве, мікрараёнаў у Барысаве, Слуцку, Чэрвені, Вілейцы, інтэрната ў Беразіно.



**МЕЛЬЦЭР Уладзімір Юр'евіч.** Нарадзіўся ў 1932 годзе ў Магілёве. У 1956 г. скончыў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію. Працуе старшым архітэктарам у Магілёўскім філіяле інстытута Белдзяржпраект. Аўтар праектаў планіроўкі саўгаса «Бароньki», «Забычанне», «Брацкі», «40 год Кастрычніка», «Саматэвічы» Магілёўскай вобласці, жывёлагадоўчых комплексаў у калгасах і саўгасах.

**МЯЖЭВІЧ Сяргей Лугавеевіч.** Нарадзіўся ў 1939 годзе ў Горацкім раёне. У 1963 г. скончыў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію. Працуе кіраўніком групы ў Магілёўскім філіяле Белдзяржпраекта. Аўтар праектаў планіроўкі саўгасаў «Халмянскі», «Палужскі», «Дружба», «Ударнік», «Перамога», «Пісараўшчына», комплексаў вытворчых памяшканняў у саўгасах і калгасах Магілёўскай вобласці.

**ПАТАЕЎ Георгій Аляксандравіч.** Нарадзіўся ў 1944 годзе ў Мінску. У 1967 г. скончыў Беларускі політэхнічны інстытут і аспірантуру пры інстытуце. Працуе асістэнтам кафедры горадабудаўніцтва Беларускага політэхнічнага інстытута. Аўтар раду работ аб прынцыпах аб'ёмна-прасторавай арганізацыі месц загараднага адпачынку на прыкладах Беларусі.

**СЕРАПЯН Шата Авакімавіч.** Нарадзіўся ў 1939 годзе ў Абхазскай АССР. У 1967 г. скончыў мастацкі інстытут імя Рэпіна ў Ленінградзе. Працуе кіраўніком групы ў інстытуце Мінскпраект. Аўтар праектаў 162-кватэрнага дзесяціпавярховага жылога дома па вул. Іванаўскай, жылых дамоў і забудовы ўчастка на вул. Брылеўскай, жылога дома на 125 кватэр па вул. Слясарнай, пасажырскага павільёна аэрапорта, магазіна гародніны і інтэрната па вул. Ангарскай у Мінску.

**СНАДСКІ Анатолій Анатольевіч.** Нарадзіўся ў 1942 годзе ў Мінску. У 1965 г. скончыў Беларускі політэхнічны інстытут. Працуе кіраўніком групы ў інстытуце Мінскпраект. Аўтар праектаў 12-павярховага інтэрната па вул. А. Кашавога, паталагаанатамічнага корпуса клінічнай бальніцы, інтэр'ераў магазінаў і грамадскіх будынкаў у Мінску.

**САБАЛЕЎСКІ Аляксандр Аляксандравіч.** Нарадзіўся ў 1942 годзе ў Мінскім раёне. У 1968 г. скончыў Беларускі політэхнічны інстытут. Працуе старшым архітэктарам у інстытуце Белдзяржпраект. Удзельнік міжнароднага агляду студэнцкіх праектаў у Празе, дыпламант агляду дыпломных праектаў Саюза архітэктараў СССР. Аўтар праектаў комплексу праектных інстытутаў па вул. Друкарскай, 16-павярховых жылых дамоў па вул. Веры Харужай у Мінску.

**ТКАЧОЎ Віктар Іванавіч.** Нарадзіўся ў 1940 годзе ў Гомельскім раёне. У 1968 г. скончыў Беларускі політэхнічны інстытут. Працуе старшым архітэктарам у інстытуце Белгіпрахарчпром. Аўтар праектаў прадпрыемстваў харчовай прамысловасці ў Яраслаўлі, Казані, Шостцы, рэканструкцыі Бабруйскага мясакамбіната і малочных заводаў у Брэсце і Магілёве.

**ТРАФІМЧУК Алег Рыгоравіч.** Нарадзіўся ў 1941 годзе ў Мінску. У 1968 г. скончыў Беларускі політэхнічны інстытут. Працуе намеснікам начальніка Упраўлення па будаўніцтве і архітэктуры Мінскай вобласці. Прымаў удзел у распрацоўцы праекта забудовы цэнтральнай плошчы калгаса «Прагрэс» Гродзенскай вобласці, цэнтраў калгасаў імя Дзяржынскага Слуцкага раёна і імя Калініна Нясвіжскага раёна, раду грамадскіх будынкаў у Маладзечне.

**ШУБІНА Вольга Віктараўна.** Нарадзілася ў 1941 годзе ў Кемераўскай вобласці. У 1966 г. скончыла Беларускі політэхнічны інстытут. Працуе старшым архітэктарам у інстытуце Мінскпраект. Аўтар праектаў рэканструкцыі вуліцы Я. Коласа, парку імя 900-годдзя Мінска, пракатнай базы ў парку імя Горкага, Дома літаратараў у Мінску.

**ЮРКЕЎСКАЯ Аксана Альгердаўна.** Нарадзілася ў 1940 годзе ў Мінску. У 1963 г. скончыла Беларускі політэхнічны інстытут. Працуе старшым архітэктарам у Мінскім абласным філіяле інстытута Белдзяржпраект. Аўтар праектаў генеральнага плана Беразіно, мікрараёнаў № 9 і № 8 у Салігорску, мікрараёна № 1 па вул. Гагарына ў Барысаве, рабочага пасёлка Гатава Мінскага раёна.

МУЗЫКА, МУЗЫКАНТЫ

# ...І—АРТЫСТЫЧНАСЦЬ

НА КАФЕДРЫ спеваў Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага ўстанавілася добрая традыцыя рэгулярна праводзіць канцэрты выкладчыкаў. Сёлетні навучальны год завяршыўся сольным канцэртам старшага выкладчыка Г. Генінай. Партыю фартэпіяна выканала в. а. дацэнта кафедры канцэртмайстарскага майстэрства кансерваторыі Э. Тырманд.

Выканаўцы паставілі перад сабой складаную і адказную задачу—пазнаёміць слухачоў, галоўным чынам, студэнцкую моладзь, не толькі з папулярнымі, але і малавядомымі творамі класічнай і сучаснай музыкі. Пазнавальную каштоўнасць такога канцэрта цяжка пераацаніць. Натуральна, што інтэрпрэтацыя твораў, якія яшчэ не «на слыху» і не маюць трывалых выканаўчых традыцый, патрабуе ад музыкантаў асаблівай удумлівасці і пранікнення ў стыль і характар музыкі.

Голасу Г. Генінай уласцівы трапятлівасць гучання, цёплы тэмбр. Фразіроўка яе вызначаецца эмацыянальнай свабодай, гібкасцю і рухомасцю, дыкцыя чоткая і выразная. Праўдзіва і шчыра раскрывае спявачка складаную гаму чалавечых перажыванняў і пачуццяў вакальнай лірыкі Чайкоўскага і Рахманінава. Ёй аднолькава добра ўдаюцца як усхваляваны драматызм, так і пяшчотны смутак пейзажнай лірыкі...

Сярод малавядомых рамансаў Чайкоўскага абаяльна, ласкава прагучаў «Засні». У рамансе «Смерць» у характары элегічнага вальса быў тонка раскрыты філасофскі падтэкст.

Хвалюючае ўражанне пакідае «Пярсцёнак» Рахманінава—рэдкі прыклад звароту кампазітара да жанру балады. Выканаўцы здолелі правільна адчуць і данесці да слухачоў яе ўнутраны драматызм. Дарэчы, у адкрытым канцэрце «Пярсцёнак» мы пачулі ў Мінску ўпершыню.

Эмацыянальная адкрытасць лірыкі Чайкоўскага і Рахманінава аказаліся блізкімі спявачцы, хоць часамі яе можна было папракнуць за некаторыя дынамічныя перабольшанні, фарсіроўку гуку ў верхнім рэгістры (рамансы Чайкоўскага—«Даруй», «Ноч», Рахманінава—«О, не сумуй»).

Выкананне народных песень у апрацоўцы Равеля і Пракоф'ева—радасная падзея ў нашым музычным жыцці. Несумненна, гэта сапраўдная творчая ўдача спявачкі і акампаніятара. Прадстаўнікі розных стыляў і нацыянальных школ — Равель і Пракоф'еў, аднак, з аднолькавых пазіцый падыходзілі да фальклору. Абодва мастакі бачылі ў апрацоўцы не «музейную захавальнасць» напеваў, а, перш за ўсё, праўдзівае ўзнаўленне народных характараў і вобразаў. Пры гэтым кожны з іх абапіраўся на ўласцівае яму лада-танальнае і гарманічнае ўспрыняцце, нікольki не скажаючы нацыянальнай прыроды песень.

«Рускія народныя песні» Пракоф'ева—сапраўдныя жамчужыны савецкай вакальнай лірыкі. Дзіўна, што спевакі забываюць пра іх. У канцэрце прагучалі шэсць песень. Радуе іх жанравая разнастайнасць і шматграннасць. Тут і стрыманая лірыка («Зялёны гаёк»), і вясёлы карагодны танец («На гары-то каліна»), і сакавіты народны гумар («Дунечка», «Чарнец»), і незвычайная для Пракоф'ева распеўнасць «жорсткіх» рамансаў («Карыя вочкі»). Выканаўцы добра разумеюць і адчуваюць стыхію рускай народнай песеннасці ў спалучэнні з вастрынёй і своеасаблівасцю тыпова пракоф'еўскай музычнай мовы. Адсюль і артыкуляцыйныя знаходкі спявачкі—характэрнае гуказдабыванне, блізкае да народнай манеры, своеасаблівае «прыдыханне» і глісандзіраванне. Адсюль і яе яркі артыстызм, асабліва ў песні «Кацярына», у якой жаночае каханне без узаемнасці раскрыта ў хвацкім і тужлівым танцы, у «смеху скрозь слёзы».

Спявачка добра перадае суровую прыгажосць і лаканізм народных песень Равеля («Італьянская» і «Іспанская»), тонка раскрывае ўсе адценні і інтанацыі жывой чалавечай гаворкі (песня «Нікалета»).

Г. Геніна знаёмая нам і як выканаўца многіх вакальных твораў беларускіх кампазітараў. З вялікай цікавасцю былі сустрэты дзве песні Тырманд. Адна з іх «Нашто» (словы М. Танка), лірыка-апавядальная, прагучала ўпершыню.

Поспеху канцэрта садзейнічала высокая ансамблевая культура выканаўцаў. Спявачка і піяністка не толькі па-артыстычнаму адчуваюць адна адну, яны знаходзяць агульную мову ў самім прачытанні тэксту (дарэчы, вельмі строгім і дакладным), у раскрыцці стылявых асаблівасцей музыкі.

Шкада, што такія канцэрты абмяжоўваюцца рамкамі навучальных устаноў. Камерная вакальная лірыка, адзін з самых шчырых і даступных відаў музычнага мастацтва, павінна больш шырока ўваходзіць у наша жыццё, гучаць часцей на вялікай канцэртнай эстрадзе.

**Н. КАЛЕСНІКАВА.**

# НОВЫЯ НАЗВЫ НА АФІШАХ

Напярэдадні летніх гастроляў Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра ў Іванаве калектыў паказаў сваю новую работу—спектакль па п'есе Ю. Эдліса «Чэрвень, пачатак лета». Рэжысёр заслужаны артыст БССР А. Раеўскі, мастак В. Гараднякоў.

На здымку: Вера—артыстка І. Хацяноўская, Міця—артыст В. Караткоў.

Фота А. ГОЛЬША.

# ВІЦЕБСКАЕ МУЗЫЧНАЕ ВУЧЫЛІШЧА

**АБ'ЯЎЛЯЕ ПРЫЁМ НАВУЧЭНЦАЎ НА 1972/73 НАВУЧАЛЬНЫ ГОД НА ДЗЁННАЕ І ЗАВОЧНАЕ АДДЗЯЛЕННІ ПА СПЕЦЫЯЛЬНАСЦЯХ:**

1. Фартэпіяна.
2. Струнныя інструменты (скрыпка, віяланчэль, альт, кантрабас).
3. Народныя інструменты (баян, акардэон, домра, цымбалы, балалайка, гітара).
4. Духавыя інструменты (флейта, фагот, габой, кларнет, труба, туба, валторна, трамбон, ударныя інструменты).
5. Харавое дырыжыраванне.
6. Спевы (толькі на дзённае аддзяленне).
7. Тэорыя музыкі (толькі на дзённае аддзяленне).

Вучылішча рыхтуе выкладчыкаў дзіцячых музычных школ, артыстаў аркестра і хору, кіраўнікоў самадзейнага духавога аркестра, аркестра народных інструментаў, дырыжораў хору, выкладчыкаў спеваў у агульнаадукацыйнай школе.

Ва ўчылішча прымаюцца грамадзяне абодвух полаў да 30-гадовага ўзросту—на дзённае аддзяленне, на навучанне без адрыву ад вытворчасці—без абмежавання ўзросту, якія паспяхова здадуць уступныя экзамены.

На дзённае і завочнае аддзяленні прыём на базе няпоўнай сярэдняй і сярэдняй школы.

Па спецыяльнасці спевы прыём з 17-гадовага ўзросту.

На завочнае аддзяленне прымаюцца толькі асобы, якія працуюць па спецыяльнасці.

Заявы аб прыёме падаюцца на імя дырэктара вучылішча з указаннем выбранай спецыяльнасці.

Да заявы прыкладаюцца: дакумент аб адукацыі (арыгінал), медыцынская даведка (форма 286), 4 фатаграфіі (здымкі без галаўнога ўбору, памер 3×4 см).

Асобы, якія паступаюць на завочнае аддзяленне, а таксама на дзённае аддзяленне, і маюць стаж практычнай работы не менш двух гадоў, пры падачы заявы прад'яўляюць выпіску з працоўнай кніжкі, завераную кіраўніком прадпрыемства або ўстановы, калгаснікі—выпіску з калгаснай кніжкі, завераную праўленнем калгаса.

Пасведчанне аб нараджэнні або пашпарт, ваенны білет або прыпіснае пасведчанне (для ваеннаабавязаных і асоб прызыўнога ўзросту) прад'яўляюцца асабіста.

Прыём заяў на дзённае і завочнае аддзяленні — з 1 па 30 чэрвеня.

Уступныя экзамены на дзённае і завочнае аддзяленні—з 1 па 20 ліпеня.

Паступаючыя ў вучылішча на базе няпоўнай сярэдняй школы здаюць уступныя экзамены па спецыяльнасці, сальфеджыо, музычнай грамаце, рускай мове (дыктант), рускай мове і літаратуры (вусна);

на базе сярэдняй школы—па спецыяльнасці, сальфеджыо, музычнай грамаце, рускай мове і літаратуры (сачыненне), гісторыі СССР (вусна).

Кансультацыі для паступаючых з 26 чэрвеня.

ЯЎКА НА ЭКЗАМЕНЫ ПА ВЫКЛІКУ ВУЧЫЛІШЧА.

Навучэнцы забяспечваюцца стыпендыяй на агульных падставах.

Адрас вучылішча: г. ВІЦЕБСК, САВЕЦКАЯ, 23-а.

# ВЕЧАР ПАЧАТКОЎЦАЎ

Нядаўна па ініцыятыве Мінскага абкома камсамола і абласной бібліятэкі імя Пушкіна ў Стаўбцоўскім раённым доме культуры адбыўся літаратурны вечар паэтаў-пачаткоўцаў.

Вечар адкрыў рэдактар Стаўбцоўскай раённай газеты «Прамень» Ч. Петрашневіч. Свае вершы прачыталі студэнты БДУ імя У. І. Леніна Ніна Супрун, Людміла Забалоцкая, Валерый Дранчук, Мікола Камароўскі і Мікола Дзямідовіч, малодшы рэдактар выдавецтва «Народная асвета» Яўген Хвалей, загадчык аддзела беларускай і краязнаўчай літаратуры Мінскай абласной бібліятэкі імя Пушкіна Алесь Камароўскі.

**Я. ЗАНЯМОНЕЦ.**

# Вясёлая трасянка

**ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫІ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ**

Лявон КУДЛА

# ПІ-ПІ-ПІ...

РАНІЦОЙ загадчыку нашай установы пазваніў загадчык вышэйшай установы.

— Ёсць у нас думка ўзнагародзіць кагосьці з вашых работнікаў граматай. Абмяркуйце там у сябе, каго, і дайце нам дастойную кандыдатуру.

Загадчык адразу ж склікаў усіх і аб'явіў, які напаткаў нас гонар. Толькі ён скончыў, і адразу ж падняўся намеснік:

— Тут і размовы быць не можа. Ёсць у нас адна дастойная кандыдатура: наш загадчык Анатоль Пятровіч.—Намеснік добра ведаў, што яго кандыдатура ўсё роўна адпадае: зусім нядаўна ён атрымаў суровую вымову. Яго ледзь не знялі з пасады, але пашкадавалі, далі магчымасць дацягнуць да пенсіі.

Ніхто, зразумела, пасля прапановы намесніка не адважыўся назваць іншую кандыдатуру.

— Згодны, — адказалі супрацоўнікі, і хацелі ўжо разыходзіцца, але загадчык нечакана аб'явіў:

— Даю самаадвод... Падумайце аб іншай кандыдатуры.

Загадчык, па сакрэту кажучы, вельмі хацеў атрымаць грамату, але ведаў, што там, у вышэйшай установе, могуць сказаць: «Анатоль Пятровіч, вас ужо тры разы адзначалі»...

«Лепш самому адмовіцца і гэтым заслужыць пашану ў начальства і падуладных— вось, маўляў, які наш Анатоль Пятровіч»,—рашыў загадчык.

Адмаўленне загадчыка ўсіх збянтэжыла. Стварылася новая сітуацыя, якая кожнага нечым кранала: калі не загадчык, дык нехта з нас? Хто будзе тым дастойным?

Спачатку стараліся ўгаварыць загадчыка (што ўжо было немалой для яго ўзнагародай), а тым часам думалі: каго ж? Нікому не хацелася быць менш дастойным, да таго ж той, хто атрымае грамату, можа ў далейшым мець болей шанцаў заняць пасаду нама, калі той пойдзе на пенсію.

— Ну, дык каго?—спытаў загадчык.

— Толькі вам належыць узнагарода,—ужо больш актыўна загаманілі ўсе.

— Ну, добра,—усміхнуўся задаволены загадчык,—давайце яшчэ падумаем і вырашым гэта ў рабочым парадку. У каго з'явіцца добрая думка, заходзьце да канца работы.

Разышліся. А праз некаторы час пачалося кароткае закрытае абмеркаванне. Да загадчыка пачалі заходзіць паасобку працаўнікі са сваімі прапановамі.

— Анатоль Пятровіч, лічу, што толькі ваша кандыдатура заслугоўвае на прадстаўленне, — сказаў Сямён Сямёнавіч, праціснуўшыся праз прыадчыненыя дзверы. — Але калі ўжо вы канчаткова адмовіцеся, то... каго хочаце. Але не Антона Паўлавіча... Каб вы пачулі, што ён вярзе на вас. Брыдка слухаць.

— Што?—падняў бровы загадчык.

— Прабачце, мне непрыемна паўтараць. Усё ж скажу. Антон Паўлавіч называе вас кар'ерыстам...

Праз мінут дзесяць, калі выйшаў Сямён Сямёнавіч, зайшоў, азіраючыся, Антон Паўлавіч. Ён таксама, зразумела, толькі за кандыдатуру загадчыка. Але ўжо калі ён не хоча прыняць гэту заслужаную ўзнагароду, то ні ў якім разе нельга дапусціць, каб у заслужаных апынуўся Сямён Сямёнавіч.

— Ён вельмі вялікай думкі аб сабе, а вас лічыць, прабачце, бяздарным...

Потым заходзілі Іван Сідаравіч і Сідар Іванавіч, Пётр Пятровіч і Яўген Адамавіч...

У канцы дня зноў пазваніў загадчык з вышэйшай установы.

— Ну, вылучылі кандыдатуру?

— Ды пакуль што няма дастойнай, — адказаў загадчык нашай установы.— Ён спадзяваўся, што голас у трубцы здзівіцца: «Як так, а Анатоль Пятровіч,—ці ж не дастойная кандыдатура?».

І тады ён будзе мець магчымасць сціпла адказаць: «Ды ўсе так лічаць, але я даў самаадвод»

У трубцы, аднак, пачулася іншае:

— Ну, як няма, дык няма. — І затым «пі-пі-пі...»

Усе разышліся ў той дзень з работы задаволеныя. Толькі загадчык доўга сядзеў сумны за сталом, паціраючы пальцам вуха, у якім усё яшчэ гудзела: «пі-пі-пі...»

## Мімаходзь

Я. САДОЎСКІ

Каб вывесці махляра на чыстую ваду, вады не трэба.

Аварыйная машына часцей за іншыя трапляла ў аварыю.

Кніжка выйшла... ў тыраж.

Ці не крыўдна — пасажыры ўспамінаюць машыніста толькі ў час штуршка.

Бяссцэнны акцёр.

Часам, каб утрымацца на нагах, трэба ўзяць сябе ў рукі.

С. ШЫКУН

Нават у пярсцёнка знаходзіў канец.

Мегэаролагі праспалі па...году.

Махнуў на поўнач... рукой.

План не выканалі, а даканалі.

Так умеў выкручвацца, што нават пад дажджом заставаўся сухі.

Паэт-пачатковец сеў бы на Пегаса, каб хто падсадзіў.

Мост быў развезены.

М. ШЛЯФЕР

Зашматсерыйны фільм.

Мал. Д. МІХЛЕЕВА.




За тры дні да падзення Трої.





. . . . . . . . .

Б. ГЕРСТАН

## Фіга скэйцінг

Гавораць, што гэта модна — займацца фігурным катаннем. Аддалі свайго сына ў такую секцыю і мы. На першыя заняткі павяла яго цешча. Вярнулася ганарыстая і доўга ні з кім не размаўляла.

Увечары я нясмела спытаў:

— Ну — як?

— Што — як?

— Ну, гэта, фігурнае катанне...

— Гаварыў бы хоць правільна! Гэта ж від спорту імпартны, па-англійску называецца «фіга скэйцінг». Такія рэчы трэба ведаць!

Больш я не пытаў нічога. Сын быў нейкі сумнаваты.

Потым павяла яго жонка. Вярнулася надта заклапочаная:

— Не атрымліваецца ў Пецькі «круцёлка». Сілы ў яго малавата. Яму б вітамінаў пабольш, ананасаў якіх ці што. Ды дзе так адразу іх дастанеш! Вось Аляксандр Сідаравіч свайму пастараўся б, — і яна кінула на мяне пагардлівы позірк. Пецька быў сумны і пануры.

Праз некалькі дзён на трэніроўку павёў Пецьку я. Пакуль малеча займалася, я разглядаў суседзяў. Іх вакол лёдавай пляцоўкі сабралася нямала — мамы, таты, бабулі, дзядулі... Кожны раўніва сачыў за сваім фігурыстам.

— Таварыш трэнер! — раптам крыкнула мая суседка справа, маладая, рыжавалосая мама. — Дазвольце яму зрабіць «тулуп».

— А мае ўнучаты ўжо «кракадзіла» ўмеюць. Ды яшчэ як! Хутка і да «тодаса» дабяруцца,— задумліва мармытаў дзед з пышнымі кавалерыйскімі вусамі.

— «Лібелу» давай! «Лібелу», табе кажуць! — крычаў салідны дзядзька свайму карапузу год сямі.

Я адчуваў сябе, як чалавек, што не ўмее трымаць відэлец і нож, а патрапіў на абед да парыжскага арыстакрата. Нечакана нехта мяне пацягнуў за рукаў.

— Звярніце ўвагу, — сказала мне таўстая жанчына, у якой я пазнаў прадаўшчыцу нашага магазіна «Гародніна», — якая складаная кампазіцыя ў таго хлопчыка! Гэта мой унук. Ён танцуе пад музыку Зупе і Легара. Як, вы не ведаеце, хто такі Зупе? Сорамна, малады чалавек!

Мне хоць скрозь зямлю праваліцца.

Дома чакалі жонка і цешча.

— Ну — як? — спытала цешча.

— Нішто сабе, толькі музыка не падыходзіць. Нейкага Супа.

— Зупе, — папраўіла жонка.

— А ўвогуле, гэтае фігурнае катанне...

— Зноў! — грозна сказала цешча. — Калі ты станеш культурным чалавекам? Гавораць табе: «фіга скэйцінг»!

І я не вытрымаў.

— Усё! Хопіць з мяне! Ніякіх болей «лібел», ніякіх Зупаў! Фігу вам! І без усякага «скэйцінг»!

Сын шчасліва ўсміхаўся.

По тэхнічных умовах унутраныя восем старонак газеты друкуюцца і выпускаюцца асобна ад васьмі знешніх. Атрымаўшы або набыўшы газету, укладзіце ўнутраныя аркушы ў знешнія.


«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР, Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 33 24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33 44-04, аддзела літаратуры — 33-22 04, аддзела тэатра, кіно і музыкі — 33-24 62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24 62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры — 33-21-53, выдавецтва — 32-22 19, бухгалтэрыі — 32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.